Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686



# «Зложым песню цэлым людам…»

**Іван САВЕРЧАНКА,**
**доктар філалагічных навук**

**Цётка (Алаіза Сцяпанаўна Пашкевіч) (1876 — 1916) — пачынальніца беларускай мадэрнісцкай літаратуры. Яна апублікавала два зборнікі вершаў “Скрыпка беларуская” (1906) і “Хрэст на свабоду” (1906), шэраг празаічных твораў і адукацыйна-асветніцкую кніжку “Першае чытанне для дзетак беларусаў” (1906).**
**У 1914 г. Цётка заснавала першы беларускі часопіс для дзяцей і моладзі “Лучынка”, была рэдактарам усіх яго шасці нумароў.**



У праграмным вершы “Скрыпка” (1906) Цётка вызначыла ўласную творчую місію і высакароднае прызначэнне паэзіі, акрэсліла эстэтычныя мэты творчасці і разнастайныя функцыі літаратуры — пазнавальную, выхаваўчую, асветніцкую.

На думку Цёткі, мастацкае слова ў першую чаргу павінна выказваць трывогі, перажыванні і клопаты людзей, іх боль, усё тое, што непакоіць, “што на сэрцы накіпела”. Паэзія мусіць апяваць прыгажосць прыроды і быцця, абуджаць у сэрцах людзей лепшыя пачуцці, выказваць мары аб шчасці і лепшай долі, убіраць у сябе мелодыі матчыных песень, праспяваных над калыскай, і ўсё багацце роднай зямлі.

Цётка бачыла велізарную патрэбу развіцця нацыянальнай літаратуры, усіх яе шматлікіх форм. Паводле яе слушнага меркавання, менавіта літаратура можа з’яднаць нацыю, узняць яе дух, далучыць да высокіх ідэалаў, абудзіць народ ад векавога сну і імкліва павесці яго ўперад. У вершы “Вам, суседзі” (1905) паэтка звяртаецца да “беларусаў-галубочкаў” з заклікам далучыцца да яе песні, каб увесь свет пачуў супольны голас Беларусі.

*Вам, суседзі, вам, кумочкі,*
*Беларусы-галубочкі,*
*Пяю з сэрца, падцінайце,*
*Вы грамадай голас дайце.*
*Зложым песню цэлым людам.*
*Выйдзе пекна, стане цудам.*
*Як свет светам яшчэ стаў,*
*Такой песні не слухаў:*
*Восем, дзевяць… і мільён*
*Грудзей зльецца ў адзін тон,*
*Дадуць песню, а ў ёй труд,*
*Доля, жыцце. Ці ж не цуд?*
*Ад вякоў мы, братцы, спалі,*
*А тут разам заспявалі.*

У вершы “Лета” паэтка стварыла яркі вобраз вясковага ігрышча, якое сімвалізуе маладосць, радасць жыцця. Ігрышча ў вершах Цёткі — праява знітаванасці людзей з наваколлем, з усёй жывой і нежывой прыродай.

Цётка ўздымала актуальныя агульнагрмадскія, сацыяльныя і палітычныя праблемы. Паэтка скіроўвала свой голас у абарону паняволенага селяніна, які штодня мусіў выконваць неверагодна цяжкую працу, але ледзьве зводзіў канцы з канцамі. У вершы “Мужыцкая доля” (1903) лірычны герой — Селянін — наракае на ўласны лёс, скардзіцца на невыносны сацыяльны прыгнёт, дармовую працу на пана, выслухоўванне брыдкай лаянкі эканома. Селянін не бачыць аніякага выйсця з беспрасветнай нэнды і жабрацтва, ён мусіць цярпець і моўчкі зносіць здзекі.

Вострую антыўрадавую і антыцарскую скіраванасць мае верш “Хрэст на свабоду” (1905). У ім паэтка ў вобразнай форме паказала жабрацкі стан людзей, гібенне салдат-рэкрутаў без належнай вопраткі і харчоў, невыноснае жыццё народа. Рэкі людскіх слёз і крыві ліюцца па абшарах усёй імперыі:

*На усходзе красна неба.*
*Нас не дзівіць — так і трэба!*
*Кроў ракамі льецца ў мора,*
*Салдат гіне там ад гора,*
*Без кашулі і без хлеба.*
*Нас не дзівіць — так і трэба!*

Расстрэл у 1905 г. мірнай дэманстрацыі ў Пецярбургу, даводзіла паэтка, раскрыў усім людзям вочы на сапраўдную сутнасць царызму, яго антычалавечую прыроду, паказаў грэблівае і зняважлівае стаўленне ўрада да патрэб і турбот народа.

Адзінае выйсце з цяжкага становішча і шлях вырашэння сацыяльных і нацыянальных пытанняў, на думку Цёткі, — рэвалюцыя. Народнае абурэнне і змаганне людзей за свае правы паэтка параўноўвала з бурай на моры, хвалі якога змываюць стары лад жыцця. Верш “Мора” (1905) — алегорыя народнага паўстання, якое ахоплівае ўсё існае, закранае ўсіх і паўсюль. Злая бура на моры — сімвал народнага пратэсту супраць рэлігіі і царкоўных дагматаў, адчайнага змагання супраць нябеснага трона і богавыбранай улады. Не зважаючы на страты і жорсткі характар бітвы, паэтка шчыра верыла, што марскія хвалі адужаюць злыя сілы, народзяць сапраўдных гігантаў для будучай стваральнай працы. Цётка прагне ўдзельнічаць у справядлівым паядынку, яна выказвае гатоўнасць аддаць уласнае жыццё ў імя будучыні.

Асаблівы клопат Цёткі — нацыянальнае адраджэнне, абуджэнне самасвядомасці народа, знішчэнне панскага прыгнёту.

Верш “Нямаш, але будзе” (1904) напоўнены нацыянальным і сацыяльным аптымізмам. У геніяльным вершы Цёткі “Вера беларуса” (1905) акрэслены велізарны стваральны патэнцыял беларускага народа, яго моц і загартаванасць, здольнасць пераадольваць любыя бар’еры на шляху да лепшага жыцця:

*Веру братцы:*
*людзьмі станем,*
*Хутка скончым мы свой сон,*
*На свет божы шырэй глянем,*
*Век напіша нам закон…*
*Веру, братцы, ў нашу сілу,*
*Веру ў волі нашай гарт:*
*Чую агонь ў нас — не брыну,*
*Бачу, братцы, мы не з карт,*
*Мы не з гіпсу,*
*мы — з камення,*
*Мы — з жалеза,*
*мы — са сталі,*
*Нас кавалі у пламенні,*
*Каб мацнейшымі мы сталі.*
*Цяпер, братцы, мы з граніту,*
*Душа наша з дынаміту,*
*Рука цвёрда, грудзь акута,*
*Пара, братцы, парваць пута!*

Цётка стварыла цыкл яркіх празаічных твораў — апавяданняў і замалёвак.

Найбольш значнае ў ідэйна-мастацкім плане апавяданне “Прысяга над крывавымі разорамі” (1906). Паводле зместу і формы апавяданне з’яўляецца алегарычнай замалёўкай. На старонках твора Цётка выказала веру ў наступленне сацыяльных і палітычных перамен як на Беларусі, так і ва ўсёй Расійскай імперыі. Сыны селяніна Мацея — парабак, жаўнер і пецярбургскі рабочы з’яўляюцца перад ім, калі ён, цяжка працуючы, страціў прытомнасць на ралллі. Яны становяцца на калені перад бацькам і гучна прысягаюць: “Мы дамо! Мы — сіла! Мы — правы!”

Выключнае пазнавальнае і выхаваўчае значэнне маюць творы Цёткі, змешчаныя ў “Першым чытанні для дзетак беларусаў”. У выданні прадстаўлены арыгінальныя пейзажныя замалёўкі, пранікнёныя навелы і апавяданні, вершаваныя творы, прыказкі і загадкі, народныя прыпеўкі ў літаратурнай апрацоўцы.

Такім чынам, Цётка актыўна спрычынілася да фармавання новай беларускай літаратуры, паэзіі і прозы, паспрыяла станаўленню і ўдасканаленню літаратурнай мовы. Яна адстойвала ідэі сацыяльнай справядлівасці, выступала за ўсебаковае развіццё нацыянальнай культуры.

## Пункцірам

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 80-годдзем народнага артыста РСФСР Аляксандра Фляркоўскага. "У Беларусі добра ведаюць і высока цэняць Вашу творчасць. Няхай яна і ў далейшым яднае людзей, мацуе культурныя сувязі нашых краін", — адзначыў кіраўнік дзяржавы.

У Віцебску адбылася рабочая сустрэча Міністра культуры Беларусі Паўла Латушкі з Міністрам культуры Украіны Міхаілам Кулыняком. Былі абмеркаваны пытанні супрацоўніцтва ў сферы адукацыі, музейнай і бібліятэчнай спраў. Міністры дамаўляліся пра абменныя гастролі Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы і Нацыянальнага тэатра імя Івана Франко. У гэты ж дзень у рэдакцыі газеты "Віцьбічы" прайшла "прамая лінія" з Паўлам Латушкам.

Ганконгская тэлекампанія "Фенікс" здымае 5-серыйны дакументальны фільм пра Беларусь. Кожная серыя будзе прысвечана асобнай тэме. У сферы зацікаўленасці ганконгскіх журналістаў — сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі, а таксама нашы гісторыя, культура, прырода.

Беларускія музыканты, студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Аляксандра Іванова і Вольга Гурбо сталі лаўрэатамі XVII Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў імя Эўгена Кокі. Конкурс праходзіў у Кішынёве.

Помнік святым апекунам сям'і, князю Пятру і княгіні Фяўроніі Мурамскім, адкрыты ў вёсцы Сар'я Верхнядзвінскага раёна. Адкрыццё яго стала адным з мерапрыемстваў свята сям'і, арганізаванага Праваслаўнай царквой. Вёска Сар'я заслужыла права на правядзенне такога свята невыпадкова. Тутэйшы храм быў пабудаваны мясцовым памешчыкам Ігнатам Лапацінскім у памяць пра сваю рана памерлую жонку Марыю. Свята сям'і, любові і вернасці тут мяркуецца зрабіць традыцыйным. Ужо ў наступным годзе ў яго з'явіцца свая сімволіка і гімн.

VI Міжнародны фестываль харэаграфічнага мастацтва "Сожскі карагод" пройдзе ў Гомелі 15—18 верасня. Традыцыйна ў фестывалі прымуць удзел аматарскія харэаграфічныя калектывы народна-сцэнічнага, эстраднага танца, сучаснай харэаграфіі, выканаўцы спартыўных бальных танцаў, тэатры танцаў агню з Беларусі і іншых краін.

Майстрыхі Паўлавапасадскай хустачнай мануфактуры стварылі шаль, прысвечаны Беларусі. Мастачку Валерыю Фадзееву, якая распрацоўвала малюнак, натхніла на працу песня "Малиновки заслышав голосок" з рэпертуара Ядзвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча.

Помнік гісторыка-культурнай спадчыны XVI—XVII стагоддзяў Любчанскі замак (Навагрудскі раён) будзе адноўлены ў стылістыцы XVII стагоддзя. Добраахвотныя памочнікі, сярод якіх прафесары і студэнты БНТУ, ужо распрацоўваюць праект аднаўлення замка. Валанцёры з усёй Беларусі задзейнічаны ў будаўнічых работах. Перад рэстаўратарамі стаіць задача таксама захаваць у рэнесанснай стылістыцы адзіны ў Беларусі Любчанскі замкавы парк, які складаецца толькі з ліп.

**Падрыхтавала Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

## Стасункі

***Аляксей ГАРБУНОЎ, фота аўтара***

# Каб радзіма жыла ў сэрцы

**У рамках XX Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" прайшоў Першы фестываль мастацтваў беларусаў свету. Гэты маштабны культурны праект стаўся рэалізаваным па выніках першага пасяджэння Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь.**



Удзел у ім прынялі больш за 230 прадстаўнікоў беларускай дыяспары. Яны прапанавалі шырокую праграму мерапрыемстваў, сярод якіх былі канцэрты калектываў мастацкай самадзейнасці беларусаў замежжа ў Віцебску і на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў Мінску, адкрыццё мастацкай выстаўкі "Беларускія мастакі ў свеце" ў Нацыянальным мастацкім музеі і фотавыстаўкі ў Нацыянальным гістарычным музеі, прысвечанай дзейнасці беларускіх аб'яднанняў за мяжой. Урэшце, творчая сустрэча пісьменнікаў беларускага замежжа ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.

Пасля змястоўнай экскурсіі, падчас якой госці азнаёміліся з багатай экспазіцыяй музея, літаратары сабраліся ў музейнай гасцёўні. Узяўшы слова, намеснік міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі заўважыў, што беларусы, якія пражываюць за мяжой, ствараюць імідж Беларусі ў свеце. Таму так важна, каб іх кантакт з роднай краінай быў непарыўным.

На сустрэчы гэтай побач з беларускімі калегамі апынуліся Вера Сугак з Малдовы, Станіслаў Валодзька з Латвіі, Пётр Капчык з Украіны, Валерый Казакоў і Уладзімір Шугля з Расіі, а таксама Міраслава Лукша і Юрый Баена з Польшчы. Некаторыя з пісьменнікаў, нягледзячы на сваё замежнае грамадства, з'яўляюцца членамі Саюза пісьменнікаў Беларусі, і таму па вялікім рахунку іншаземцамі сябе ў Беларусі не адчуваюць. Дарэчы, ніхто з іх не з'яўляецца эмігрантам. Усе яны — хутчэй літаратары беларускага памежжа, чым замежжа. І адрозніваць гэтыя два паняткі заклікаў прысутных доктар філалагічных навук, літаратуразнаўца Адам Мальдзіс. Ён выступаў адразу пасля прэзентацыі кніжнай выстаўкі "Пісьменнікі беларускага замежжа", старанна і з любоўю падрыхтаванай работнікамі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. На паліцах апынуліся не толькі кнігі беларускіх эмігрантаў, але і калекцыя беларускіх часопісаў і газет, што ў розныя часы выдаваліся ў далёкім замежжы.

Адам Мальдзіс прызнаўся, што сёлетняя сустрэча беларускіх пісьменнікаў нагадвае яму вясёлае, шумнае славянскае вяселле, дзе кожны кожнаму жадае дабра і шчасця. "Дык няхай жа ў выніку гэтага вяселля, — выказаўся вучоны, — народзяцца дзве дзяўчынкі —Бібліятэка і Анталогія. *Бібліятэка* кніг літаратараў беларускага замежжа і "*Анталогія* сучаснай беларускай літаратуры замежжа". Прапанова была горача падтрымана. Новай бібліятэцы ў сценах музея адразу ж былі падараваны некалькі кніг з аўтографамі аўтараў.

Старшыня Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі" Валерый Казакоў паведаміў прысутным пра асветніцкую дзейнасць арганізацыі, якую ўзначальвае. Гэта перш за ўсё вяртанне на Беларусь электроннай версіі "Баркулабаўскага летапісу", які насамрэч аказаўся не той 74-старонкавай кніжачкай, якую даследчыкі ведалі па ранейшых перакладах, а аб'ёмістым фаліянтам, напісаным на старажытнабеларускай мове.

Міраслава Лукша расказала пра дзейнасць на Беласточчыне літаратурнага аб'яднання "Белавежа", якому ўжо амаль 55 гадоў. Беластоцкім беларусам ўдалося знайсці паразуменне з польскімі ўладамі, і яны штогод спансіруюць выданне каля дзесяці кніжак на беларускай мове. Рэгулярна выходзіць гадавік "Тэрмапілы". Але горыч гучала ў голасе паэткі, калі распавядала яна пра тое, што асіміляцыя ўсё ж такі дзейнічае на беларусаў Польшчы, і ў некаторых рэгіёнах беларуская мова становіцца проста мовай хатняй. "Гаспадар размаўляе на ёй са сваім канём, з сабакам, можа, з жонкай. Але не з дзецьмі, — дзеці беларускай мовы ўжо не разумеюць".

З цікавасцю слухалі госці выступленне дырэктара радыёстанцыі "Беларусь" паэта Навума Гальпяровіча, чыя дзейнасць ужо шмат гадоў скіраваная на тое, каб данесці да людзей, што жывуць па-за межамі Беларусі, дастыверную інфармацыю пра ўсё, што адбываецца ў нас у краіне, праінфармаваць, якія набыткі маем мы ў літаратуры і мастацтве. Усе напрыканцы сустрэчы прыйшлі да высновы: такія мерапрыемствы трэба ладзіць часцей, бо яны ўзаемаўзбагачаюць нас, дапамагаюць не забыцца пра галоўнае: Беларусь можа быць нават там, дзе жыве толькі адзін беларус. Галоўнае, каб яна была ў сэрцы.

***На здымку: выступае Валерый Казакоў.***

## За падзеяй

# І сабраліся сябры ў Александрыі…

***Ірына МАСЛЯНІЦЫНА, фота Юрыя Іванова***

**Ужо другі раз традыцыйнае народнае свята Купалле ("Александрыя запрашае гасцей") шырока адзначалі ў аграгарадку Александрыя на Шклоўшчыне. Сюды з'ехаліся лепшыя прафесійныя і самадзейныя артысты, народныя ўмельцы з усіх куткоў Магілёўскай і суседняй з ёю Віцебскай абласцей, знаўцы фальклору і этнаграфіі, афіцыйныя асобы з ліку раённага і абласнога кіраўніцтва, а таксама прадстаўнікі Міністэрства культуры Беларусі на чале з міністрам Паўлам Латушкам. У ходзе рабочай паездкі ў Магілёўскую вобласць завітаў у Александрыю і Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Зрэшты, мясцовае насельніцтва гэта зусім не здзівіла. Куды ж, калі не ў Александрыю, Аляксандру Рыгоравічу па Папараць-кветку ездзіць? Гэта яго малая радзіма.**

Александрыя сустрэла пасляпаўдзённым спакоем, спевамі птушак, водарам зеляніны. На прыгожых вуліцах яе было ціха і пакуль бязлюдна — александрыйцы яшчэ працавалі. Але ўдалечыні, на зялёнай лужайцы на беразе Дняпра, ужо распачыналася весялосць. Зманціраваныя з раніцы павільёнчыкі гасцінна запрашалі пакаштаваць беларускія стравы, ажывау "Торад майстроў", спявалі народныя песні самадзейныя калектывы, а хтосьці — безумоўна, госці свята — ужо прыцэньваліся да прыгожых сувеніраў. Іх было так шмат, што вочы разбягаліся. Прычым, кожны з раёнаў вобласці пастараўся на стылізаваным падвор'і прадставіць усё самае адметнае, самае характэрнае для народнай творчасці свайго рэгіёна. А яшчэ — завабіць наведвальнікаў падвор'я прыняць удзел у вясёлых народных гульнях і традыцыйных купальскіх спаборніцтвах.

Шклоўская слабада здзівіла наяўнасцю русалак: са зманлівымі ўсмешкамі, раскіданымі па плячах валасамі і рыбінымі хвастамі. Здаецца, хвасты гэтыя нават варушыліся! На падвор'і Магілёўскага раёна весела гралі музыкі — кожны ў раскідзістым вялікім купальскім вяночку. Аршанскае падвор'е і падвор'ем было цяжка назваць — замак з рыцарамі ў даспехах і паненкамі ў аксамітавых сярэднявечных суконках. Гасцінны двор Бабруйскага раёна атачылі ганчары. З Мсціслаўскага падвор'я даносіўся ляск жалеза — там працавалі кавалі. Крычаў прадставіў рэзчыкаў па дрэве і майстроў вырабу свісцёлак — цацачных дзіцячых і сапраўдных дарослых, якія выкарыстоўваюць прафесійныя музыканты. Але галоўнай асобай свята была, безумоўна, казачная Папараць-кветка. Чамусьці больш за ўсё такіх кветак "вырасла" са звычайнай саломы. Але затое якія яны былі цудоўныя! Залацістыя, з разнымі лісточкамі і зіхатлівымі пялёсткамі. Госці свята спрачаліся, на якім падвор'і Папараць-кветкі самыя прыгожыя. А стваральнікі цудоўных купальскіх талісманаў запэўнівалі, што кожны з іх, нягледзячы на памер і форму, стане ў нашых руках кветкай шчасця і будзе прыносіць радасць і ўдачу ў дом.



Паступова народ стаў прыбываць. Александрыйцы ішлі на бераг Дняпра святочна апранутыя, з дзецьмі. Напэўна, ніхто не ўмее так шчыра радавацца і так весела адзначаць святы, як працаўнікі сяла. Не ўсталі перад абаяннем александрыйскага Купалля і Міністр культуры Беларусі Павел Латушка, і начальнік упраўлення культуры Магілёўскага аблвыканкама Анатоль Сінкавец. Яны весела жартавалі са святкуючым людам і нават дазволілі залучыць сябе ў карагодные кола. Прэзідэнта ж Беларусі Аляксандра Лукашэнку зацікавілі ў першую чаргу вырабы рамеснікаў. Ён ацаніў іх работы і, між іншым, адзначыў асаблівую значнасць захавання традыцый народных рамёстваў. Па-першае, гэта наша спадчына — няхай і нашчадкам будзе чым ганарыцца! Па-другое, вырабы рамеснікаў надта падабаюцца турыстам.

Кульмінацыяй свята стаў вялікі канцэрт лепшых эстрадных выканаўцаў Беларусі "Купалле над Дняпром". Асноўная ідэя канцэртнай праграмы — яднанне славян. Вялікая славянская рака Днепр стала своеасаблівым сімвалам гэтага яднання. А яшчэ ў канцэрце гучала шмат песень пра каханне. Бо Купалле хаця свята і традыцыйнае, але моладзевае. Свята, падчас якога маладыя людзі давалі адно аднаму шлюбныя зарокі. У канцэрце прынялі ўдзел таксама госці з Расіі (гурт "Смаленскія мужыкі") і Украіны (народны артыст Украіны Мікалай Гнацюк). Завяршыўся паказ глыбокай ноччу фантастычным лазерным шоу, феерверкам і традыцыйнымі купальскімі вогнішчамі. Усяго ў свяце — гэта было падлічана арганізатарамі — прынялі ўдзел каля 15 тысяч чалавек. Але александрыйцы не сумняваюцца: у наступным годзе гасцей будзе болей і свята станецца яшчэ больш грандыёзным.

***На здымку: і кожны з гасцей Александрыі ў гэты дзень мог прымерыць сапраўдны купальскі вянок.***

Літабсягі

Юрый ВЯРБІЦКІ,
фота Таццяны Русаковіч

# «Капыльскія пацехі»

**IV абласны фестываль гульні і гумару “Капыльскія пацехі” быў прысвечаны 115-годдзю з дня нараджэння Кандрата Крапівы і 70-годдзю альманаха “Вожык”.**



У 1990 годзе на базе раённага цэнтра культуры быў створаны першы ў Мінскай вобласці тэатр гульні, які называўся “Капыльскія пацехі”. Тэатр у 2000 годзе стаў ініцыятарам правядзення абласнога фестывалю гульні і гумару. Сёлета на славутай і гасціннай капыльскай зямлі прайшла прэзентацыя “Вожыка”, адкрыццё выставы карыкатур, гумарыстычных малюнкаў і шаржаў вядомага мастака-карыкатурыста Аляксандра Каршакевіча, а ад РВУ “Літаратура і Мастацтва” і Саюза пісьменнікаў Беларусі былі ўручаны ганаровыя граматы арганізатарам і ўдзельнікам свята.

Пасля адбылося ўрачыстае адкрыццё фестывалю і тэатралізаванае відовішча з удзелам гульнёвых калектываў, жартоўных гуртоў, гумарыстаў, прыпевачнікаў. І так жартавалі хлопцы і дзяўчаты, бабулі і дзядулі, што здолелі рассмяшыць нават сонейка, якое ўрэшце паказалася з-за аблокных хмар, каб зірнуць на капыльскіх жартаўнікоў. Таму і атрымалі яны, як кажуць, па заслугах. Строгае, але з добрым пачуццём гумару журы ў складзе старшыні, прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Пятра Гуда, дырэктара Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці Раісы Вайцяхоўскай, галоўнага рэдактара альманаха “Вожык” Юліі Зарэцкай, выкладчыка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Аляксея Камінскага, галоўнага рэдактара часопіса “Вясёлка” Уладзіміра Ліпскага, галоўнага спецыяліста ўпраўлення культуры Мінскага аблвыканкама Галіны Ляйко і пісьменніка-“вожыкаўца” Паўла Саковіча вызначыла пераможцаў у дзвюх катэгорыях — “жартоўныя гурты” і “гульнёвыя калектывы”. Імі сталі: драмгурток “Асарці” Клецкага РЦК (1-е месца), жартоўны гурт “Дубінскія фанабэры” Валожынскага раёна (2-е месца), гурт народнага гумару і жартаў “Смехаўё” Любанскага РЦК (3-е месца) і народны тэатр гульні і гумару “Капыльскія пацехі” (1-е месца), народны тэатр народнай гульні “Старадарожская лясёнка” (2-е месца), маладзёжны тэатр гульні “Балаган” Плешчаніцкага ГДК Лагойскага раёна (3-е месца) адпаведна. Дыпломамі I, II і III ступеняў узнагароджаны індывідуальныя выканаўцы Ганна Клімаш (Стаўбцоўскі РЦК), Аляксей Дунчанка (Сноўскі ЦКіА Нясвіжскага раёна) і Валянціна Шыманская ў дуэце са Станіславам Цвіркам (Лотвінскі СДК Капыльскага раёна).

***На здымку: вось яны якія вясёлыя, гурт народнага гумару і жартаў “Смехаўё”.***

Артлінія

# Класіка? Гэта класна!

**Напярэдадні закрыцця чарговага сезона Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь яго мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Яўген Бушкоў распавёў журналістам пра планы на наступны канцэртны год.**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

Маэстра ўдакладніў, што, складаючы рэпертуар аркестра, ён зыходзіць з таго, каб абраныя творы былі цікавыя найперш для яго самога, аднак рэгулярна збіраюцца нарады з прадстаўнікамі мастацкага савета калектыву, музыканты аркестра прапануюць свае ідэі. Бо канцэрт, перакананы Яўген Бушкоў, павінны несці нейкую ідэю: “Не кожная праграма можа быць канцэптуальнай, яна можа быць змяшанай, з пэўнымі “кручкамі”, у якіх мае патрэбу беларуская аўдыторыя (за два сезоны працы ў Белдзяржфілармоніі я ў гэтым пераканаўся). Але ў кожным разе гэта не выпадковы набор твораў”.

Новы сезон аркестра пачнецца ў кастрычніку. Ды ўжо сёння вядома, што ўдзел у канцэрце адкрыцця возьме славуты акардэаніст Фрыдрых Ліпс; сярод салістаў замоўлены таксама піяніст Святаслаў Ліпс, віяланчэліст Станіслаў Пятчанка і пакуль не абвешчаны выканаўца на скрыпцы. Праграма складаецца з твораў В. А. Моцарта, Я. Падгайца, А. П’яцолы, С. Губайдулінай, 80-годдзю якой будзе прысвечана выкананне “Сямі слоў Хрыста” для акардэона, віяланчэлі ды струнных. У планах — тры гала-канцэрты. Пад кідкаю назвай “Салют Кармэн!” рыхтуецца супольны праект аркестра пад кіраўніцтвам Я. Бушкова і Маладзёжнага камернага аркестра Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. У праграме — выбраныя арыі з неўміручай оперы Ж. Бізэ, “Carmen-Phantasy” Ф. Прота для кантрабаса з аркестрам, “Кармэн-сюіта” Ж. Бізэ — Р. Шчадрына для струнных і ўдарных. Канцэптуальны канцэрт “Бег ад Баха да П’яцолы” прапануе рух у часе і прасторы праз творы Ё. С. Баха, Л. ван Бетховена, А. Анегера, Дж. Вердзі, А. П’яцолы, напісаныя ў форме фугі (у перакладзе з лацінскай — “уцёкі”, “пагоня”, “бег”). А якім сюрпрызам будзе вечар “Паравіны... «Beatles»” з удзелам турэцкага дырыжора і піяніста Эрола Эрдзінча!



У цыкле “Легенды выканальніцкага мастацтва” ўдзельнічаюць дырыжор і саліст-скрыпач Валянцін Жук; дырыжор і саліст-віяланчэліст Аляксандр Рудзін; віяланчэлістка Наталля Гутман...

Ёсць у Яўгена Бушкова і аўтарскі праект-абанемент для дзяцей ды іх бацькоў: тры праграмы пад агульнай назвай “Класіка гэта класна!” А ці будзе ў рэпертуары аднаго з вядучых творчых калектываў краіны старонка беларускай нацыянальнай музыкі? Сезон пакажа...

***На здымку: мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі, заслужаны артыст Расіі Яўген Бушкоў.***

Повязі

# У Саюзе з музай

**Віцебск з яго неабмежаванай творчай прасторай сустракае найвыбітнейшых асоб сучаснай гісторыі: і не толькі на эстрадных падмостках. У межах Міжнароднага мастацкага фестывалю “Славянскі базар у Віцебску” адбылося значнае і высокае ў сваёй місіі свята — сустрэча з намінантамі на прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2011—2012 гады.**



Ірына ТУЛУПАВА

Сустрэча яскрава, як мазок-росчырк майстра на палатне, высвеціла даўно прыкмечанае: сапраўднае мастацтва, як беларуская крынічка, невычэрпнае: па тэмах, спосабах выяўлення, магчымасцях раскрыцця асобы творцы і праз яго — вялікага зямнога сусвету. Што ў ім шчыруюць таленты, пераконваць не трэба нікога: дастаткова згадаць цыклы і аўтараў, што вылучаны на прэмію. Беларускасць — таксама тэма неаспрэчная.

“Беларускі сшытак” — гэта паэтычны цыкл, які разам з паэмай “Чмель у аўтобусе” і асобнымі вершамі прадстаўляе паэт, пісьменнік, член Саюза пісьменнікаў Расіі Глеб Гарбоўскі. “У Беларусь мяне прывяла любоў, — запэўнівае майстра, беручы пад увагу шматзначнасць слова “любоў” і яго высокадухоўны сэнс у мове беларускай, дзе поруч з ім ёсць і дакладнае, эмацыянальна-ўзвышанае “каханне”. — У канцы 60-х гадоў мінулага стагоддзя маёй жонкай стала беларуская дзяўчына з Віцебска. Усё, што я напісаў у сваіх кнігах і выдаў у перыядычным друку з 1969 па 1994 год, было створана ці задумана ў горадзе Віцебску ці ў вёсцы Цяцеркі паблізу яго”.

Народжанае на гэтай шчодрай зямлі мае свой шчаслівы працяг і не патрабуе дадатковага піяру. Дастаткова згадаць, да прыкладу, канцэртныя праграмы Юрыя Башмета: яны самадастатковыя нават у фінансавым плане. З 2006 года Міжнародны фестываль Юрыя Башмета з’яўляецца актыўным творчым удзельнікам каляндара культурных падзей.

Альбо спектакль “Вяселле”, прэм’ера якога адбылася ў лютым 2009 года на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Ён стаў знакавым сумесным беларуска-расійскім праектам. У складзе творчай групы — народны артыст СССР і Беларусі Генадзь Аўсяннікаў, народныя артысты Беларусі Генадзь Гарбук, Мікалай Кірычэнка, Арнольд Памазан, заслужаныя артысты Зінаіда Зубкова, Наталля Качаткова ды шмат-шмат іншых знаных асоб.

Ад Беларусі намінантам на прэмію Саюзнай дзяржавы вылучаны яшчэ цыкл жывапісных і графічных работ Георгія Паплаўскага “Гісторыя і сучаснасць”, серыя графічных цыклаў “Высокае неба”, “Радзіма касманаўтаў”, “Чарнобыль. Будні беларускія”, таксама графічныя серыі афортаў і літаграфій да кніг “Слова пра паход Ігараў”, “Апавяданні” Васіля Быкава, “Яна і я” Янкі Купалы, “Выбранае” Якуба Коласа.

Сярод суіскальнікаў прэміі таксама калекцыя паўлавапасадскіх хустак “Спадчына”. Выстаўка з іх — “Кветкі Расіі” — гасцявала на беларускай зямлі, у прыватнасці, у Віцебскім мастацкім музеі, і атрымала ухвальныя водгукі.

Намінанты на прэмію Саюзнай дзяржавы пакуль што знаходзяцца ў творчым спаборніцтве, а беларусы і расіяне маюць выдатную магчымасць падчас сустрэч і выставак спрычыніцца да стваральнага свету іх высокадухоўнага мастацтва.

***На здымку: работа Г. Паплаўскага “Сын зямлі беларускай — Францыск Скарына”.***

З-пад пяра

З нагоды 135-годдзя з дня нараджэння слыннай беларускай паэтэсы Алаізы Пашкевіч (Цёткі) прайшлі літаратурныя чытанні ў вёсцы Стары Двор Шчучынскага раёна. Удзел у мерапрыемстве прынялі члены Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі — Браніслаў Ермашкевіч, Тамара Мазур, Ганна Скаржынская, Мікалай Сяроў і Іван Пяшко. На магіле Алаізы паэты чыталі свае творы, прысвечаныя ёй. Дзеці ўпэўнена дэкламавалі вершы Цёткі. Своеасаблівы каларыт юбілейнай урачыстасці надалі спевы Народнага хору польскай песні “Промень” са Шчучына.

**Ніна ПОЛЯК**

Як нараджаюцца вершы? І ўвогуле, што гэта за прафесія такая — паэт? Калі юных чытачоў Гатаўскай сельскай бібліятэкі-клуба Мінскага раёна зацікавілі гэтыя пытанні, бібліятэкары вырашылі запрасіць да іх у госці сапраўднага паэта, аўтара многіх дзіцячых кніг Уладзіміра Мазго. На сустрэчу з літаратарам прыйшлі і дзеці, якія адпачываюць у летнім аздараўленчым лагеры “Дружба”, што дзейнічае на час летніх канікул пры Гатаўскай школе. Больш за паўтары гадзіны Уладзімір Мінавіч гутарыў з дзецьмі, чытаў свае вершы, казкі, загадкі, вясёлыя і займальныя, дасціпныя і пазнавальныя, адказваў на бясконцыя пытанні.

**Іна УРБАН**

Новы праект Андрэя Бусла “Aeternus et momentum” прадстаўлены ў галерэі сучаснага мастацтва “Ў” пры падтрымцы FOREX CLUB у Беларусі. Мастаку ўдалося гарманічна скласці ў адно цэлае вобразы Рэнесансу, тэхніку street-art і звычайныя будынкі нашага Мінска. Гарадское асяроддзе напоўнена жыццёвым рытмам, актуальнымі пытаннямі, скульптурнай і архітэктурнай адметнасцю — усё тое, што ёсць у паўсядзённай прасторы, выяўлена ў праекце А. Бусла.

**Дар’я ШОЦІК**

У сталічным Музеі выяўленчага мастацтва прайшла выстаўка "За кулісамі польскага тэатра" мінскага фотамайстра А. Васілеўскага. Ён аспірант Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і кіруе тэатрам-студыяй імя Я. Міровіча. Летась наведаў фэст "Praprеmier" у Будгашчы. Затым былі Варшава і Кракаў. Фотаўражанні ад паездкі знайшлі адлюстраванне на выстаўцы.

**Уладзімір СТАРАСЦЕНКА**

Маладыя беларускія музыкі, мастакі, тэатралы зладзілі эксперыментальнае этна-трансшоу ў сталічным клубе “Fabrique”. Памяшканне расфарбавалі флюрэсэнтнай фарбай ды пакінулі фарбу гасцям — для роспісу твару і рук. “Павідла” — так звався праект бубначоў па аналогіі з “Джэмам” у джазе. Бубначы ў сваёй шаманскай медытацыі зліваліся з ды-джэямі — вось і атрымаўся этна-транс! Была папулярная бразільская капаэйра і неонавае шоу. Ну а завяршыў імпрэзу відовішчны малады пластычны тэатр “уКубе”.

**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ**

**Да свята беларускага пісьменства засталося 50 дзён**

# Ганцавічы ў палоне надзей

***Спрадвеку ціхія і спакойныя Ганцавічы сёння нагадваюць растрывожаны пчольнік. Куды ні кінь — людзі ў аранжавых шлемах, стрэлы аўтакранаў, экскаватары, самазвалы, бульдозеры, катлаваны, траншэі цеплатрас, штабялі цэглы, пліткі, трубаў… Адусюль чуецца стук адбойных малаткоў, піск электрапілаў, з рыштаванняў сыплюцца іскры газазваркі… Палескі гарадок ператвараецца ў вялікую будаўнічую пляцоўку, каб у пачатку верасня па праву і годна назвацца сталіцай традыцыйнага свята — Дня беларускага пісьменства.***



*Ганцавічы з вышыні птушынага палёту*

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ, фота Анатоля Клешчука**

## Выбар невыпадковы

*Ёсць гарадок*
*над рэчкаю Цною*
*Сярод лясоў палескіх*
*і балот…*
*Не знаю, што ў жыцці*
*было б са мною,*
*Калі б яго на свеце не было.*

**Міхась Рудкоўскі**

Месца правядзення Дня беларускага пісьменства выбрана невыпадкова, не па “разнарадцы”. Папраўдзе кажучы, Ганцавічы заслугоўваюць самай пільнай увагі. Тут жывуць на дзіва прыгожыя, працавітыя, таленавітыя, ветлівыя людзі, з іх самабытнай культурай і векавымі традыцыямі. Гэтая зямля дала свету шмат выбітных асоб. Сярод іх — адмысловыя працаўнікі, вучоныя, педагогі, народныя майстры, вядомыя дзяржаўныя і палітычныя дзеячы, кваліфікаваныя спецыялісты ўсіх сфер народнай гаспадаркі. Іх веды, розум, самаадданая праца ўзбагацілі не толькі палескі край, але і ўсю Бацькаўшчыну, імя якой — Беларусь.

Паэтычна-песенная, маляўнічая Ганцаўшчына — яшчэ і край слынных літаратараў, якія нарадзіліся, выраслі і працавалі тут і якія сваёй творчасцю ўнеслі важкі ўклад у нацыянальную беларускую літаратуру і літаратуру наогул.

У вёсцы Люсіна калісьці пачынаў настаўніцкі і пісьменніцкі шлях Якуб Колас. Падзеям, што адбываліся тут на пачатку XX стагоддзя, прысвечана яго аповесць “У палескай глушы” — першая з трылогіі “На ростанях”. Сёння на месцы школы, дзе ён працаваў, устаноўлены памятны знак. На былым фундаменце ляжыць вянок круглых бярвенняў, а побач — драўляныя фігуры коласаўскіх герояў і вялікі валун з адпаведным надпісам. Імя песняра носіць чыгуначная станцыя.

Не так далёка ад Люсіна — на хутары Шарпутоўшчына, што ў ваколіцах вёскі Пярэвалакі, на беразе Лані, адкрываў скарбы народнай мудрасці славуты асветнік, этнограф і вучоны Аляксандр Сержпутоўскі (1864—1940). У 1906 годзе ён, рэгістратар этнаграфічнага аддзела Рускага музея, здзейсніў дзве экспедыцыі на Палессе, дзе сабраў багатую калекцыю, зрабіў мноства фотаздымкаў, дзякуючы чаму ўся Расія пазнаёмілася з фальклорам палешукоў. Аляксандр Казіміравіч — аўтар зборнікаў “Казкі і апавяданні беларускага Палесся”, “Прымхі і забабоны беларускіх палешукоў”, “Граматычнага нарыса беларускай гаворкі вёскі Чудзіна Слуцкага павета Мінскай губерні”, іншых твораў.

У пасляваенны час на Ганцаўшчыне вырасла, узмужнела, набралася сіл для высокага палёту новае пакаленне творцаў — Міхась Рудкоўскі, Іван Кірэйчык, Віктар Гардзей — лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа, Уладзімір Марук, Алесь Каждадуб, Алесь Каско — лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова, Іван Лагвіновіч, Міхась Дубянецкі…

З гэтым унікальным палескім кутком цесна звязаны лёсы і творчасць выдатнага празаіка і публіцыста, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі Саюза журналістаў СССР, заслужанага дзеяча культуры рэспублікі, былога рэдактара раённай газеты “Савецкае Палессе” Васіля Праскурава, паэтаў Міколы Купрэева, Міколы Антаноўскага, Святланы Асаўцовай, Анатоля Кудласевіча, Анатоля Трафімчыка і іншых літаратараў.

Пра іх жыццё і творчыя здабыткі падрабязна распавядаецца ў кнізе “Паміж Бобрыкам і Ланню” (Ганцаўшчына літаратурная), выдадзенай “Мастацкай літаратурай” некалькі гадоў таму.

І сёння літаратурнае жыццё на Ганцаўшчыне віруе. На змену літаратарам старэйшага пакалення прыходзяць маладыя. Упэўнена на старонках газет і часопісаў, у калектыўных зборніках заяўляюць аб сабе члены ўзорнага літаратурнага аб’яднання “Верасок” пры раённым цэнтры дзіцячай і юнацкай творчасці, заснавальнікам якога з’яўляецца Вера Паляшчук — заслужаная настаўніца Рэспублікі Беларусь. Цвёрды крок да Парнаса зрабілі паэты Святлана Локтыш, Аляксей Галаскок, Ніна Кавальчук, Ала Мірзаліева, Ніна Таўтын, Алена Люсько. Іх вершаваныя творы ўжо цяпер вартыя таго, каб увасобіцца ў аўтарскія паэтычныя зборнікі. Творчасць маладых — яскравае сведчанне таго, што паэтычная крыніца, якая аднойчы забіла магутным струменем на гэтай прыгожай зямлі, невычэрпная, яна падпітвае і дае сілу маладым літаратурным парасткам. Самім лёсам ім наканавана ўслаўляць тую зямлю, той край, якія далі ім крылы для вольнага творчага палёту.

На Ганцаўшчыне, мабыць, як нідзе, любяць і паважаюць сваіх творцаў. Супрацоўнікі раённай бібліятэкі імя В. Праскурава ладзяць сустрэчы з пісьменнікамі, прэзентацыі іх кніг, на якіх прысутнічае шмат моладзі і людзей сталага ўзросту. Цікава праходзіць акцыя “Час чытаць на беларускай мове”. Раённы краязнаўчы музей распрацаваў турыстычныя маршруты “Літаратурная Ганцаўшчына”. Адзін з іх пачынаецца ў вёсцы Малыя Круговічы, на вуліцы В. Гардзея. Затым экскурсанты едуць у Востраў, дзе нарадзіўся і пахаваны М. Рудкоўскі, а адтуль у Гуту — малую радзіму І. Кірэйчыка і У. Марука. Вядома ж, у час такіх вандровак ідзе размова пра жыццё і творчасць пісьменнікаў, праводзяцца конкурсы на лепшае веданне іх твораў.

Карацей кажучы, тут роднае беларускае слова ніколі не было ў заняпадзе, яно гучыць не толькі ў вёсках, але і на гарадскіх вуліцах, у дзяржаўных установах. Ім свабодна карыстаюцца ўсе супрацоўнікі райвыканкама. Мне “па сакрэце” расказалі, што старшыня Уладзімір Столяр па-руску размаўляе толькі з вышэйшым начальствам, звычайна ж “гаворыць па-нашаму”. Ён у твар ведае не толькі ўсіх лепшых механізатараў, жывёлаводаў, будаўнікоў, але і спевакоў, музыкаў, майстроў традыцыйных народных рамёстваў. А іх нямала! Тут працуе 160 калектываў мастацкай самадзейнасці, 46 аматарскіх аб’яднанняў, у якіх займаецца больш як дзве тысячы чалавек. 13 калектываў носяць ганаровае званне “народны” і “ўзорны”. Многія з’яўляюцца дыпламантамі і лаўрэатамі міжнародных, рэспубліканскіх і абласных конкурсаў і фестываляў. А калектыў раённага Дома рамёстваў удастоены спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — за адраджэнне і захаванне народнай спадчыны, далучэнне моладзі да традыцыйнай культуры.

У раёне яшчэ не перавяліся майстрыхі, якія ўмеюць шыць народныя касцюмы, ткаць каляровыя ручнікі, пакрывалы, паясы, умельцы, для якіх зрабіць дубовы кубелец ці ліпавую бочачку — звычайная справа. Свае цудоўныя вырабы яны прадстаўляюць на рэспубліканскіх “Дажынках”, фэстах і кірмашах.

Як бачыце, не, нездарма Ганцавічы выбраны месцам правядзення Дня беларускага пісьменства.

## Што было і што ёсць

Горад Ганцавічы, у якім цяпер пражывае 14 тысяч жыхароў, знаходзіцца на паўночным усходзе Брэсцкай вобласці. Размешчаны за 246 км ад Брэста і за 180 км ад Мінска. Гэта буйная чыгуначная станцыя на лініі Баранавічы — Лунінец, якая звязана аўтадарогамі з Клецкам, Пінскам, Салігорскам, Ляхавічамі і Баранавічамі.

Згодна Рыжскага мірнага дагавора 1921 г., мяжа паміж Савецкай дзяржавай і Польшчай праходзіла за 40 км на ўсход ад Ганцавіч. Турыстычны даведнік, выдадзены ў 1935 годзе, паведамляе, што, акрамя станцыі, тут былі царква і касцёл, дзве сінагогі, паштова-тэлеграфная кантора, паліцэйскі ўчастак, гасцініцы Сагалава, Слуцкага, Ганцэвіча, Ліса і Вікравіцкага, рэсторан Красіньскага і кафейня Гранбецкага.

У савецкі час царква і касцёл былі разбураны ваяўнічымі атэістамі. З Боскай ласкі і з дапамогай вернікаў храмы пабудаваны зноў. На галоўнай вуліцы райцэнтра ўзвышаецца неагатычны касцёл Прасвятой Дзевы Марыі з чатырохгранай званіцай, а непадалёку — Свята-Ціхаўскі праваслаўны храм з купаламі-цыбулінамі на высокіх светлавых барабанах.

Не лічачы "Хаткі паляўнічага", гасцініца ў горадзе адна. Цяпер у ёй шчыруюць цесляры, муляры, тынкоўшчыкі, маляры. Яны надаюць нумарам сучасны стыль і камфорт. У рыштаваннях дом Саветаў, рэстаран, Дом культуры, магазіны, будынкі вузла паштовай сувязі, райспажыўтаварыства, камбінат бытавога абслугоўвання, жылыя дамы… Вуліцы, сквер, тратуары, цэнтральная плошча — усё літаральна перабудоўваецца нанава. Гледзячы на гэта, міжволі ўзнікае пытанне: часу да свята ў абрэз, ці будуць здадзены аб'екты ў тэрмін?



— Усё зробім як мае быць, — развеяла мае сумныя думкі начальнік фінансавага аддзела райвыканкама Ала Стральчэня. — Сюды ж з'ехаліся лепшыя спецыялісты ледзь не з усёй Брэстчыны. Задзейнічана 25 будаўнічых арганізацый, у тым ліку тры мінскія — "Еўратэмп", "Цепларамонт", "МегаТрансГруп". Штодзённа на абнаўленні будынкаў занята 335 чалавек. Яны працуюць і ў выхадныя дні. Палова сродкаў, выдаткаваных на падрыхтоўку да свята, ужо асвоена, а гэта 16 мільярдаў рублёў. Усяго ж на правядзенне Дня пісьменства выдзелена 34,5 мільярда рублёў. Паступілі сродкі з інавацыйнага фонда, ад прадпрыемстваў і арганізацый, іншых крыніц.

Як бачна, сродкі немалыя, аднак іх не хапіла для рэканструкцыі і мадэрнізацыі аб'ектаў культуры, адукацыі, аховы здароўя, жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Некаторыя з іх давялося выключыць з каштарыса расходаў. Кіраўніцтва раёна было вымушана карэктаваць планы з такім разлікам, каб выкарыстаць наяўныя дзяржаўныя грошы з максімальнай эфектыўнасцю.

Штуршком да паскарэння аднаўленчых работ сталі рашэнні Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Дня беларускага пісьменства. Яго апошняе пасяджэнне адбылося ў Ганцавічах пад старшынствам намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Анатоля Тозіка. Падчас абмеркавання праграмы старшыня Брэсцкага аблвыканкама Канстанцін Сумар папрасіў кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў аказаць актыўную і канкрэтную дапамогу мясцовай уладзе. Заклік не пайшоў у паветры. Неўзабаве знайшліся сродкі для рэканструкцыі краязнаўчага музея, іншых аб'ектаў сацыяльна-культурнага прызначэння. А Мінкульт падарыў гарадскому Дому культуры камплект гукаўзмацняльнай апаратуры. Хочацца спадзявацца, што гэты спіс дарункаў будзе доўжыцца.

Сказаць, што цяпер работнікам райвыканкама прыбавілася клопатаў — значыць, нічога не сказаць. Намесніка старшыні па будаўніцтве Уладзіміра Давыдчыка, дырэктара ўпраўлення капітальнага будаўніцтва Ігара Качурку немагчыма застаць у кабінетах. Сёння іх рабочыя месцы на аб'ектах, там, дзе працуюць механізатары, будаўнікі, сантэхнікі. Асаблівая ўвага надаецца якасці работ. Штотыдзень раённы штаб аналізуе яе. Кіраўнікі падрадных арганізацый трымаюць справаздачу. Халтуру бракаробы перарабляюць за свой кошт.

У Ганцавічах імкнуцца не паўтарыць памылкі пры падрыхтоўцы мінулагодніх рэспубліканскіх свят, якія мелі месца ў некаторых раёнах. Падрадчыкі рапартавалі пра паспяховую здачу аб'ектаў у эксплуатацыю, атрымлівалі грошы і з'язджалі дадому. А праз тыдзень-другі ў райвыканкам ляцелі трывожныя сігналы: тут пацякло, трэснула, там абвалілася, парвалася…

З такім "вопытам" паказухі трэба завязаць.

> **Даведка**
> ***Сваёй назвай Ганцавічы, заснаваныя ў 1898 годзе, абавязаны аднайменнай вёсцы, што знаходзіцца каля райцэнтра. Паводле легенды, калісьці ў гэтых мясцінах спыняліся на адпачынак княскія ганцы, якія перавозілі пошту. Адсюль і з'явілася назва Ганцавічы. Праўда, да сярэдзіны мінулага стагоддзя жыхары вымаўлялі яе як Ганцэвічы.***





> **Даведка**
> ***Дакладна вядома, што ў другой палове XIX ст. гэта была вёска Слуцкага павета Мінскай губерні, уладанне графа С. Чапскага. Паходжанне самой назвы фальварка, які, паводле гіпотэзы краязнаўцаў, існаваў ужо ў канцы XVI — пачатку XVII ст., пакуль не ўстаноўленае. Калі на гэтых землях разгарнулася будаўніцтва чыгунак, вёска атрымала статус мястэчка. А з адкрыццём руху на Палескіх чыгунках (1884) і пабудовай станцыі Ганцавічы ў наваколлі пачалася прамысловая распрацоўка і перапрацоўка лесу ды сыравіны для вытворчасці шкла.***

## Гасцям тут заўсёды рады

Начальнік аддзела ідэалагічнай работы райвыканкама Лідзія Занька паказвае саматробную, але дакладную карту, пазначаную рознакаляровымі значкамі, кружочкамі, лініямі.

— Тут будзе "Горад майстроў". Адсюль пачнецца "Дарога да святыняў". У гэтым месцы — выстаўка сродкаў масавай інфармацыі, а непадалёку — "Літаратурная плошча". У канцы "Алеі пісьменства" будзе адкрыты помнік маладому Якубу Коласу. Побач мяркуецца пабудаваць фантан, устанавіць дзве адмысловыя скульптурныя кампазіцыі-звіткі, на адной з якіх будуць занесены прозвішчы васьмі знакамітых пісьменнікаў і паэтаў Ганцаўшчыны. Гасцей чакаюць яшчэ некалькі сюрпрызаў, — тлумачыць Лідзія Мікалаеўна. — Жыхары раёна ўдзячны дзяржаве, усім добрым людзям за дапамогу ў добраўпарадкаванні нашага горада. Ды і самі яны робяць усё магчымае, каб гасцям, а іх прыедзе больш за дзве тысячы, было ў нас радасна і ўтульна. На двух суботніках гараджане руплівa і ўдарна наводзілі парадак на вуліцах, у гарадскім скверы, на рабочых месцах. Наступны суботнік адбудзецца 23 ліпеня. Да Дня пісьменства выдавецтва "ЛіМ" выпусціць кнігу "Ганцаўшчына — край легенд і талентаў народных", багата аздобленую ілюстрацыямі.

Ужо цяпер вырашаецца пытанне, дзе ўдзельнікі Дня пісьменства будуць начаваць, харчавацца, адпачываць.

— 250 чалавек мы свабодна зможам размясціць у сваіх інтэрнатах, — запэўніў пры сустрэчы Вячаслаў Кіпцэвіч — дырэктар мясцовага прафесійнага ліцэя, у якім, дарэчы, арганізавана інтэгрыраванае навучанне. — Калі спатрэбіцца — прадаставім сталоўку. Нашы повары, кулінары падрыхтуюць смачныя і каларыйныя стравы па даступных цэнах.

Дастойна прыняць гасцей, акружыць іх увагай, клопатамі гатовы і іншыя арганізацыі і прадпрыемствы. У горадзе пабывалі ўжо прадстаўнікі гандлёвых таварыстваў суседніх раёнаў, вызначылі месцы для ўстаноўкі сваіх павільёнаў, палатак, буфетаў.

Вядучыя калектывы Дома культуры — хор народнай песні, аматарскае аб'яднанне "Талака", эстрадная студыя "Правінцыя", народны духавы аркестр, фальклорныя калектывы "Завіца", "Хатовічы" — рыхтуюць тэматычныя канцэртныя праграмы. Майстры раённага Дома рамёстваў абяцаюць парадаваць удзельнікаў свята адмысловымі сувенірамі.

Што ж, будзем спадзявацца: васямнаццатае па ліку свята беларускага пісьменства стане адметнай падзеяй у гісторыі краіны, яе культуры, літаратуры і мастацтва.

А закончыць гэтыя нататкі хочацца радкамі Міколы Купрэева:

*Шчасце тут не міне,*
*ні цябе, ні мяне.*
*Прыязджай.*
*Прыязджай!*
*З-за бярэзніку выйдзе*
*насустрач табе*
*курган-каравай,*
*а потым*
*адразу,*
*як мора, пойдзе к табе*
*гэты дзіўны ўвесь край —*
*з белым цветам*
*бульбяным,*
*з мядовую грэчкаю,*
*з сонечнымі палянамі,*
*з чыстымі рэчкамі...*



**На здымках: скульптурныя кампазіцыі, якія будуць устаноўлены да свята на Алеі пісьменства.**

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# У позніх ягад — свой смак

Ёсць у Паўла Пруднікава верш, у якім расказваецца пра возера сіняе, лебядзінае. Мне пашчасціла не толькі ўбачыць яго, а і пакупацца ў ім. Амаль праз сорак гадоў пасля таго, як пабачыў возера Павел Іванавіч. Толькі наўрад ці купаўся ён у ім: палітычным зняволеным гэтага ніхто не дазваляў. У пасёлку ж Гусінае возера П. Пруднікаў працаваў у нейкіх майстэрнях, калі быў аб'яўлены "ворагам народа". У колішнія майстэрні трапіў у 1971 годзе і я — нас, некалькі чалавек камандзіраў узводаў, суправаджалі туды БМП — баявыя машыны пяхоты, якія ў часці ўсе называлі брацкімі магіламі пяхоты. Прабылі нядоўга і ўжо ноччу вярнуліся назад.

Чаго не скажаш пра П. Пруднікава. Ягоная "камандзіроўка" доўжылася не адзін дзясятак гадоў, бо трапіў не толькі ў Гусінае возера. Адбываў пакаранне і ў Іркуцкай, Омскай абласцях, у Краснаярскім краі. Потым у Нарыльску апынуўся, але там было лягчэй, бо загадваў бібліятэкай мясцовага горна-металургічнага тэхнікума. Ня хутка паэт змог убачыць родную вёску Вялікі Дзедзін, што ў Клімавіцкім раёне, і раку свайго маленства Асцёр, пра якую сказаў у вершы "На Клімаўшчыне":

*Тут знаёма мне кожная сцежка,*
*Кожны кусцік і кожны ручай,*
*Друг-Асцёр сустракае з усмешкай,*
*І ад радасці гусі крычаць.*

Мне давялося пабываць у Старым Дзедзіне, пабачыць Асцёр, праўда, гусей не напаткалі. Знаходжанне на радзіме Паўла Іванавіча, куды мы, калегі-пісьменнікі, прыехалі на яго чарговы юбілей, пакінула прыемнае ўражанне. Узрадавала і тое, з якой пашанай ставіліся вяскоўцы да свайго знакамітага земляка. Твар жа яго свяціўся радасцю: усё-такі прыемна, калі цябе так любяць і паважаюць. Асабліва, калі перад гэтым жыццё не надта песціла. Таму са скрухай і пісаў у адным з вершаў:

*Лёс не зычыў мне шчасця зямнога,*
*Не бярог і ад брыдкіх абраз.*
*Я не крыўдзіў ніколі нікога,*
*Сам жа бітым быў, нават не раз.*

*Пэўна, свет збудаваны ўжо гэтак:*
*Адны едуць, другія вязуць.*
*Для адных —*
*вечна цёплае лета,*
*Для другіх жа —*
*асенняя муць.*

"Асенняя муць" ускалыхнула хвалі ягонага жыцця, калі, скончыўшы ў 1937 годзе Ленінградскі педагагічны інстытут імя Бубнава (Пакроўскага), быў



накіраваны ў аспірантуру Акадэміі навук СССР. Зразумела, што туды пасылалі самых лепшых, найбольш падрыхтаваных і здатных займацца навуковай дзейнасцю. Аднак прафесар К. Пушкарэвіч, дарэчы, вучань знакамітага акадэміка Яўхіма Карскага, быў упэўнены, што П. Пруднікаў не падвядзе яго, таму і накіраваў вывучаць славянскія мовы. Аднак, як прызнаваўся Павел Іванавіч у аўтабіяграфіі "Далёкае і блізкае", замест славянскіх моў ён доўгі час на практыцы вывучаў усходнія і паўночныя раёны нашай краіны і іх багацці. Зразумела, не на карысць літаратуры. І не на карысць сваёй уласнай творчасці.

Адну са сваіх кніг ён невыпадкова назваў "Познія ягады". Ёсць у ёй і аднайменны верш:

*Не суніцы бяру, не чарніцы,*
*Між кустоў не шукаю ажын.*
*Я ўжо ў кошык збіраю брусніцы*
*І чакаю пары журавін.*

*Пазнікалі парэчка, маліна,*
*Нават сініх дурніц не відаць.*
*Застаюцца адны журавіны.*
*Трэба з імі цяпер сябраваць.*

*Дык шкада вось —*
*балот ужо мала,*
*Што даюць белабокім жыццё.*
*Журавіны для нас цяпер —*
*мара,*
*Мы да іх, як на споведзь, ідзём.*

Як жа інакш, калі ў дачыненні да яго самога гэты вобраз позніх ягад, што паспяваюць тады, калі, здавалася б, ужо не да ўраджаю, набывае глыбокі сэнс. Усё найбольш значнае, напісанае П. Пруднікавым, па сутнасці, — тыя ж познія ягады. Калі некаторыя паэты, з якімі ён разам увахodзіў у літаратуру, мелі ўжо важкія мастакоўскія набыткі, яму даводзілася пачынаць па сутнасці з нуля.

Нарэшце, вярнуўшыся ў 1952 годзе на Беларусь (з 1946-га працаваў выкладчыкам у школах Смаленскай вобласці), меў усяго адзін невялікі паэтычны зборнік "Песня грузчыкаў", дый той выдадзены ў сааўтарстве з Я. Субачам. Аднак гэтая кніга, датаваная 1932 годам, на той час ужо стала гісторыяй. Трэба было кампенсаваць упушчанае. Друкавацца пачаў у 1959 годзе, а чарговай кнігі дачакаўся толькі ў 1968-м. Назва яе сімвалічная — "Час майго нараджэння". Будучы студэнтам, сваю рэцэнзію на гэтую кнігу, змешчаную ў часопісе "Беларусь", я назваў "Другое нараджэнне". Сапраўды, гэта было другое нараджэнне паэта, якога сучасны на той момант чытач не ведаў. Аднак паняцце "другое" правільнае і па іншай прычыне. Калі ў вершах зборніка "Песні грузчыкаў" пераважала поклічнасць, лозунгавасць, то ў кнізе "Час майго нараджэння", як і ў наступных "Прысады", "Заасцёр'е", "Познія ягады" ягоная паэзія стала, калі можна так сказаць, цяплейшай, у ёй пабольшала лірычнасці. Канечне, П. Пруднікаў не збіраўся пазбаўляцца публіцыстычных матываў. Увогуле, не мог без іх, бо ўсё ж публіцыстычнасць — адна з вызначальных рыс ягонай паэзіі. Аднак і ў гэтым кірунку стала менш гучнасці, а больш шчырасці. Нездарма знакамітаму кампазітару Юрыю Семяняку спадабаліся вершы П. Пруднікава "Першамайская" і "У паходы", і ён паклаў іх на музыку.

Была ўжо жыццёвая восень, ды час творчы не заўсёды супадае з узростам. Асабліва, калі мастак слова — аптыміст і жыццялюб, а такім і быў Павел Іванавіч. У гэтым я неаднойчы пераконваўся. І ў той паездцы ў Стары Дзедзін, і калі адзначалі яго юбілеі. Падчас апошняга, 85-гадовага, ён, на жаль, ужо не бачыў, але аптымізму не страчваў. Дый пражыў яшчэ амаль чатыры гады, памёршы 16 красавіка 2000 года. З гэтага аптымізму, жыццялюбства народжаны і ягоны верш "Лістапад":

*Пашырэла ў полі, пацяплела ў лесе.*
*Пасвятлела неба, луг зазелянеў.*
*Пажадала сэрца новых, светлых песень,*
*І прыйшло натхненне зноў да мяне.*

Дзякуючы натхненню, якое ніколі не пакідала яго на працягу ўсяго доўгага жыцця, ён напісаў кнігу для дзяцей "Заранка", узяўся і за прозу, у якой ішоў ад перажытага, ад таго, што зведаў. Згадваў таксама пісьменнікаў, чые постаці назаўсёды засталіся ў ягонай памяці: Янку Купалу, Якуба Коласа, Цішку Гартнага, Змітрака Бядулю, сяброў маладосці Кліма Грыневіча і Алеся Пруднікава — свайго стрыечнага брата, а таксама іншых, з кім зводзілі яго жыццёвыя пуцявіны.

Знаёмячыся з ягонай кнігай успамінаў "Далёкае, але не забытае", са зборнікам аповесцей "За калючым дротам", з усім тым, пра што расказвае пісьменнік, бачыш і яго самога, таму што ўсё гэта не выдуманае, а ўзятае з самога жыцця. Падобная праўда не заўсёды прыемная. Дый часам яна празмерна набліжана да факта, канкрэтных рэалій, таму месцамі не валодае належнай мастацкасцю. Але без такой праўды нельга, бо за ёй таксама наша гісторыя, наша нядаўняя мінуўшчына.

Вершы ж П. Пруднікава таксама вабяць сваёю непрыдуманасцю, моцнай аўтабіяграфічнасцю. І зноў жа — той самай праўдай, з якой жыў Павел Іванавіч і якой нязменна прытрымліваўся. Сярод іх і гэты безыменны твор — адзін з лепшых ягоных вершаў:

*Дрэвы, дрэвы — векавыя сосны,*
*Прыпыніце, любыя, свой шум.*
*Ад яго балюча мне і млосна…*
*Пачакайце трошачкі, прашу.*

*Гоман гэты, патрыярхі лесу,*
*Палюбіў я з даўняе пары.*
*Але сёння ён статонным прэсам*
*Апусціўся на мяне ў бары.*

Зноў прыходзіць тое, што было калісь перажыта, выпакутавана. Прыходзіць і не дае спакою, бо гэтага нельга забыць: "Прыгадаў я ўсе мае пакуты: // Пананванне голаду і стынь, // Што ў нутро садзілася атрутай // Сярод дрэў заснежаных, густых". Праз паэтаву памяць вяртаецца і памяць народная. Таксама збалелая, таксама выпакутаваная. І мы злучаемся ўжо з гэтай памяццю. Яна як той смак позніх ягад — часам гаркавых, але такіх гаючых.

Ірына ШАТЫРОНАК,
Гродна

# На зямлі — гэта значыць між зораў

**Самойла Г. Зоркі над маўклівай адзінотай: вершы і проза / Г. Самойла. — Мінск: Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд, 2011. — 192 с.**

Кніга гарадзенскай паэтэсы Галіны Самойла пачынаецца зваротам да чытачоў і прысвячэннем родным людзям: "*Прысвячаю маім бацькам і брату, якія ўжо пайшлі з Зямлі, пакінуўшы мне сваю любоў*". Лаўлю сябе на думцы, што ўжо ў гэтых першых словах гучаць маркотныя адгалоскі кахання. Яны захаваліся ў сэрцы Галіны Самойла, і цяпер яна жадае данесці іх людзям. Кніга ўяўляе сабой своеасаблівае падвядзенне творчых вынікаў.

Хочацца адзначыць адну ўласцівую для яе лірыкі вельмі яркую рысу — шчырыя пачуцці. Іх не прыдумаеш.

Вобразнасць Галіны Самойла не заўсёды ляжыць на паверхні, глыбінныя працэсы патаемныя, і часта гучаць у апошніх нотах апошніх радкоў. Кніга напоўненая светлым сумам, пераходзячым у гусцейшы па канцэнтрацыі смутак, і чытач неўзаметкі заглыбляецца ў журботныя, амаль малітоўныя плачы самотнай жаночай душы.



Маўклівая адзінота паэтэсы. Маўчанне ў вірлівым струмені жыцця, дзе так шмат людзей, мітусні, святла, але бракуе любові і цеплыні. Лірычная гераіня мерзне ў халоднай адзіноце, зноў і зноў вяртаючыся ў мінулае. Там яна шукае сваю адзіную сцежку, якую калісьці страціла, а калі б не збілася з яе, знайшла б свайго каханага. Калі б…

Вершы Галіны Самойла натуральныя, арганічныя і нават простыя, але гэтай чыстай прастаты і выразнасці так не стае ў часы вычварнай штучнасці, халоднасці і людской раз'яднанасці. Паэтычныя радкі дрыжаць болем, адчаем і ўнутранай стрыманасцю, выяўляючы характар паэтэсы, за вонкавай ціхмянасцю якой хаваецца вынашаная гадамі мудрасць, назіральнасць і адзінота. Праўда, для паэта адзінота — гэта яшчэ і шчаслівы дарунак, магчымасць глыбіннай засяроджанасці, духоўнага самаўдасканалення. У вершах Г. Самойла гэтульки болю і цярпення, што хочацца вучыцца такой несучаснай ахвярнасці і прабачэнню.

*Накрычалі, а я*
*Пабялела ў адказ.*
*Боль у горле стаяў,*
*Ды не выліўся ў сказ.*

*Абазвалі, а я*
*Толькі бровы ўзняла.*
*Слоў не мела ніяк —*
*Праз гадзіну знайшла.*

*Нагрубілі, а я*
*Не змагчала назло.*
*Захварэла пасля,*
*Аж да ночы трасло.*

*Абражаюць, а я*
*Зберагаю сваё…*
*Ці тут сіла мая?*
*Ці бяссілле маё?*

Паэтэса адрасуе даўні маналог Богу ў надзеі знайсці адказы на свае жыццёвыя пытанні, падымаючыся над штодзённым побытам, уласным лёсам, амаль пакорлівая, але такая гордая і прыгожая. Яе душэўная прыгажосць не звяла, яна сілкуе яе ў цяжкія дні і гадзіны, дае веру. Натхненне — гэта ўсё-ткі ўдых, хай маленечкі, выратавальны, але ўдых жыватворнага паветра, мядовага і горкага.

У вершах Галіны Самойла часта сустракаецца вобраз дарогі, што ўвасабляе лёс, ад якога не збегчы, не схавацца, ён ад самай калыскі з табой, горкі або радасны, цяжкі або шчасны. Жыццё пераменлівае, зманлівае, не заўсёды ласкавае і справядлівае, толькі дух паэзіі заўжды вольны ў сваім вечным палёце.

Душа паэтэсы — гэта схаваны ад староннiх вачэй плавільны кацёл. Колькі ў ёй густога смутку, якая складаная палітра пачуццяў! Колькі ў яе сэрцы болю, як жа складана жыць паэтэсе ў гэтым жорсткім, страшным свеце, дзе адно кінутае слова, позірк так смяротна могуць параніць.

Маўчанне — яе абарона, яе выратаванне і натхненне. Яна, як кволая кветачка, баіцца раскрыць прыгажосць свайго далікатнага бутона, таму шукае выратавання ў вершаваных радках, выяўляючы ў іх сваю зраненую душу. І калі няма гармоніі ў знешнім свеце, паэтэса спрабуе яе стварыць ва ўласных вершах.

*Мацую верай*
*сілу волі я,*
*Страх смерці*
*смеласцю адольваю.*
*Пражыты дзень ідзе за два.*
*Дрыгва.*

Паэзія Галіны Самойла ціхая, як спакойная плынь ракі, але ў ёй гэтулькі эмацыйнай выразнасці, пачуццяў, што кожная струна душы адгукаецца на яе покліч. Абуджаць шчырыя пачуцці сёння — рэдкі і ад таго яшчэ больш каштоўны дар. Гэтым дарам напоўніцу валодае гарадзенская паэтэса, якая навучылася слухаць сваё сэрца і давяраць начным зорам. Таму і неба можа набліжацца, а знясілены дух — поўніцца святлом надзеі.

Ірына ШАЎЛЯКОВА

# Сустрэнемся на Скрыжаванні, або Дакладныя каардынаты белавежскага Маконда

**Андрасюк, М. Вуліца Добрай Надзеі: апавяданні / Міхась Андрасюк. — Мінск: Медысонт, 2010. — 304 с.**

Змучаны прагай цэласнасці ў сённяшнім “фрагментарным” свеце, бывае, шукаеш забыцця ў трывожна-крохкіх крытычных марах пра Насамрэч Шчодрага Пісьменніка. Гэты *культурны герой* інфармацыйнай эпохі не ўскладняе шлях удзячных чытачоў і (будзем шчырымі!) не заўсёды ўдзячных крытыкаў да сваіх твораў, публікуючы іх у розных друкаваных і электронных выданнях. Ён не будзе прымушаць небараку, апантанага ідэяй скласці панарамнае ўяўленне пра ягоную творчасць, блукаць па бібліятэках, кнігарнях, букіністах, кірмашах у пошуках асобных зборнікаў, чый сціплы наклад з самага пачатку гарантаваў непазбежнае права на “рарытэтнасць”. Ён нават не дазволіць згаданаму гаротніку марнаваць час і грошы ў блуканнях па сутарэннях Сеціва. Проста Шчодры Пісьменнік хаця б раз на дзесяць год абавязкова збярэ амаль усе свае мастацкія тэксты пад адну вокладку, рашуча адпрэчыўшы фармат “выбранага”. А вось Насамрэч Шчодры Беларускі Пісьменнік, дбаючы пра сённяшняга і будучага Беларускага Чытача, высакародна змесціць *pdf*-версію кнігі, што выйшла накладам 500 асобнікаў, у Інтэрнэце.

Летась мае “манілаўскія” мроі раптам пачалі здзяйсняцца: Міхась Андрасюк, беларускі літаратар з Польшчы, выдаў “Вуліцу Добрай Надзеі”, куды ўвайшлі дзесяць з дванаццаці апавяданняў са зборніка “Фірма” (Беласток, 2000), дванаццаць з пятнаццаці твораў з “Мясцовай гравітацыі” (Беласток, 2004), а таксама “расшытая” на самастойныя тэксты кніга “Белы конь. Аповесць” (Беласток, 2006) і аповед “Крыжык”. Такім чынам, удзячны чытач атрымаў *амаль* поўны “звод”-анталогію празаічных твораў М. Андрасюка, а чытач адносна ўдзячны — яшчэ і магчымасць без лішніх выдаткаў даследаваць (хоць уздоўж, хоць упоперак) эвалюцыю індывідуальна-аўтарскага стылю.

Сапраўдная шчодрасць, зрэшты, правакуе на элементарную ўдзячнасць.

“Вуліца Добрай Надзеі” — не *зборнік*, а менавіта *кніга* апавяданняў, што кампазіцыйна выбудоўваецца як своеасаблівая (“мазаічная”, у пэўным сэнсе, “рызаматычная” паводле структуры) хроніка жыцця Мястэчка — белавежскага Маконда, якому *лёсіла быць* на скрыжаванні “тутэйшасці” і “тамтэйшасці”. Менавіта з *феноменам скрыжавання* звязаная і жанрава-стылявая арыгінальнасць прозы М. Андрасюка ў цэлым: плён неаміфалагічнага па сваёй сутнасці спасціжэння свету ўвасабляецца праз паэтыку рэалізму, якая, у сваю чаргу, у найноўшай мастацкай парадыгме інтэнсіўна самаразвіваецца, у тым ліку — за кошт асіміляцыі элементаў іншых мастацкіх сістэм. Так, апавяданні “Граніца”, “Уладзімір”, “Мястэчка”, “Дзядзька Ваня”, “Коля”, “Антон”, “Сашка”, “Валодзя”, “Сонька” ўтвараюць адмысловы цыкл, складнікі




якога (*насуперак* намерам аўтара, што *даў ім волю* — “раздзелы” аповесці “Белы конь” зрабіў асобнымі творамі) падаюцца ўрыўкамі вялікай “сямейнай хронікі”. Гісторыя роду Іванюкоў неаддзельная ад гісторыі Мястэчка, бо абедзве каранямі трымаюцца ў самым сапраўдным міфе, “пераказаным” (а дакладней, *створаным*) маці для сваіх сыноў. Гром расшчапляе на дзве роўныя паловы тысячагадовае дрэва — і з’яўляецца

> *“Вуліца Добрай Надзеі” — не зборнік, а менавіта кніга апавяданняў, што кампазіцыйна выбудоўваецца як своеасаблівая хроніка жыцця Мястэчка — белавежскага Маконда, якому лёсіла быць на скрыжаванні “тутэйшасці” і “тамтэйшасці”.*

“наш свет”. З расшчэпленага пня Дрэва выйшлі мужчына і жанчына, якіх звалі Валодзя і Сонька, менавіта з іх пачаліся Мястэчка і сям’я: “Такі аповед перадала Сонька Іванюк сынам, сабраўшы іх за кухонным сталом, калі яны пачалі губляць памяць і блытаць сцежкі. Прыдумала яго на ляту, з першага па апошняе слова свядома абмінаючы фізіку, гісторыю і біялогію, бо кожнай сям’і неабходныя свае імёны і свая памяць, і яны важнейшыя за ўсё, пацверджаныя навукай, але чужыя праўды” (*“Мястэчка”*).

Аповеды гэтага цыкла “прарастаюць” адзін у адным асобнымі сітуацыямі і калізіямі (напрыклад, фабула “Граніцы” адгукаецца ў якасці адной з “падзей” у творы “Уладзімір”). Выразна міфалагізаваны хранатоп у прозе М. Андрасюка набывае мастацкую рэльефнасць, вобразна-выяўленчую “шчыльнасць” дзякуючы цэламу арсеналу прыёмаў і спосабаў рэалістычнай тыпізацыі. Варта толькі мець на ўвазе, што размова ідзе пра рэалізм экзістэнцыйна-лірычнага кшталту, у прасторы якога аднолькавую функцыянальную вагу маюць сацыякультурная матываванасць, псіхалагічная дакладнасць вобраза і яго метафарычнасць — як “гарант” патэнцыяльнай невычарпальнасці эстэтычных, мастацкіх, каштоўнасных інтэрпрэтацый, высноў: “Часам, калі жаўрукі песняй збівалі з прасторы пах неба і скідалі яго ўніз, спыняў каня і слухаў. Затым схіляўся, набіраў жменю пяску, нюхаў яго. Прыжмурыўшы вочы, чарговы раз трапляў у здзіўленне: «Водар нябёсаў нічым не адрозніваецца ад водару зямлі. Значыць, хто ведае пах зямлі, не заблудзіць і ў небе» (*“Уладзімір”*).

З шэрагу яскравых прыкмет індывідуальна-творчага стылю М. Андрасюка ў кнізе “Вуліца Добрай Надзеі” асабліва вылучаецца імкненне “скрыжоўваць” у межах аднаго твора разнастайныя апавядальныя модусы. Так, нават у характарыстыцы вобраза-персанажа іх спектр можа ўлучаць сацыяльную сатыру, іронію, элементы гратэску — і філасофска-экзістэнцыйную медытацыю: “Кравец Клюк ішоў праз жыццё насуперак сацыялістычнай дзяржаве. Днямі і адвячоркамі выціскаў грошы з даваеннага зінгера. А затым, начамі, забіваў іх у ёмістыя мяшэчкі і, заплюшчыўшы вочы, пад шолах банкнотаў марыў сонныя дзівацтвы. Можна сказаць — ён быў авангардам гэтага Мястэчка, яго падпольным праваднікам па шляху ад бяспечнай сярмяжнасці сённяшняга дня да рызыкоўнай краіны лепшай будучыні. Людзі ніколі не спыняюцца на гэтым шляху. Ідуць так доўга, як доўга прадчуванне несмяротнасці бярэ перавагу над упэўненасцю ў смерці. І таму яны ніколі не знікаюць” (*“Коля”*).

На думку Лады Алейнік, “менавіта *іранічны дыскурс* напаўняе сацыяльную крытыку ў творах М. Андрасюка алегарычнасцю, узводзіць падзеі ў ранг тыпізаваных, характэрных для сучаснасці”. Разам з тым, у працытаваным артыкуле “Гравітацыя памежжа” яна падагаджаецца з меркаваннем Галіны Тычкі, якая вызначае “ўнутраную інтанацыю” прозы М. Андрасюка як “сумную, а можа, недзе і трагічную”. Кніга “Вуліца Добрай Надзеі” (як “анталагічны” звод апавяданняў) дае падставы з вялікай доляй пэўнасці сцвярджаць: вектар не толькі “інтанацыйнага”, але і канцэптуальнага руху пісьменніка паступова пераарыентуецца з асэнсавання і творчага засваення традыцый сацыяльна-сатырычнай прозы (пераважна першай паловы ХХ стагоддзя) да экзістэнцыйна-лірычнага тыпу аднаўлення быцця як нераўнавеснай і адначасова цэласнай *празрыстай таемнасці*.

Так, герой апавядання “Крах” (з першага зборніка “Фірма”), які шчыруе ў бюро інструктарам па бяспецы і гігіене працы і да якога іншыя героі звяртаюцца выключна “пане Владку”, нават без “генетычнай” экспертызы ідэнтыфікуецца як прамы “нашчадак” Самсона Самасуя з вядомага рамана А. Мрыя: “Я не спрактыкаваны ў сямейным жыцці чалавек, ніколі яшчэ не жаніўся, аднак на ўсякі выпадак рашыў закахацца. Дзеля павелічэння эфектыўнасці ў пошуках адпаведнай для сябе нарачонай, падрыхтаваў я нават кароткі спісак. Памясціў там, вядома, пасля бязлітаснай з самім сабой кваліфікацыйнай размовы, усіх патэнцыяльных кандыдатак, а пані Ірэнка заваявала ў гэтым матрыманіяльным спаборніцтве вельмі адказнае, першае месца”.

У шэрагу апавяданняў часоў “Мясцовай гравітацыі” (“Нос”, “Верш”, “Сустрэча” і інш.) шматгалосае *камічнае* (дзе ў розных прапорцыях змешваюцца гумар, цёплая іронія, сатыра, гратэскавыя пасажы) яшчэ “адцясняе” на перыферыю ўвагі, “заглушае” *іншую мелодыю*, якая, аднак, досыць выразна гучыць у аповедах “Гравітацыя”, “Дом”, “Паклонніца літаратуры”. У апошнім творы, апроч усяго, даволі цікава “скрыжоўваюцца” паэтыка “кінакадра” і прыкметы “выяўленчай” прозы: “Задажджылася кастрычніцкая субота. Нагінаючы да зямлі сырыя, абшарпаныя крылы хмарын, кароткі дзень шпарка пайшоў на спад. Базарны гоман аддаляўся, расплываўся ў шэрых завулках і знікаў там, затаптаны спешнымі крокамі, заглушаны восеньскім паветрам. Людзі пад парасонамі трушком спяшалі дамоў, старанна прыбіраючы апошнія клопаты дня”.

> *“Вуліца Добрай Надзеі” калісьці нарадзілася з надзеі на лепшую будучыню, “і з пагоні за прыгажэйшым жыццём, і са спадзяванняў на белы хлеб у белых далонях, і з пачутых у дзяцінстве казак пра мужыка, які, царом стаўшы, валодаў светам доўга ды справядліва”.*

Менавіта ў апавяданні “Дом” найбольш выразна акрэсліліся эстэтычныя і мастацкія контуры таго “экзістэнцыйна-лірычнага міфалагізму”, з нетраў якога пасля паўстала не толькі “сямейная хроніка” Іванюкоў, але і аповед “Галубы” (у “Вуліцу Добрай Надзеі” не ўвайшоў). “Шматслойнасць” хранатопу, дакладнасць мастацкіх дэталяў і разам з тым агульная “імпрэсіяністычнасць” вобразнага малюнка, адметны тэмпарытм, — усё гэта (і яшчэ шмат чаго) вынікам мае адмысловы эфект “неадпаведнасці”, калі лаканічная форма аказваецца здольнай змясціць “немагчымы” для яе аб’ём зместу — эстэтычнага, пачуццёва-эмацыйнага, урэшце, духоўнага:

“На гэтай вуліцы ўсе дамы нараджаліся ў адзін час, і цяпер, узаемна пераклікаючыся, салідарна адступалі ў нябыт. <…> Наш дом быў самы вялікі, і аднае раніцы застаўся ад свайго пакалення адзін. <…> Быў стары і неахайны, колькі гадоў назад апошнія кватаранты зачынілі за сабою дзверы. Потым жэўжыкі знялі іх і закінулі побач з сцяной, у высокую крапіву. Яшчэ потым невядомыя рукі пазбавілі яго вокнаў. Год, можа, два, стаяў так, узіраючыся ў тратуар сляпымі зрэнкамі, абдзёртыя, абшастаныя сцены прыбаўлялі яму фізіяномію жабрака...”.

З чымсьці падобным сутыкаешся ў творах выдатнага сербскага пісьменніка Горана Петравіча (“Атлас, складзены небам”, “Востраў і навакольныя аповеды”, “Кніга з месцам для спатканняў” і інш.), якога даследчыкі атэстуюць то як “міфарэаліста”, то як постмадэрніста. Аўтару “Вуліцы Добрай Надзеі”, аднак, падобны вырак “няпэўнасці” наўрад ці пагражае:

“…бабка Сонька і цётка Люба не спынялі намаганняў вярнуць Колю сабе і Мястэчку. Засеўшы на кухні, гарталі святыя кнігі. Іх цені, бесцялеснымі абрысамі хістаючыся на сцяне, рабілі ўражанне надчасовасці. У прыпушчанскіх вёсках ёсць такія жанчыны. Недацёпы называюць іх шаптухамі. Але гэта няпраўда. Яны — адлюстраванне вечнасці, якая паглыбляецца сама ў сябе, у пошукі першага слова, універсальнага жэсту, што ў змозе адмяніць усе астатнія словы, затрымаць час або накіраваць яго цячэнне ў карысным для сябе напрамку” (*“Коля”*).

Відавочнае ўзмацненне ў больш позніх па часе творах М. Андрасюка ролі сімвалізацыі, якаснае пашырэнне інструментарыю мастацкай умоўнасці, ускладненне вобразнасці сведчаць, бадай, не пра намеры эміграваць у “постмадэрнізм”, а пра плённасць працы на ім жа створаным — *аўтарскім* — “скрыжаванні”. Трапіць на тое “скрыжаванне” прасцей за ўсё праз “Вуліцу Добрай Надзеі”, якая калісьці нарадзілася (паводле апавядання, што дало імя ўсёй кнізе) з надзеі на лепшую будучыню, “і з пагоні за прыгажэйшым жыццём, і са спадзяванняў на белы хлеб у белых далонях, і з пачутых у дзяцінстве казак пра мужыка, які, царом стаўшы, валодаў светам доўга ды справядліва”. Нават “чарговыя ўцекачы з прыпушчанскай Безнадзеі” маюць шанец без мітрэнгаў атрымаць грамадзянства ў белавежскім Маконда. Гэта гарантуе прынамсі адзін дзейсны чалец загадкавага ордэна Насамрэч Шчодрых Беларускіх Пісьменнікаў — Міхась Андрасюк.

# Спатканне са шчодрым летам

**Улетку часопіс "Маладосць" працягвае радаваць сваіх чытачоў добрай паэзіяй. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова, напрыклад, пазнаёміцца з творамі дэбютанткі сёмага нумара Наталлі Цвірко. Яны прасякнутыя светлым, сонечным настроем — праўда, не без традыцыйнай для сапраўднага паэта меланхоліі. Вершы Ганны Федарук, таксама змешчаныя на ліпеньскіх старонках "Маладосці", прываблiваюць нястрымнай, вірлівай энергіяй, якая адчуваецца ў кожным радку. Жнівень становіцца для выдання берасцейскім. Маргарыта Латышкевіч — найбольш яскравая прадстаўніца маладой літаратуры гэтага рэгіёна — як заўсёды здзіўляе, але не расчароўвае сваімі паэтычнымі пошукамі. Прыемнае адкрыццё восьмага нумара — вершаваная падборка Вольгі Гронскай, якая выступае ў "Маладосці" ўпершыню. Праўда, Вольга родам з Мядзельшчыны, а не з Берасцейшчыны, аднак яе творы настолькі спадабаліся рэдакцыі, што было вырашана пайсці на выняткак з правіла. Зрэшты, літаратура — гэта заўжды гульня не па правілах.**

**Віка ТРЭНАС**

**Наталля ЦВІРКО**

* * *

*…І калі разальецца ранне*
*Чысцінёй некранутай над светам,*
*Паспяшаю зноў на спатканне*
*Я са шчодрым сунічным летам.*

*Спеў птушыны чуецца звонкі,*
*І нібыта рассыпаў хтосьці*
*На паляне ягады-зоркі*
*Невымоўнае прыгажосці.*

*Як прыемна з кошыкам поўным*
*Нетаропка дамоў вяртацца.*
*Водар лесу такі чароўны*
*Будзе доўга мне ўспамінацца.*

* * *

*Тваё каханне да мяне —*
*Палын самотны ля дарогі.*
*Віно, што горкае на дне,*
*Падман бясконцы і трывога.*

*Маё каханне да цябе —*
*Ўсе колеры вясны і лета.*
*Ды ўжо стаміліся ў журбе*
*І адцвітаюць тыя кветкі.*

* * *

*На парозе восені няспешнай*
*Ты сваю самоту адпусці.*
*Там, на ўскрайку лета, там, на ўзмежку,*
*Мо цябе паспею я знайсці.*

*Паміж намі — доўгія дарогі,*
*Паміж намі — сцежкі і шляхі,*
*Паміж намі — радасці, трывогі*
*І ракі шырокай берагі.*

*Зноўку лета згасла, быццам зорка,*
*Зноўку нам яго не затрымаць.*
*Вось такая сумная гаворка,*
*Ці не варта проста памаўчаць?*

*На парозе восені няспешнай*
*Мо цябе паспею я знайсці.*
*Там, на ўскрайку лета, там, на ўзмежку,*
*Ты сваю самоту адпусці.*

**Ганна ФЕДАРУК**

* * *

*Прабачце мне зноў: я стаю перад вамі,*
*Як быццам ужо на Вялікім Судзе.*
*Я каюся ў тым, што хвалілі вы самі.*
*Я злодзей, які не стаіць у чарзе.*

*Я крала пачуцці, і думы, і спрэчкі.*
*Я крала ў сябе і, прабачце, у вас.*
*Пасля, што накрала, паліла, бы свечкі.*
*І воск на паперу ліла ў пэўны час.*

*Ды колькі жыць буду, не адракуся.*
*"Навошта мне гэта?" — пытаеце зноў.*
*Я — "злодзей звычайны", і побач спакуса,*
*А з ёю — мільёны паветраных слоў.*

### Жыццё…

*Зачапілася ноч палітом*
*За вялізныя горы Каўказа.*
*Трэск шаўковай тканіны, бы гром,*
*Дзень і ноч усё роўна не разам...*

### Ты толькі дождж

*Ты толькі дождж, ты толькі дождж.*
*Сыходзіш зранку, каб вярнуцца.*
*Змываеш восеньскі спакой,*
*Каб летнім громам апынуцца*

*І знікнуць, знікнуць, як заўжды*
*Знікаў дагэтуль, апантаны.*
*Ты пачакай, хачу з табой!*
*Няўжо не бачыш, мой каханы?*

*Пральемся разам, бы з няволі!*
*Пральемся, дзе цвітуць палі!*
*Каб не забылі нас ніколі*
*Прасторы роднае зямлі!*

*Але ты дождж, ты без мяне*
*Б'еш кроплямі па шыбах сонных.*
*Ты толькі дождж, ты без мяне.*
*Ты колькі рэк стварыў бяздонных?*
*А я рака, твая рака.*
*Ці пазнаеш? Зірні ў люстэрка*
*Маёй душы — ёсць толькі ты.*

*Але ж ты дождж, ты толькі дождж.*
*Сыходзіш зранку, каб вярнуцца.*
*Змываеш восеньскі спакой,*
*Каб летнім громам апынуцца.*

*Пральемся разам, бы з няволі!*
*Пральемся, дзе цвітуць палі!*
*Каб не забылі нас ніколі*
*Прасторы роднае зямлі!*

**Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ**

* * *

*Я чакаю цябе, квецень вішняў,*
*Пацалунак вясны нявінны.*
*Сонца — гэты садоўнік увішны —*
*Гне над голлем старую спіну.*
*У цёплых промнях сэрца растане:*
*"Вырай — тым, хто будзе як дзеці".*
*Я ўсміхаюся. Я чакаю,*
*Пацалунак вясны — квецень.*

### Спёка

*Парыць.*
*Сонна і душна.*
*Марыць*
*Можна хіба што аб душы,*
*А не аб душы.*
*Жыць —*
*Пад налітым чырванню шарам.*
*Парыць…*

* * *

*Пырскі салонай вады — зоры.*
*Праблiскамі напоўнена мора.*
*Ступіш на хвалю ціхаю ноччу —*
*І месяцоваю сцежкаю крочыш.*

*Пырскі салонай вады — чайкі.*
*Кружаць над морам,*
*стогнуць адчайна.*
*Белыя ветразі — белыя крылы:*
*Воблака ў небе ў здзіўленні застыла.*

*Пырскі салонай вады — слёзы?*
*Плачуць крывёй вінаградныя лозы.*
*Плачуць — але вяртаюцца ў дом*
*Не салонай вадой, а салодкім вінам.*

**Вольга ГРОНСКАЯ**

* * *

*Штодня — уверсе. Там, дзе небасхіл*
*намаляваны промнем лазурыта*
*і белай штучнай парай. Я — Рахіль,*
*Ліліт, Касандра, Ева, Маргарыта,*
*я — Федра, закаханая ў таго,*
*хто быць маім не зможа апрыёры,*
*спяваю Ларэлеяй з берагоў,*
*вандроўнікаў сірэнай клічу ў мора...*

*Мая душа — вянок жаночых душ,*
*акрэсленых у памяці алоўкам.*
*Я, раўнавагу страціўшы, іду*
*пад столлю. Па канаце. Без страхоўкі.*
*А ты стаіш унізе, як маяк:*
*руды парык і вопратка паяца.*
*І ўсмешка блазнаватая твая*
*мне ў бездань не дае ізноў сарваццa.*

* * *

*Цёплым подыхам ветру ці мары,*
*лёгкім рухам маўклівае думкі,*
*ціхім крыкам абветраных вуснаў*
*дакранаюся да небасхілу.*

*У траву зарываюся тварам.*
*Закалыхваюць вечара рукі.*
*Водар неба. Лячу да аблокаў.*

*Толькі подыхам, рухам і крыкам…*

* * *

*Ты зноў ідзеш скрозь сны і міражы*
*самотным пілігрымам. На палетках*
*стаяць сляпыя чорныя крыжы,*
*як крыжыкі ў разлінаваных клетках.*
*І выйграў не ты. Твае нулі —*
*бы вочы ўсіх нязздзейсненых чаканняў.*
*Цяпер табе па правілах гульні*
*няма вяртання і выратавання.*
*Адно — ісці на поўнач ці на ўсход,*
*чытаць сляды, як літары і знакі.*
*І верыць, што праз нейкіх дваццаць год*
*здалееш адшукаць сваю Ітаку.*



Фота Віктара Кавалёва




## З кнігі "Берагіні"

### Чырвоны конь

*У сініх высях,*
*Як агонь,*
*Пасецца конь,*
*Чырвоны конь.*

*А грыва*
*За-ла-та-я,*
*Як полымя,*
*Ўзлятае.*

*Святлом*
*Праменіцца пагляд,*
*Што азарае*
*Далягляд.*

*Той конь,*
*Цікуючы здалёк,*
*Скубе стагі*
*Густых аблок.*

*Пасецца ў высях,*
*Як агонь,*
*Чырвоны конь,*
*Чароўны конь.*

### Каля помніка Сафіі Слуцкай

*Знянацку*
*Слуцкая княгіня*
*Сышла з нябёс,*
*Нібы багіня.*

*Святая,*
*Родная жанчына,*
*Нам дарагая,*
*Як Айчына.*
*Глядзіць*
*Світальнымі вачыма.*
*А памяць*
*Плача за плячыма.*

*Глядзіць на нас —*
*І не міргае,*
*Ад забыцця*
*Аберагае.*

*Знянацку*
*Слуцкая Сафія*
*Зачаравала,*
*Як стыхія.*

### Губернатарскі сад

*Былы*
*Губернатарскі сад*
*Глядзіцца ў люстэрка ракі.*
*Нібы*
*Дзвесце вёсен назад,*
*Спяшаюць сюды мінчукі.*

*І я*
*Паміж весніх прысад*
*Блукаю,*
*Згубіўшы спакой,*
*Калі*
*Губернатарскі сад*
*Шапоча лісцём над ракой.*

### Сасновы бор

*Нямала зім,*
*Нямала лет*
*Сасновы бор*
*Быў мой сусед.*

*Ён закалыхваў*
*І будзіў,*
*Суніцай*
*Горыч саладзіў.*

*На вершы*
*Спеўныя натхняў,*
*Ад непагоды*
*Засланяў...*

*Нямала зім,*
*Нямала лет*
*Сасновы бор*
*Мой помніць след.*

*З расстайных пор,*
*Нібы дакор,*
*Глядзіць ва ўпор*
*Самотна бор.*

# Проста здарылася папулярнасць...

Алена ДРАПКО,
фота з інтэрнэт-сайта www.fantlab.ru

**Ці складана сёння выдаць кнігу ў Польшчы? Як ставяцца нашы заходнія суседзі да папулярнай літаратуры? Як пачуваецца пісьменнік у ролі акцёра, героя ўласнай жа кнігі? На гэтыя і іншыя пытанні адказвае вучоны-фізік і знакаміты польскі пісьменнік Януш Леон Вішнеўскі, чыя кніга "Адзінота ў сеціве" пабачыла свет дзесяць год таму і адразу ж стала папулярнай не толькі ў Польшчы.**



**— Пан Януш, як ставяцца да вашай творчасці ў Польшчы?**

— Я адзін з самых папулярных аўтараў у Польшчы. Складанае пытанне, як мераць гэтую папулярнасць. На жаль, у Польшчы словазлучэнне "папулярная літаратура" мае негатыўную канатацыю. Калі кніга знаходзіцца на адной паліцы з папулярнай літаратурай, часам лічыцца, што гэта нешта менш вартаснае, што гэта не эксклюзіўная літаратура, не якасная. Але, калі мы паглядзім на кнігі некаторых сённяшніх класікаў у Польшчы, напрыклад, Генрыка Сянкевіча — калісьці яго творы таксама лічыліся літаратурай папулярнай. Сёння гэта класіка. Мая папулярнасць мяне не надта цікавіць, мне вельмі важна выказацца, штосьці сказаць сваім чытачам.

**— Калі вашыя творы крытыкуюць, як вы гэта ўспрымаеце?**

— Мяне заўсёды радуе, калі кніга мае плюсы і мінусы. Мае кнігі маюць станоўчыя і адмоўныя рэцэнзіі як у прэсе, так і сярод чытачоў. З большай увагай чытаю адмоўныя. Я не бачу розніцы паміж рэцэнзіямі ў газеце і тымі, якія атрымліваю ад сваіх чытачоў. Спачатку я быў шакіраваны: як можна мяне крытыкаваць ды яшчэ і пісаць пра гэта ў газеце? Ёсць водгукі, якія складаюцца з аднаго сказа, і я буду памятаць іх усё жыццё. Галоўнае для мяне, што людзі, купляючы маю кнігу, даюць мне самае важнае — свой час. І я ім за гэта ўдзячны.

**— Як вы ставіцеся да меркавання, што вашы кнігі — прыклад масавай літаратуры?**

— Тут, на мой погляд, тэма масавасці звязана з тэмай папулярнасці. Але я пішу кнігі для сябе, а не на замову. Маю і прывілей: не мушу пісаць, каб пражыць. Для мяне гэта не прафесія, а занятак, які і хобі нельга назваць, гэта слова звужае межы таго, чым я займаюся. Проста ёсць неабходнасць займацца гэтым.

**— Па вашай кнізе знялі фільм, і вы паспрабавалі сябе ў акцёрскім амплуа. Якія ўражанні засталіся ад гэтай спробы?**

— Рэжысёр фільма папрасіў мяне, каб я хоць на момант з'явіўся ў фільме. Так, як Хічкок з'яўляўся на хвілінку ў сваіх фільмах. Ён быў лакеем, які нешта падносіў прысутным. Рэжысёр мяне пераканаў. Мне было цікава паглядзець, як здымаецца кіно, і я згадзіўся на маленькую ролю. Як аказалася, гэта цяжкая праца, бо тое, што на экране паказана паўтары хвіліны, на здымачнай пляцоўцы стваралася на працягу чатырох гадзін. Потым, калі тэатр "Балтыйскі дом" неяк скапіраваў ідэю і мяне запрасілі прыняць удзел у іх пастаноўцы, гэта аказалася яшчэ складаней, чым праца над фільмам. У кіно адзін і той жа момант можна паўтарыць некалькі разоў, а ў тэатры — адразу, ды яшчэ і на рускай мове. Гэты вопыт я ўспрымаю як нейкую прыгоду ў сваім жыцці.

**— Што не спадабалася вам у фільме, знятым паводле вашай кнігі "Адзінота ў сеціве"?**

— На гэты фільм можна глядзець з розных бакоў. З аднаго боку, гэта самастойны мастацкі твор. І ён цудоўны. Калі ж паглядзець на гэты фільм як на перадачу ўсяго, што ёсць у маёй кнізе, гэтага не атрымалася. Так, тыя, хто не чытаў кнігу, фільм не разумелі. Тут можна і апраўдаць аўтараў фільма, бо на момант, калі фільм выходзіў у 2006 годзе, ужо амаль уся Польшча чытала кнігу і ў кожнага было сваё ўяўленне пра яе. Таму складана задаволіць усіх чытачоў і перадаць тое, што хацелі ўсе бачыць.

**— У вас выйшла кніга для дзяцей "Марцэлінка". Ці плануеце стварыць яшчэ нешта ў галіне дзіцячай тэматыкі?**

— Не. Гэты праект быў вельмі складаным. Польскае дзіцячае выдавецтва папрасіла мяне напісаць казку для дзяцей. Я ім тады сказаў, што пішу казкі для дарослых. Але потым згадзіўся і патлумачыў — гэта будзе навуковая казка. Шчыра кажучы, гэтую кнігу я напісаў для сваіх дачок. Паехаўшы ў Германію, я быў заняты сабою і ўласнай кар'ерай і не чытаў ім казак. Гэта мая памылка. Цяпер яны дарослыя і слухаюць казкі іншых мужчын. Пісаць для дзяцей цяжка: трэба складаныя рэчы тлумачыць проста. Шмат часу я аддаў гэтай маленькай і прыгожай кнізе.

**— Ваша творчае супрацоўніцтва з Малгажатай Дамагалік вылілася ў напісанне кніг "188 дзён і начэй", "Паміж радкоў". Ці ёсць у вашага творчага саюза будучыня?**

— Я пісаў з Малгажатай. Яна цікавая і паспяхова жанчына. Мы перапісваліся. І ў нейкі момант, не запытаўшы мяне — як гэта робіць заўсёды Дамагалік — яна звярнулася ў выдавецтва і пацікавілася, ці можна выдаць нашы лісты. А потым расказала пра гэта мне, і я падумаў: чаму б не? Праз тое, што я ведаў: перапіска будзе апублікавана, яна стала не такой адкрытай. У кнізе "Паміж радкоў", я думаю, усё ўжо сказана. І працягу не будзе. Цяпер я пішу кнігу з Ірадай Ваўненкай, гэта будзе кніга пра гісторыю кахання паляка і рускай, пра руска-польскую сучаснасць.

**— Раскажыце пра магчымасці выдавацца ў Польшчы.**

— Усюды складана выдаць кнігу. Таму што сёння пішуць многа і многія: палітыкі, спартсмены, акцёры. Але ёсць тэмы, якія цікавяць людзей. Першую кнігу выдаць найбольш складана. Потым, калі выданне мае поспех, ужо лягчэй. Я думаў, што "Адзінота ў сеціве" будзе першай і апошняй маёй кнігай. Ды яна стала папулярнай, таму да мяне звярнуліся, каб я напісаў яшчэ нешта. Папулярнасць сярод чытачоў абумоўлівае магчымасць выдавацца.

**— Якімі, на ваш погляд, павінны быць патрабаванні чытача, каб яму вашыя кнігі былі карыснымі?**

— Ён павінен быць сумным, таму што свае кнігі я пішу ў смутку. Калі шчаслівы чалавек прачытае маю кнігу, ён можа засумаваць ці яго шчасце апынецца на іншым узроўні. А вось калі ў яго праблемы, часта мае кнігі дапамагаюць.

## *Прэзентацыя*

# Са скарбонкі традыцыйнай культуры

Вольга НОРЫНА




Выдавецтва "Вышэйшая школа" працягвае працу над серыяй "Традыцыйная мастацкая культура беларусаў". Убачыла свет другая кніга пятага тома выдання, які абагульняе вынікі комплекснага фальклорна-этнаграфічнага даследавання традыцыйнай мастацкай культуры Цэнтральнай Беларусі, праведзенага ў 2006—2010 гадах вядучымі даследчыкамі народнай культуры беларусаў. (Часовы творчы калектыў створаны пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі для працы над кнігай.)

У новую кнігу ўвайшлі матэрыялы, якія даюць уяўленне пра адметныя асаблівасці такіх відаў і жанраў мясцовай традыцыйнай культуры, як танцавальны фальклор, народныя гульні, малыя жанры фальклору, замовы, традыцыйнае адзенне і тэкстыль.

Чытач знойдзе шмат фатаграфічных і нотных матэрыялаў, а таксама электронны дадатак з аўтэнтычнымі запісамі народнай прозы ў выкананні носьбітаў традыцыі.

Выданне, безумоўна, зацікавіць навукоўцаў-гуманітарыяў, выкладчыкаў і студэнтаў вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, настаўнікаў, работнікаў культуры, кіраўнікоў прафесійных і аматарскіх мастацкіх калектываў, усіх, хто неабыякавы да беларускага традыцыйнага мастацтва.

## *У падтрымку чытання*

**Пісьменніца Дзіяна Балыка:**

# «Мяне зачароўваў рытм цвятаеўскіх вершаў»

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Валерыя Сафонава



— Падлеткам чытала шмат паэзіі. Калі клалася спаць, замест таго, каб лічыць ружовых сланоў, прагаворвала вершы, якія ведаю на памяць. Маёй вялікай любоўю быў Эдуард Асадаў — з яго простымі для ўспрымання і па тэхніцы вершамі, якія мяне моцна "чаплялі". Пасля — Высоцкі і Еўтушэнка, крыху пазней Цвятаева, Ахматава. Вядома, у тыя гады не разумела да канца творчасць Цвятаевай, але моцна зачароўваў рытм. Чытала "Джэн Эйр" Ш. Бронтэ, "Дзве Дзіяны" А. Дзюма. Шмат прыгодніцкай літаратуры, цяпер ужо і не прыгадаеш назваў. Можа, гэта была літаратура і не самага высокага ўзроўню, але на кожным этапе станаўлення прыходзіць тое, што цікава. Пасля таго, як прачытаеш Дастаеўскага, у буквары ўжо нічога для сябе не адкрыеш. Але спачатку трэба прайсці праз буквар.

Апошнім часам у мяне татальнае захапленне сучаснай беларускай літаратурай — творамі дзяўчат, з якімі аказалася ў адным праекце — "Беларускі сучасны каляндар". Вялікае ўражанне ад рамана Яўгеніі Пастэрнак і Андрэя Жвалеўскага "Час заўсёды добры". Хаця кніга напісана для падлеткаў, цікава было параўнаць сваё светаўспрыманне са светаўспрыманнем гэтых аўтараў (у маёй п'есе "Белы анёл з чорнымі крыламі" ёсць фраза, што часы заўсёды аднолькавыя — дрэнныя. І мне цікава было наведаць той час, які заўсёды добры). Люблю Ганну Альхоўскую, чые іранічныя дэтэктывы выдаюцца ў Расіі, мне прыемна чытаць Тамару Лісіцкую, слухаць у машыне песні Алены Ярмаловіч, Вольгі Акуліч.

*Scripta manent*

# Падарункі для бібліятэкі

Алесь СУША,
фота БелТА

**Усё часцей і часцей у шырокім друку сустракаюцца паведамленні пра віртуальную рэканструкцыю асобных кнігазбораў, што некалі ствараліся на беларускіх землях. Час ад часу з'яўляюцца таксама і згадкі пра перадачу ў Беларусь лічбавых копій тых ці іншых кніжных помнікаў. Аднак надзвычай рэдка даводзіцца сустракацца з рэальным (а не віртуальным) вяртаннем у Беларусь, здавалася б, назаўжды страчаных кніжных скарбаў. Нядаўна адбылася менавіта такая знакавая для айчыннай культуры падзея: у Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь прайшла цырымонія перадачы ў дар Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, Нацыянальнаму гісторыка-культурнаму музею-запаведніку "Нясвіж" і іншым установам культурных каштоўнасцей, якія маюць непасрэднае дачыненне да Беларусі, але ў выніку гістарычных акалічнасцей былі вывезены з краіны.**

Ініцыятарам высакароднай акцыі стаў старшыня Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі" Валерый Казакоў. Менавіта дзякуючы яго намаганням на працягу некалькіх апошніх год былі выяўлены і набыты каштоўныя помнікі даўніны, якія цяпер трапілі ў беларускія зборы.

Найбольш пашанцавала з "прэзентамі" Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Галоўная бібліятэка краіны атрымала ў дар некалькі дзясяткаў каштоўных помнікаў. Сярод іх — кніга знакамітага віцебскага гісторыка і краязнаўцы Аляксея Сапунова "Віцебская даўніна" (1885) з аўтографам аўтара, арыгінальнае фаліянтнае выданне Бібліі (1823), настаўленне па гісторыі і геральдыцы (1711), поўны збор твораў Г. Ібсэна (1907), апошнія выдадзеныя тамы Ліцавога летапіснага зводу і вялікая колькасць выданняў XIX – пачатку XX стагоддзя. Варта звярнуць увагу на надзвычай каштоўнае бібліяфільскае выданне альбома літаграфій вядомага мастака Міхаіла Шэмякіна да песень і вершаў Уладзіміра Высоцкага. Вялікую цікавасць уяўляюць таксама атрыманыя 14 альбомаў "Вялікая вайна ў вобразах і карцінах" (1914—1917), якія выдаваў Д. Макоўскі.

Але, бадай, самымі значнымі з атрыманых бібліятэкай выданняў з'яўляюцца копіі двух надзвычай каштоўных беларускіх летапісаў: Слуцкага летапісу (пачатак XVI стагоддзя) і Баркулабаўскай хронікі (пачатак XVII стагоддзя). Гэтыя летапісныя помнікі захоўваюцца сёння ў зборах Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве і таму з'яўляюцца маладаступнымі для беларускага чытача. У той жа час яны маюць найвялікшае значэнне для вывучэння гісторыі станаўлення беларускай дзяржаўнасці і развіцця беларускай мовы. Слуцкі летапіс уяўляе сабой адзіны прыклад трэцяй (апошняй) рэдакцыі дзяржаўнага летапісу Вялікага Княства Літоўскага. Баркулабаўская хроніка — гэта надзвычай цікавы прыклад рэгіянальнага летапісання, дзе падзеі краіны падаюцца праз светаўспрыманне жыхара Усходняй Беларусі.



Пры падтрымцы Валерыя Казакова Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі былі перададзены не толькі якасныя лічбавыя копіі, але і раздрукаваныя ў арыгінальным фармаце факсімільныя копіі (пакуль не выдадзеныя) беларускіх летапісаў. Тэксты гэтых летапісных крыніц у свой час ужо былі апублікаваны ў складзе асобных зборнікаў і зводаў беларускага і ўсходнеславянскага летапісання. Аднак пра рэальны выгляд саміх помнікаў не ведае, бадай, ніхто з беларусаў, апрача адзінкавых даследчыкаў. Пры гэтым, амаль усе беларускія летапісы былі першапачаткова ўключаны ў склад значна большых па памерах зборнікаў, якія пачынаюць свой аповед ад часоў стварэння свету і праз біблейскую гісторыю і гісторыю еўрапейскую апісваюць дзеі ўласнай дзяржавы.

Такім чынам, гісторыя Беларусі аказваецца ўпісанай у агульнасусветны кантэкст, які абмінаўся пры папярэдніх выданнях беларускіх летапісаў. У сувязі з гэтым сёння распрацоўваецца праект факсімільнага выдання беларускіх летапісаў, які можа стаць сумесным для Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і Федэральнай аўтаноміі "Беларусы Расіі".

***На здымку: каштоўнасці, перададзеныя ўстановам культуры Беларусі Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміяй "Беларусы Расіі".***

# Янка Купала и «Московский комсомолец»

Вячеслав АФАНАСЬЕВ

**Как это ни покажется странным, но факт сотрудничества выдающегося белорусского песняра с этим молодёжным печатным органом имел место. Поэтому возникает сразу несколько вопросов: когда, кто и с какой целью привлёк уже не молодого Янку Купалу в эту газету? Чтобы ответить на них, обратимся к истории создания "Московского комсомольца".**

Первый номер этой газеты вышел в свет 1 сентября 1929 года. В передовой статье говорилось: "С первого же дня своего существования "Московский комсомолец" должен стать во главе руководства классовой борьбой, которую ведёт рабоче-крестьянская молодежь Московской области, во главе классового воспитания масс".

Чрезвычайно любопытная деталь. В этом же первом номере был напечатан "Наказ комсомольца Виноградова", считавшего, что "газета должна иметь литературную страничку, которая уделяя место творчеству молодёжи, систематически рекомендовала бы вышедшие книги. На этой же страничке должны происходить споры по различным вопросам литературы".

Первая "Литературная страница" не заставила себя ждать. Уже 5 сентября в 4-м номере "Московского комсомольца" она появилась, а в 40-м номере (за 17 октября этого же года) вышла последняя, седьмая. Дело в том, что с 22 октября 1929 года газета стала выходить в уменьшенном формате. "Литературная страница" исчезла, хотя "Московский комсомолец" из номера в номер продолжал печатать стихи, отрывки художественной прозы и рецензии на вновь вышедшие книги. Здесь печатались стихи С. Кирсанова, И. Сельвинского, А. Безыменского и других поэтов. Проза была представлена писателями К. Финном, Б. Кушнером и А. Явичем. А критические заметки и рецензии писали А. Тарасенков, А. Селивановский, М. Колосов, О. Литовский и другие.

Несколькими стихотворными произведениями было представлено на страницах "Московского комсомольца" и творчество Янки Купалы в переводе известного поэта Эдуарда Багрицкого. К сожалению, нам точно не известно, каким образом среди основной массы русскоязычных поэтов, писателей и критиков оказался белорусский автор. Но есть одно предположение, которым я хочу поделиться с читателями.

Как оказалось, "Литературную страницу" в газете "Московский комсомолец" с самого начала курировал Осип Мандельштам — один из ярких представителей акмеизма. За несколько дней до выхода в свет газеты Осип Эмильевич, искавший в конце 1920-х годов контактов с современностью, обратился с письмом к Виссариону Саянову — молодому, но уже снискавшему известность комсомольскому поэту. Привожу это письмо:

"Дорогой товарищ Саянов! Пишу Вам в подкрепление телефонного звонка. "Московский комсомолец" широко развёртывает литературный отдел. Нам необходимо тесное сотрудничество с ленинградской молодёжью. Вы знаете её лучше, чем ктолибо. К вам настоятельная просьба: подбирайте материал и шлите его на адрес редакции. Я всецело полагаюсь на ваш выбор и всё, что вы возьмёте у авторов, они могут считать принятым.

Если Вас не затруднит, переговорите с Тихоновым. Ваши стихи и его нам необходимы, кроме того, необходима проза Тихонова. Ведя борьбу со всякого рода цеховщиной и варкой в собственном соку, мы сразу берём установку на культурный подъём. Комсомольский литературный молодняк нуждается в старших союзниках. Нельзя предоставлять его собственным силам. Я не представляю себе, чтобы вы не откликнулись немедленно на наш призыв…"

По всей вероятности, Осип Эмильевич тогда такое же письмо написал и отправил Янке Купале, приглашая творчески и организационно участвовать в "Московском комсомольце", надеясь с его помощью привлечь в газету молодых и талантливых поэтов и писателей Беларуси. Мы видим, что в письме изложена программа не только поэтического отдела газеты, но, по-видимому, и литературного кружка, работавшего при редакции "Московского комсомольца" — задолго до выхода газеты в свет. Ведь не случайно в первом номере её появился "Наказ комсомольца Виноградова" по поводу создания "Литературной странички". Не скрылся ли под этим именем сам Осип Мандельштам?

Хочется верить, что это предположение найдёт своё документальное подтверждение, которое, видимо, хранится либо в архиве Янки Купалы, либо в Рукописном отделе Пушкинского Дома АН России в фонде Осипа Мандельштама. Тем самым мы откроем ещё одну новую страничку русско-белорусских литературных связей.

*Азбука Морзэ*

Чэслава ПАЛУЯН

● Пінокіа, знакаміты герой дзіцячай кнігі італьянскага пісьменніка Карла Калодзі, сёлета святкуе 130-гадовы юбілей. Упершыню казка "Прыгоды Пінокіа: гісторыя драўлянай лялькі" была апублікавана ў выглядзе раманафельетона на старонках "Газеты для дзяцей" 7 ліпеня 1881 года. За гэты час казку пераклалі на 87 моў свету, па яе матывах зняты не адзін фільм і мультфільм. У Расіі з Пінокіа ўпершыню пазнаёміліся ў 1906 годзе — кніга выйшла ў выдавецтве М. Вольфа. У 1936 годзе Аляксей Талстой прапанаваў сваю версію аповесці з назвай "Залаты ключык, ці Прыгоды Бураціна". У яго пераказе кніга моцна змянілася: акрамя новай назвы, тут з'явіліся іншыя героі, мадыфікаваўся і сам вобраз Пінокіа.

▬ Нацыянальная бібліятэка Беларусі працягвае цыкл кніжных выставак, прысвечаных юбілеям знакамітых пісьменнікаў. Наступнымі ў шэрагу тэматычных экспазіцый стануць выстаўкі, прысвечаныя 140-годдзю Марсэля Пруста, 155-годдзю Бернарда Шоў, 240-годдзю Вальтэра Скота, 140-годдзю Тэадора Драйзера, 155-годдзю Івана Франко і 75-гадоваму юбілею Эдварда Радзінскага. Кніжныя экспазіцыі будуць размешчаны на трэцім паверсе НББ.

● Прэзідэнцкая бібліятэка Расійскай Федэрацыі імя Барыса Ельцына абвясціла пачатак II Міжнароднага конкурсу жанравай, рэпартажнай і дакументальнай фатаграфіі для прафесіяналаў і аматараў "Погляд з-за мяжы" (*Foreign View*). Гэта фатаграфічны праект, мэта якога зафіксаваць шматстайнасць сацыяльных, палітычных, культурных і іншых праяў дзяржавы ў жыцці грамадзян. Тэма конкурсу ў 2011 годзе — "Дзяржава XXI стагоддзя". Да ўдзелу ў ім прымаюцца замежныя работы, зробленыя расіянамі, і фотаздымкі Расіі, зробленыя жыхарамі іншых краін.

▬ З 21 да 24 ліпеня ў Алтайскім краі пройдуць 35-я Шукшынскія чытанні, што традыцыйна праводзяцца напярэдадні дня нараджэння пісьменніка, акцёра і рэжысёра Васіля Шукшына. Падчас "Шукшынскіх дзён на Алтаі" ў ліку іншых імпрэз адбудуцца сустрэчы з сучаснымі расійскімі пісьменнікамі Міхаілам Таркоўскім, Аляксеем Варламавым, Яўгенам Паповым і Яўгенам Шышкіным.

● Выдавецтва "Росмэн" прадставіла шорт-ліст II штогадовага конкурсу "Новая дзіцячая кніга", мэтай якога з'яўляецца пошук аўтараў, што пішуць для дзяцей і падлеткаў. У гэтым годзе на конкурс было даслана 1870 работ. У спіс прэтэндэнтаў на атрыманне прыза ў намінацыі "Дзіцячая казка", як і планавалася, увайшло 20 твораў, а вось у намінацыі "Расія. XXI стагоддзе" замест запланаваных 20 увайшлі толькі два рукапісы, бо большая частка дасланых работ не адпавядала тэматычнаму рэгламенту намінацыі. Вынікі конкурсу "Новая дзіцячая кніга" будуць падведзены 7 верасня, падчас Маскоўскага міжнароднага кніжнага кірмашу.

▬ Кнігі Дэна Браўна трэці год запар займаюць верхні радок рэйтынгу сярод выданняў, што часцей за ўсё здаюцца на дабрачыннасць у магазіны буйной брытанскай сеткі *Oxfam Bookshops*. Другое месца ў спісе дабрачынных кніг дасталося дэтэктывам Іэна Рэнкіна, хоць гэтых твораў і няма ў спісах бестселераў. У дзясятцы рэйтынгу чытацкіх падарункаў з мінулага года засталіся творы журналіста Джэрамі Кларксана і "патарыяна" Джоан Роўлінг, а сярод "навічкоў" заўважаны Стывен Кінг, Дэймс Патэрсан і Стэфані Маер.

## Унікальны праект

**Пабачыць Гродзеншчыну, якой яе бачаць птушкі, пілоты самалётаў, цяпер можна не толькі ў марах ці снах, але і на старонках кнігі. Менавіта такое багата ілюстраванае выданне пабачыла свет у выдавецтве “Беларусь”. Фотаальбом журналіста і фотамастака Аляксандра Ласмінскага “Гродзенская зямля з вышыні птушынага палёту” амаль цалкам складзены з новых здымкаў, зробленых Аляксандрам Іосіфавічам за апошнія тры гады. На гэтым тыдні кніга прэзентавана ў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Яўхіма Карскага. Разам з аўтарам прадстаўляем яе нашым чытачам.**



Марына ВЕСЯЛУХА

# Прынёманне без «фоташопу»

### 17 цудаў Гродзеншчыны

*Выданне адкрываюць здымкі Гродна і Гродзенскага раёна, затым у кнізе змешчаны фотаздымкі іншых шаснаццаці раёнаў Гродзеншчыны з кароткай інфармацыяй пра іх — на трох мовах: беларускай, рускай і англійскай.*

— Ідэя ўбачыць зямлю вачыма птушак нарадзілася даўно. Фатаграфіяй займаюся са школы, здымаць і пісаць пачаў адначасова, і цяпер гэта частка майго жыцця. Але ў апошнія гады апарат бяру ў рукі толькі ў вольны час. А ўвечары, калі яшчэ хапае сіл, магу некалькі гадзін пасядзець за сваім камп’ютарным архівам. У тым ліку над здымкамі з паветра. Пейзаж я любіў заўсёды. І калі збіраў першую кнігу “Возера Свіцязь” (Мінск, “Беларусь”, 2003), дзе змешчаны фотазамалёўкі з вандровак вакол возера, што рабіліся цягам пяці гадоў, сапраўды вельмі шкадаваў, што на той момант не было магчымасці ўбачыць любімае возера з неба. Тады сэнс свіцязянскай тоеснасці я шукаў у творах вялікіх землякоў — у вершах Адама Міцкевіча і ў фотаздымках і нататках Яна Булгака. Свіцязь дагэтуль для мяне — штосьці таемнае і жаданае, як каханая жанчына... Менавіта такім нарэшце ўбачыў возера з неба і змясціў у новым альбоме. Першапачаткова меў план абляцець усе найбольш цікавыя куточкі Гродзеншчыны і занатаваць фотакамерай 17 непаўторных цудаў — столькі раёнаў у нашай вобласці з іх помнікамі архітэктуры і краявідамі. Першыя паветраныя здымкі я часткова выкарыстаў у фотаальбоме “Прынёманне” (Мінск, “Беларусь”, 2005, перавыданне 2007). Вынік працы за апошнія тры гады — у новай кнізе.

### З неба бачна ўсё

*Гарадзеншчына з такой вышыні сапраўды ўражвае. Старажытныя замкі, храмы, лясы, палі… Нават гартаючы кнігу, міжволі ўсклікаеш: “Якая прыгажосць!” Што ж адчуваў аўтар здымкаў падчас такіх палётаў?*

— Я нездарма зноў ужываю параўнанне: 17 цудаў вобласці плюс галоўны яе скарб Гродна. Гэта не перабольшванне. На зямлі мы не заўважаем прыгажосці, якая атачае нас паўсядзённа. З неба ўсё выглядае фантастычна: гарады і маленькія вёсачкі, замкі, цэрквы і касцёлы, палі, пагоркі, рэчкі і азёры, лясы. Ува ўсім адчуваецца рука дбайнага гаспадара-мастака, які нібы знарок арганічна і таленавіта ўпісаў усё і расфарбаваў, каб радавалася вока. І тут пераплятаецца зробленае прыродай і чалавекам. Я шчаслівы, што на гродзенскай зямлі жывуць сапраўдныя гаспадары. Яны зрабілі нашы гарады і вёсачкі прыгожымі і камфортнымі, яны зямлю апрацоўваюць з любоўю — з неба ўсё бачна. Можа, таму тут і сама прырода віруе хараством. Ну і потым —усё гэта здымаў чалавек, улюбёны ў Прынёманне. Гэта ж мая зямля, самая лепшая на свеце! І на здымках яна сапраўды такая без ніякага “фоташопу”.



### Бацюхна Нёман

*З усяго мноства здымкаў, што змешчаны ў кнізе, можна адразу ж вылучыць найбольш моцныя энергетычна — тыя, дзе адчуваецца подых магутнага Нёмана, пах вады і прыбярэжных лугоў. Кронан — так называлі гэтую раку нашы продкі. Так хочацца назваць яе і цяпер, натхніўшыся не звыклымі, “зямнымі” здымкамі Сынковіч, Гальшан, Крэва, Старога і Новага замка ў Гародні, а незвычайнымі, “нябеснымі”, што з вышыні паказваюць сапраўдную веліч нашай гісторыі.*

— Без захаванай даўніны, сапраўдных архітэктурных скарбаў нашых продкаў не было б на Гродзенскай зямлі той яе прыцягальнасці і шляхетнасці. Каля 60 працэнтаў помнікаў архітэктуры Беларусі — у нас (маёнткі, палацы, замкі, праваслаўныя і каталіцкія храмы і кляштары). А Гродна ўвогуле адзіны каралеўскі горад у краіне...

### Настаўнікі і паплечнікі

*Напэўна, здымкі з самалёта можна аднесці да асобнага жанру фатаграфіі— такія выявы не атрымліваюцца “з ходу”, навуцы бачыць прыгожае з вышыні патрэбна навучыцца.*

— Маю добрых сяброў і ў той жа час выдатных настаўнікаў у гэтай справе: знакаміты фотамастак Антанас Суткус з Вільнюса яшчэ ў савецкія часы паказваў свае здымкі непаўторных краявідаў з вышыні птушынага палёту, Віктар Волкаў з Беластока не толькі даваў урокі, але аднойчы ўзяў у палёт з фотаапаратам над польскай часткай Аўгустоўскага канала. Тады я яшчэ карыстаўся плёначным “Зенітам”. З сучасных беларускіх фотамастакоў шаную творчасць Сяргея Плыткевіча.

Хачу выказаць падзяку і асобам, без якіх выдання папросту не было б. У прыватнасці, кіраўніку Гродзенскай вобласці Сямёну Шапіру. Ён, пазнаёміўшыся з праектам, стаў таксама дбаць пра яго ўвасабленне ў жыццё. Мастаку-дызайнеру выдавецтва “Беларусь” Вячаславу Паўлаўцу, які таленавіта склаў гэтую кнігу.

Разлічаны адмысловы фотаальбом на масавага чытача і гледача, на турыстаў. Але ёсць упэўненасць, што пасля такога погляду на Гродзеншчыну наша зямля атрымае новых сяброў і, калі можна так сказаць, прыхільнікаў. Бо гэтую зямлю не любіць немагчама.

***На здымках: Гальшанскі замак (Ашмянскі раён); Стары і Новы замкі ў Гродна.***

***Фота Аляксандра Ласмінскага з альбома “Гродзенская зямля з вышыні птушынага палёту”.***

## Пад вокладкай

Юзэфа ВОЎК



**Тылец, В. А. Граница 41: Белорусский пограничный округ: Малоизвестные страницы истории / Владимир Тылец. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 320 с.**

3.45 раніцы 22 чэрвеня 1941 года. Варожая артылерыя пачала моцны абстрэл войскаў, размешчаных у памежнай паласе БССР. Не прызначаныя для адбіцця ўзброенага нападзення праціўніка, памежныя войскі стойка трымаліся пад націскам фашыстаў. У гэтай кнізе даследчык Уладзімір Тылец упершыню робіць спробу найбольш поўна паказаць баявую дзейнасць падраздзяленняў, часцей і злучэнняў войск Беларускай памежнай акругі ў баях першых дзён і месяцаў Вялікай Айчыннай вайны.



**Шамякін, І. П. Збор твораў. У 23 т. Т. 5. Аповесці, 1988 — 1993 / Іван Шамякін. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011. — 622 с.**

Даследчыкі сцвярджаюць, што сакрэт пісьменніцкай папулярнасці Івана Шамякіна ў яго хуткай рэакцыі на грамадскія падзеі і надзвычайная вастрыня ўзнятых праблем рэчаіснасці. І найбольш ярка можам гэта ўбачыць і адчуць на творах, змешчаных менавіта ў гэтым томе Збору твораў Івана Пятровіча. У аповесцях, што склалі кнігу, аўтар звяртаецца да актуальных праблем не такога далёкага для нас часу — канца 1980-х — пачатку 1990-х гадоў.



**На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы / В. В. Яноўская і інш. — Мінск: Беларуская навука, 2011. — 311 с.**

Два гады таму Інстытут гісторыі НАН Беларусі адзначыў сваё 80-годдзе. За гэты час айчынная навука пра мінулае зрабіла досыць шмат у асэнсаванні гісторыі нашага краю. Новыя дакументальныя крыніцы, метадалагічныя інструментарый за апошнія дзесяцігоддзі значна пашырылі тэматычныя сюжэты, дапамаглі ўдакладніць ранейшыя звесткі і ўяўленні па шматлікіх тэмах. Дадзеная калектыўная навуковая работа — абагульненне здабыткаў гістарычнай навукі па пытаннях вывучэння нацыястваральных працэсаў у Беларусі, фарміравання нашай нацыянальна-дзяржаўнай ідэі.



**Егорова, Т. Н. Андрей Миронов и я / Татьяна Егорова. — Москва: Эксмо, 2010. — 624 с.**

У гэтым рамане жывуць і дзейнічаюць знаёмыя акцёры, рэжысёры, мастакі — Аляксандр Шырвінд, Марк Захараў, Эдвард Радзінскі, Мая Плісецкая… Але самым важным адкрыццём кнігі, самым яркім яе вобразам стане асоба аўтара — Тацяны Ягоравай, каханай жанчыны легендарнага Андрэя Міронава. Ягорава — не толькі таленавітая актрыса, але і чалавек, адораны пісьменніцкім майстэрствам. Кожная глава кнігі — закончаная лірычная ці сюжэтная мініяцюра, дыялогі — дакладна выбудаваныя, ды і ў цэлым кніга зачароўвае. Крытыкі нават прыпісваюць аўтарцы заслугу адкрыцця новага жанру ў рускай літаратуры — спавядальнай прозы. А яе споведзь сапраўды зачапіла і напалохала многіх сучаснікаў, выклікала шмат захопленых і злосных рэакцый.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам “Кніжны салон”. Тэл. 385-60-89.**

# Шафёрскія гісторыі



Віктар Кунцэвіч

## Ёсць на свеце мой лось…

*Ёсць на свеце мой алень,*
*Ёсць і гэткае маленне...*

**Аляксей Пысін**

Упершыню ў жыцці я пабачыў лася шасцігадовым хлапчуком. Наша вёска Чырвоны Бор месціцца ўпрытык з сасновым лесам, які тутэйшыя людзі называюць шчырыцай. З яе і выйшаў лясны волат — вялікі, стройны. Галаву ён трымаў горда і грацыёзна. Стаяў літаральна на мяжы нашае сядзібы. Тады я добра яго разгледзеў. Спадабаўся мне лясны жыхар. Потым у прыродзе назіраў гэтую грозную жывёліну здалёк. І вось без малога праз паўстагоддзя зноў убачыў лася зблізку, вельмі і вельмі зблізку.

Вёз я з Мінска ў Бялынічы гандбольную каманду дзяўчынак-школьніц у аўтобусе на 16 пасажырскіх месцаў. У лістападзе дзень вельмі кароткі: а сямнаццатай гадзіне было ўжо цёмна. Закрапаў нудны восеньскі дождж. Пакрысе я наганяў грузавую машыну, перайшоў на блізкае святло фар. І тут заўважыў, што з цемры, з-пад шатаў лесу, ляцiць нейкі вялізны цень. Праз імгненне лось быў на абочыне. Мне падалося, што, аслеплены святлом фар, ён крыху падаўся корпусам назад. Тармазіць было позна, дый ужо ўзляцела ў паветра наструненае цела. Я павёў мікраўтобус на сустрэчную паласу, балазе, яна была пустая. "Ён не паспее сутыкнуцца з намі..." — мільгнула спадзеўная думка. У гэты час трэнер Таццяна Струк кагосьці выклікала па сваім мабільным тэлефоне. Яна адчула, што машына ўзяла рэзка лявей, і зірнула праз ветравое шкло.

— Я ўбачыла літаральна перад сваім тварам вялізную морду жывёлы, — расказвала яна мне потым. — Гэта было так жахліва, што я заплюшчыла вочы...

Мой шафёрскі спадзеў не спраўдзіўся. Пачуўся удар, трэск — гэта лось ударыўся аб стойку мікраўтобуса, ажно раструшчыў люстэрка задняга агляду. Потым я адчуў, што якаясьці сіла моцна піхнула машыну ўбок, але я яе выраўняў і, з'ехаўшы на ўзбочыну, спыніўся. Спынілася і машына, якая ехала следам за намі: выбеглі людзі, дзівіліся, што апасля такога здарэння ў мікраўтобусе засталіся цэлымі ветравое шкло і бакавыя шыбы, а вось дэфармацыя металу была па ўсёй бакавіне, на правай стойцы літаральна ўпрытык з ветравым шклом красавалася ўмяціна памерам з курынае яйка.

— Пашанцавала вам, — сказаў мужчына сярэдніх гадоў, — рухайцеся далей асцярожна...

— А дзе ж лось? Што з ім? — спытаўся я ў яго.

— Я ўбачыў лася, калі ён упаў на пярэднія ногі. Сутыкненне з вашым аўтобусам павярнула яго нам насустрач, аднак лось не стаў вяртацца назад, а перабег дарогу і знік у цемры, — адказаў мужчына.

Вёў я машыну далей больш, чым асцярожна: даваў аб сабе ведаць шок, па целе раз-пораз прабягалі лёгкія дрыжыкі. У галаве варушылася думка: а што, калі б лось паспеў забегчы наперад мікраўтобусу? Што ўратавала ад трагічных наступстваў? Мажліва, тое, што я не стаў тармазіць, а, прыняўшы лявей, адчайна рызыкнуў уцякаць ад лася.

У гэтым пакутлівым роздуме я прыйшоў да высновы, што ўсё-такі сам Бог пашкадаваў дзетак.

Цяперачы, калі мне даводзіцца ехаць дарогай, якая сваімі крыламі расхінае лес на дзве паловы, то ўзгадваю, што ў лясах паміж Беразіно і Бялынічамі жыве мой лось. Менавіта жыве. Я ў гэтым падсвядома ўпэўнены. Няхай жа яму пачуваецца вольна і сытна, кажучы пысінскімі словамі, "пад галінкай дабраты".

## Джып

Ранкам на горад абрынуўся мокры снег. Зрабілася коўзка. Марудна ехалі машыны, асцярожна клыпалі людзі. Вялікі серабрысты джып шпарка імчаў, спадарожныя машыны слухмяна саступалі яму дарогу. Дарога ж узнімалася наверх і з-пад аркі моста рабіла плаўны паварот. Легкавік, які цягнуўся паперадзе, на запатрабавальны сігнал джыпа не прыціскаўся да ўзбочыны, а пачаў тармазіць: на пешаходны пераход ступіла купка людзей. Вадзіцель джыпа гэтаксама націснуў на педаль тормаза — машына, не збаўляючы хуткасці, ляцела юзам. "Зараз я ўдару ў багажнік "жыгулёнка", а ён па інерцыі — людзей", — мільганула ў галаве кіроўцы джыпа, ён адпусціў педаль тормаза, плаўна павёў стырно ўправа. Першай перашкодай стала труба, на якой быў замацаваны знак "пешаходны пераход". Яна толькі роспачна рыпнула ад наскоку сярэбранага волата і лягла, нібыта зламаная запалка. Металічныя сядзенні на аўтобусным прыпынку гулка застагналі, але стрывалі ўдар. Джып замёр.

"Даішнікі" праз колькі часу рабілі сваю звычайную справу: складалі схему дарожна-транспартнага здарэння. Двое мужчын-разявак стаялі на прыпынку і дзяліліся меркаваннямі.

— Добра, што было вельмі рана, — сказаў першы, невысокі брунет у тоўстай чорнай куртцы. — Нікто не сядзеў на лаўках.

— Хто ж у холад будзе на іх садзіцца, — разважна адказаў другі, высокі, сіваваты, у шэрым паліто і запытаўся ў першага: — А ты ездзіў калі-небудзь на джыпе?

Той адмоўна пахітаў галавой.

— А я ездзіў і скажу, братка, хаця і збоку, не кіраваў... адчуванне, што ты звышчалавек. Усе, што прусакі, кідаюцца ў розныя бакі.

Брунет пасміхнуўся:

— Вынік, як кажуць, навідавоку. Відаць, не за свае грошы купіў такую машынку, ды ці збярэш з мазаля на такога прыгажуна. — Ён павёў паглядам па разбітым джыпе: — Шкада.

— Каго шкада, гаспадара ці машыну? — удакладніў высокі.

— Машыну, канечне. Мне б такую. Гаспадару што? Купіць другую...

Я стаяў воддаль ад мужчын, чуў іх гамонку і думаў: вялікая злосць тоіцца ў скнапнасці. А скнапнасць — яна ад беднасці. У кагосьці ад матэрыяльнай, у кагосьці — ад духоўнай. Калі скнапны чалавек матэрыяльна ўзбагаціцца, то, мажліва, стане менш злосным. Найвышэйшае ж багацце — духоўнае. Толькі яно дае магчымасць спазнаць, што з самаўзвышэннем дрэнныя жарты. Прыспеў час рабіць высновы.

## «Лёгкі хлеб»

Вядома, што вакзалы — гэта месцы сустрэч і развітанняў. Ужо шосты год мая праца звязана з аўтавакзалам "Магілёў" і аўтастанцыяй "Бялынічы". Дзякуючы гэтай акалічнасці, мне часта шанцуе пабачыць людзей, якіх не сустракаў дзесяцігоддзі. Надоечы ў Магілёве напаткаў аднакурсніка, з якім не бачыўся пасля сканчэння журфака.

— Вось дык дзіва! — выгукнуў Алесь Атрашкевіч. — Віктар, і ты вярнуўся ў таксісты? Што ж ты так? Я ж сустракаў твае публікацыі ў рэспубліканскіх газетах і часопісах...

— Такія ўжо бываюць у жыцці выкрутасы.

— Ну, брат, маршрутка, ды на такім "забойным" маршруце, як "Магілёў—Бялынічы", — гэта, мяркую, няблага. Пэўна, жывеш як у казцы...

Я пасміхнуўся. Мне чамусьці ўзгадалася казка, якую я любіў чытаць у дзяцінстве. Называецца яна "Лёгкі хлеб". Я спытаўся ў Атрашкевіча, ці памятае ён такую беларускую народную казку.

— Цьмяна, — адказаў сябра, — там нешта пра ваўка і, здаецца, каня. І іх, кажучы сучасным слэнгам, сумесны бізнес.

— Амаль правільна, — адказаў я. — Слухай мой аповед і параўноўвай. Цяпер паслугі па перавозцы пасажыраў — галіна, якая, дзякуючы вялікай канкурэнцыі, развітая больш, чым выдатна. Сёння існуе, па маёй асабістай версіі, чатыры ўзроўні перавозак пасажыраў. Першы — дзяржаўныя аўтапаркі. Другі — прыватныя фірмы і індывідуальныя прадпрымальнікі, гэткія, як я. Мы маем ліцэнзіі, маем дамовы з аператарамі перавозак, спецыяльныя дазволы на пэўны маршрут па раскладу руху. Плацім у казну падаткі, страхоўкі, 15 працэнтаў ад сумы абілечаных пасажыраў тэрміналамі. Плюс дробязныя плацяжы за вываз смецця, абслугоўванне касавага апарата, паслугу медыка, механіка...

— Дык добра ж, — прамармытаў Алесь Атрашкевіч.

— Трэці ўзровень, — працягваў я, — гэта прыватныя прадпрымальнікі, якія маюць ліцэнзію, плацяць падаткі, але не маюць дамовы з аператарам і дазволу на маршрут і працуюць пад выглядам легкавых таксі і нерэгулярных перавозак. Я б назваў іх прыліпаламі каля тэрміналаў.

— Ага, ведаю такіх, карыстаўся іх паслугамі, аціраюцца каля білетных кас, — зазначыў Алесь. — Камплектуюць людзей на пэўных маршрутах.

— Правільна. І чацвёрты ўзровень — гэта поўныя нелегалы. Яны не плацяць падаткаў. Вышукваюць пасажыраў на падыходзе да тэрміналаў, а калі няма прыліпалаў — займаюць іх месца.

— Так. Разумею. У такіх абставінах табе, відаць, працаваць няпроста. Скажы, здараюцца і канфлікты?

— Канечне. Вось, напрыклад, апошні: да майго мікраўтобуса падышла пара. Гэтым жа часам падбег і прыліпала, стаў прапаноўваць свае паслугі. Уставіў і я свае "пяць капеек", сказаўшы людзям, маўляў, навошта ж ісці кудысьці за вугал, калі вось ён транспарт — сядай і едзь.

— І то праўда, — сказаў мужчына-пасажыр і дадаў ужо сваёй спадарожніцы: — Заходзь, дарагая.

Прыліпала злосна бліснуў вачыма і адышоўся. Я зачыніў за пасажырамі дзверы і пакрочыў у касу аўтастанцыі па дакументы. У чакальні было пуста. Прыліпала, якому я не дазволіў забраць пасажыраў, стаяў каля дзвярэй, раптам ён прыняў баксёрскую стойку і нанёс мне колькі ўдараў у галаву. Гнеў імгненна асляпіў мяне. Мы распачалі жорсткую бойку. Я ўбачыў, як нейкая жанчына, зайшоўшы ў залу, спалохана кінулася на выхад. Збегліся нелегальныя перавозчыкі — яны не ўмешваліся. Адны стаялі, здзіўлена вылупіўшы вочы, бо не маглі паверыць, што я змог даць дастойны адпор нахабніку, другія крыва пасміхаліся. Урэшце мой апанент рэцыраваўся.

— Цікава… — задумліва прамармытаў Атрашкевіч і запытаўся: — Ты, відаць, звяртаўся ў міліцыю. Тут жа не толькі фізічны напад, а яшчэ і перашкода тваёй прадпрымальніцкай дзейнасці, а гэтаксама незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць з боку твайго крыўдзіцеля.

— Не, — пахітаў я галавой. — Міліцыя і суд для мяне ўжо пройдзены этап. Прыкладна ў падобнай сітуацыі ў мяне быў канфлікт з іншым самадзейным перавозчыкам. Аблаяў ён мяне самымі брыдкімі словамі, хапаў за грудзі, рукі... Але да бойкі справа не дайшла. Ужо вечарам, дома, я згледзеў на мышцах рук вялізныя сінякі. І паколькі чалавек, які абразіў мяне, — малодшы брат майго лепшага сябра дзяцінства, узяла мяне крыўда: напісаў я заяву ў РАУС, афарміў у судова-медыцынскай экспертызе нанесенне мне лёгкіх цялесных пашкоджанняў — выращыў, што прымушу земляка пакаяцца і прынесці прабачэнні. Аднак, як паказаў ход далейшых падзей, рабіць ён гэтага не збіраўся. Да мяне дайшлі чуткі, што хваліўся зямляк хаўруснікам, маўляў, ёсць у яго ў міліцыі свае людзі, і яны павернуць справу ў іншы бок.

Вось як усё было пасля.

У судзе маёй адзінай надзеяй і абаронай была сведка — прыбіральшчыца аўтастанцыі Ніна Досава. Суддзя — сур'ёзная мажная жанчына, выслухаўшы яе, глядзела на мяне ўжо не такім строгім позіркам, як напачатку працэса. Апанент мой захваляваўся і прапанаваў мне пайсці на міравую.

— А хай скажа шчыра, ці казаў я брыдкія словы, — адказаў я гэтак на пытанне суддзі, ці згодны я мірыцца.

Майму крыўдзіцелю суддзя паставіла прамое пытанне: "Скажыце, ці лаяўся матам Кунцэвіч?"

— Не, — ціха адказаў той.

Гэта была мая перамога, а разам з тым — параза. Праз некалькі дзён я зайшоў да суддзі і сказаў, што хачу распачаць справу супраць людзей, якія мяне абгаварылі па артыкулу "дача заведама лжывых паказанняў".

— Наўрад ці ўдасца штосьці даказаць, — адказала мне яна. — Радуйцеся, што вам удалося адбіцца ў мінулай справе. Але ж вырашайце самі...

Махнуў я на ўсё рукой, бо, як вядома, ёсць вышэйшая сіла, якая ўрэшце ацэніць учынкі кожнага.

— Ну, брат, пра такое трэба пісаць, — цвёрда сказаў Атрашкевіч.

— Вось ты і напішы, — прапанаваў я сябруку.

— Ды што я — журналіст раёнкі? Гэта тэма сур'ёзная...

— Вось так і магілёўскія газетчыкі кажуць: маўляў, хочам спаць спакойна.

Аўтобус, на якім павінен быў паехаць мой сябрук, прыткнуўся да платформы. Мы парукаліся. Алесь пакрочыў да дзвярэй, але раптам спыніўся, павярнуўся і гучна кінуў мне: "Віктар, а я ўспомніў выснову казкі: хлеб ніколі не бывае лёгкім!"

## Мурзатая машына

Састарэлая мая маці жыве са сваім старэйшым сынам (маім братам) у яго аднапакаёўцы, якую яму выдзеліла чыгунка ў пажыццёвае карыстанне. Кааператыўную кватэру ён пакінуў жонцы пасля разводу. Я, зрабіўшы рэйс у Бялынічы, вырашыў наведаць маці. На вуліцы зімовая адліга. Дарогі рыжыя ад солі і пяску. Гэтакім жа брудна-рыжым стаў і мой мікраўтобус. Наўздзіў, маці дома не было. Брат корпаўся на балконе. "Пайшла на міні-рынак, — паведаміў ён. — Павінна хутка быць".

Нашай маці 81 год, яна маленькая, худзенькая і, відаць, дзякуючы гэтаму, яшчэ рухавая. У горадзе ўжо тры гады. Пакрысе асвоілася.

— Аднойчы іду з работы, — расказвае брат Міхаіл, — і здаля бачу, што маці падыходзіць да святлафора. Уключылася зялёнае святло, а яна голаў уніз і так хутка шуснула праз дарогу, што я ледзьве яе дагнаў. Даўно гэта было, цяпер прывыкла, пераходзіць вуліцу спакойна. А вось і яна...

Маці з авоськай пераступіла парог і, убачыўшы мяне, радасна ўсміхнулася.

— Ці здагадалася ты, што Віця ў нас? — спытаўся брат.

— Не, скуль мне здагадацца...

— А ты што, не пазнала яго машыну?

— Я і паглядзела на яе, але ж не здагадалася, што яна Віцева, задужа ж мурзатая.

Мы з братам усцешана пасміхаемся. Праз гадзіну я ехаў на аўтавакзал, і на душы ў мяне было лёгка і светла.

Мне ўзгадалася далёкае маленства. Маці з бацькам працавалі ў калгасе. Старэйшыя брат і сястра ўжо хадзілі ў школу. Я ж у пяцігадовым узросце днямі швэндаўся каля двара. Калі хацеў есці, то заходзіў у любую хату і пытаўся: "Хлеб ёсць ці няма?" Людзі смяяліся і адразалі мне вялікую скібку. А якое шчасце было бачыць маці, калі яна вярталася з працы. Я лапацеў да яе з усіх ног. А яна даставала з кішэні хусцінку і выцірала ёю мой твар, дакорліва кажучы: "Які ж ты мурзаты, Віцька..."

Лана ІВАНОВА,
фота з Інтэрнэт-сайтаў






# Сустрэчы ў горадзе сяброў

**Вялікім гала-канцэртам завяршыўся ўчора XX міжнародны фестываль мастацтваў “Славянскі базар у Віцебску”.**



**Вось і перагорнута юбілейная старонка гісторыі фэсту. Гісторыі яскравай, але няпростай, а часам і суровай. “20 гадоў таму ў небе над нашай Беларуссю з’явілася новая яркая зорка, імя якой “Славянскі базар”. Узнікнуўшы як сумеснае пачынанне Беларусі, Расіі і Украіны, адметнае свята творчасці неўзабаве пераступіла межы, зрабіўшыся падзеяй сусветнага маштабу. Тут пабывалі прадстаўнікі ўсіх пакаленняў і ўсіх кантынентаў Зямлі”, — падкрэсліў падчас урачыстай цырымоніі адкрыцця фестывалю Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. І нагадаў: “Напэўна, многія падзабыліся ўжо, які цяжкі шлях давялося прайсці “Славянскаму базару”. Быў жа час, калі наогул стаяла пытанне: “Быць ці не быць «Славянскаму базару»?” Казалі, што для камерцыйнага “поспеху” яго трэба перанесці на бераг цёплага мора. Тады мы цвёрда сказалі: “Не, фестывалю быць. І быць на беларускай зямлі”... З першага дня свайго існавання ён застаецца адданым галоўнай мэце: шырока расхінаць дзверы для зацікаўленага дыялогу культур і цывілізацый”.**

## Юбілейныя непаўторнасці

Як “свята ў свяце” ўспрымалася чарада ўнікальных і знакавых падзей, прымеркаваных да 20-годдзя фестывалю. Адна з іх — адкрыццё зоркі легендарнага беларускага кампазітара Ігара Лучанка на Алеі лаўрэатаў спецыяльнай узнагароды Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь “Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення”. Гэтую ўзнагароду кіраўнік дзяржавы ўручыў таленавітаму творцу на сцэне Летняга амфітэатра ў святочнай атмасферы першага фестывальнага вечара. Сімвалічна, што легендарны Ігар Лучанок, першы беларус, у гонар якога калісьці была закладзена імянная зорка на прэстыжнай Плошчы зорак ля канцэртнай залы “Россия” ў Маскве, аўтар больш як 400 песень, сярод якіх нашы сапраўды класічныя “Спадчына”, “Мой родны кут”, “Вераніка”, “Алеся” ды інш., адзін з пачынальнікаў “Славянскага базара ў Віцебску”, атрымаў высокую адзнаку сваёй кампазітарскай дзейнасці менавіта ў год юбілею “Славянскага базара ў Віцебску”.

У Міжнародным прэс-цэнтры прайшла прэзентацыя юбілейных выданняў. У ліку іх — выдадзены па ініцыятыве Віцебскай абласной бібліятэкі бібліяграфічны даведнік, куды ўвайшлі ці не ўсе за гісторыю “Славянскага базара ў Віцебску” публікацыі пра яго, а таксама фотаальбом “Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення”, складзены з разнастайных спыненых імгненняў у святочным горадзе, ды надзвычай ёмісты фаліянт “«Славянский базар в Витебске». Второе десятилетие...” — працяг своеасаблівай энцыклапедыі фестывальных падзей. А ў межах прэзентацыі ўпершыню адбылося ганараванне арганізатараў фестывалю, каардынатараў праектаў і журналістаў: было ўручана сто эксклюзіўных юбілейных медалёў “Международный фестиваль искусств «Славянский базар в Витебске». 20 лет”. Дарэчы, пабачыў свет яшчэ адзін непаўторны ўзор медальернага мастацтва: Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь увёў у абарачэнне памятныя манеты “Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску»”.

Аблічча фэсту-юбіляра ўвекапамінае не толькі яго “срэбны профіль” на манеце, але і жывое, дынамічнае, вясёлкавае, феерычнае і дакументальна-строгае адлюстраванне ў кадрах новай стужкі рэжысёра Надзеі Гаркуновай “Базарнае стагоддзе”, прэм’ера якой не толькі адбылася ў віцебскім Доме кіно, але і прайшла на Першым канале Беларускага тэлебачання. Амаль гадзіну доўжыцца фільм, у якім — аповеды, успаміны, развагі, характарыстыкі, ацэнкі... І захапленне “Славянскім базарам”. Але не толькі гэта: напрыклад, непаўторная Эдзіта П’еха з трывогай разважае ў кадры пра негатыўныя тэндэнцыі ў фарміраванні крытэрыяў эстраднага мастацтва: маўляў, сёння жонка ці не кожнага трэцяга багатага чалавека робіцца “вядомай спявачкай”, хаця спявачкамі нараджаюцца, а не “робяцца”. Народны артыст Расіі Віктар Татарскі са шкадаваннем адзначае, што з гадамі ў фестывальных праграмах памяншаецца складнік музычнай класікі.

> *У межах “Славянскага базара” адбылося афіцыйнае адкрыццё Першага фестывалю мастацтваў беларусаў свету. Прайшло і пасяджэнне Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве культуры. Некаторыя імпрэзы форуму суайчыннікаў, пра якія мы раскажам у бліжэйшы час, ладзіліся і ў Мінску. Так, Нацыянальны мастацкі музей Беларусі прэзентаваў праект “Беларускія мастакі ў свеце”, з якім спалучылася выстаўка адной знакавай карціны — манументальнага (200х210 см) жывапіснага палатна народнага мастака Беларусі Уладзіміра Стальмашонка “Слова пра Беларусь”.*

## Кветка да кветкі

Сёлета на “Славянскім базары” адбылося каля 70 імпрэз. Але статыстыка — гэта ўсяго толькі лічбы, пазбаўленыя каларыту і водару фестывальнага букета, які штогод збіраецца з незлічоных кветак, традыцыйных і незнаёмых.

І чаго толькі не было ў юбілейным букеце! “Прызнанне ў каханні” ад латвійскіх суседзяў — Даўгаўпілсскага камернага аркестра пад кіраўніцтвам Айварса Брокса і яго салістаў (канцэрт складаўся з шэдэўраў любоўнай лірыкі розных часоў і краін). Магічнае шоу лепшых барабаншчыкаў Беларусі, Літвы і Польшчы “Богі рытму”, арганізаванае нашым знаным перкусіяністам Ігарам Аўдзеевым. Сустрэчы з блiскучым сузор’ем артыстаў-купалаўцаў у камедыі “Пінская шляхта” і з народным артыстам Беларусі Уладзімірам Гасцюхіным у яго спектаклі “Ганна Снегіна”. Бенефіс народнай артысткі Расіі Кацярыны Васільевай. Літаратурны вечар “У аўтара ў палоне” з удзелам расійскага майстра Аляксандра Філіпенкі, які пераўвасабляюцца ў персанажы Гогаля, Зошчанкі, Даўлатава. Конкурс майстроў лозапляцення. Праграма да 100-годдзя славутага рускага народнага хору імя М. Пятніцкага; канцэрт равесніка фестывалю — Хору Турэцкага з удзелам яго “малодшай сястры” — віртуознай вакальнай групы “Сопрано 10”. І вечар з удзелам трыумфатараў “Славянскага базара” розных гадоў “З юбілеем, фестываль!”



## Галоўная інтрыга

Гэтым разам галоўная фестывальная інтрыга, якую традыцыйна звязваюць з Міжнародным конкурсам выканаўцаў эстраднай песні, амаль не выпрабоўвала глядацкую цярплівасць: імя лідара — беларускай спявачкі Алены Ланской — вызначылася паводле галасавання журы ў першы ж вечар. А калі назаўтра яна, выступаючы пад другім конкурсным нумарам, сабрала ўсе “дзясяткі” — максімальную колькасць балаў, лёс галоўнай узнагароды быў вырашаны. Праўда, інтрыга затрымалася ў атмасферы спеўнага турніру яшчэ амаль на суткі: міжнароднае журы пад старшынствам міністра культуры Беларусі Паўла Латушкі мусіла размеркаваць “рэшту” конкурсных лаўраў паміж іншымі, вельмі, дарэчы, яркімі прэтэндэнтамі на перамогу.

Такім чынам, вынікі конкурсу “Віцебск-2011”: беларуска Алена Ланская атрымала Гран-пры; першае месца заняў украінец Уладзімір Квасніца; другое падзялілі спявачка Рута з Літвы і Давід Дэйлз Чэхіі; трэцяе — Алішэр Карымаў з Казахстана і Крысціна Скарлат з Малдовы. Спецыяльны прыз імя Уладзіміра Мулявіна ўручаны спеваку з Латвіі Дайнісу Скутэлісу, які ў суправаджэнні Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга з бязмежнай шчырасцю выканаў славуты хіт “Зачарованая”.

Галоўнае, што незалежна ад вынікаў спаборніцтва яго ўдзельнікі надоўга захаваюць у сэрцах агульны пазітыўны, святочны настрой. Бо, як неаднойчы паўтараў народны артыст Беларусі Анатоль Ярмоленка, хто б ні прыязджаў на “Славянскі базар”, гэты фестываль усіх робіць сябрамі. Менавіта сябрамі пакідаюць госці цудоўны беларускі горад Віцебск, імкнучыся наведацца сюды зноў.

***На здымках:** народны артыст СССР Ігар Лучанок; Летні амфітэатр; уладальніца Гран-пры конкурсу выканаўцаў эстраднай песні “Віцебск-2011” Алена Ланская (Беларусь); пастаўскі ансамбль народнай музыкі “Паазер’е” ў фестывальным Горадзе майстроў.*

# З марай... пра дзіцячы серыял

Андрэй КЛЮЧНІКАЎ

**Апошнім часам Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм" усё больш увагі надае ігравым серыялам. І рэжысёры нашы сур'ёзна падыходзяць да працы ў гэтым няпростым жанры. Напрыклад, Аляксандр Яфрэмаў зняў некалькі тэлефільмаў, прысвечаных тэме Вялікай Айчыннай вайны. А Ігар Чацверыкоў — дэтэктыўны серыял "Цень самурая" і цяпер узяўся за маштабны праект "Участак лейтэнанта Качуры". Дэтэктыўныя прыгоды "Ілюзія палявання" распавядаюць на экране заблытаную гісторыю знікнення чалавека, бандыцкіх "разборак" ды няпростых стасункаў у жыцці звычайнага ўчастковага міліцыянера.**
**Цяпер Ігар Чацверыкоў працуе над другой часткай фільма. Новыя прыгоды лейтэнанта Качуры маюць назву "Сецевая пагроза". Галоўную ролю ў серыяле іграе вядомы беларускі малады акцёр Павел Харланчук, якога рэжысёр Аляксандр Яфрэмаў запрасіў таксама зняцца ў эпізадычнай ролі свайго новага серыяла "Лепшы сябра сям'і". Зноў роля міліцыянера. Так што гэтым летам, як жартуе акцёр, ён служыць ахове правапарадку на розных "франтах".**

**— Павел, цябе можна назваць адным з акцёраў, запатрабаваных у беларускіх серыялах. Вось здымаешся ў працягу гісторыі пра лейтэнанта Качуру. Можа, ужо маеш уяўленне, якім павінен быць міліцыянер, і твой герой адпавядае гэтаму ідэалу?**

— Жадання адмыслова паказаць усім, якім павінен быць сапраўдны ўчастковы, у мяне няма. Я хачу максімальна шчыра ўвасобіць яго як простага чалавека. Праўду кажуць, што форма змяняе людзей: за ёй — пэўныя паўнамоцтвы, абавязак, замацаваны статутам. Але мой міліцыянер прыходзіць на дапамогу людзям не таму, што ў яго закон за плячыма, а дзякуючы свайму асабістаму гонару, сумленню і мужнасці. За гэтыя якасці ў сваім персанажы, лейтэнанце Качуру, я буду змагацца. Людзі па-рознаму глядзяць на гэтага героя, кажуць, што ён занадта ідэалізаваны. Магу адказаць, што гэта нават добра. Я хацеў бы, каб яго прыклад пабудзіў да лепшых дзеянняў. Мой лейтэнант, нягледзячы на сямейныя праблемы, не прыпыняе працу і дапамагае людзям.

**— Ці атрымліваецца імправізаваць на здымачнай пляцоўцы, уносіць свае карэктывы ў паводзіны твайго персанажа?**

— У сцэнарый я не ўмешваўся, не патрабаваў, каб ён здзейсніў подзвіг ці, наадварот, збаяўся, — мне гэта непатрэбна. Пажаданні мы, безумоўна, абмяркоўваем: у рэжысёра і ў мяне таксама, вядома ж, ёсць свой погляд на сюжэт і на героя. Ігар Чацверыкоў ужо шмат ведае пра Качуру, дый я з ім досыць знаёмы — яшчэ з першага сезона здымак. У чымсьці мы з рэжысёрам пагаджаемся, у чымсьці нашыя меркаванні разыходзяцца, але гэта нават лепш. Персанаж развіваецца, напаўняецца сваім жыццём, змяняецца... Калі інакш, было б нецікава мне іграць, а вам глядзець.



**— Ігар Чацверыкоў бліжэй да маладога рэжысёрскага пакалення, Аляксандр Яфрэмаў — з кагорты старэйшых. Як яны адносяцца да сваёй працы над серыяламі? Можа, у іх рознае стаўленне да гэтага фармату?**

— Серыялы існуюць розныя. І ў самым горшым выпадку, можна сказаць, — каб запоўніць экранны час паміж рэкламнымі ролікамі. Ігар Чацверыкоў і Аляксандр Яфрэмаў турбуюцца за тое, што ўбачаць людзі па тэлевізары. А калі чалавек турбуецца за тое, як ацэняць яго працу, ён не можа дапусціць, каб гэта была халтура. Гэтыя рэжысёры імкнуцца наблізіць сваю работу да дыхтоўнага мастацкага фільма, толькі серыйнага. Яны аднолькава адказныя, хоць па-рознаму падыходзяць да працы. Аляксандр Васільевіч імкнецца стварыць разняволеную атмасферу даверлівых адносін, падыходзіць да ўсяго з гумарам. У Ігара больш дзелавы падыход, ён вымушаны працаваць у больш сціслым рэжыме, тым не менш, яму ўдаецца дамагчыся зладжанай працы. А цяпер у яго каманда практычна тая ж, што працавала над першай часткай фільма, усе разумеюць адно аднаго з паўслова.

**— Але я ведаю, што над серыялам акцёры не працуюць гэтак жа карпатліва, як над мастацкім фільмам ці тэатральнай пастаноўкай, усё робіцца дзякуючы назапашанаму досведу. Ці даводзіцца ўсё ж шукаць нейкія новыя падыходы, вобразы?**

— Думаю, што адрознівацца нічога не павінна ні ў мастацкім кіно, ні ў тэатры, ні на тэлебачанні. Серыял ад мастацкай стужкі адрознівацца толькі расцягненасцю дзеяння. У кожным разе, крыўдна, калі ў сваёй працы памыляешся, і не мае значэння, тэатр гэта, кінафільм ці серыял.

**— Нядаўна на кінаэкраны выйшаў новы дзіцячы фільм Алены Туравай "Рыжык у Залюстрэччы", у якім ты сыграў адну з галоўных роляў. Калі б Алена Турава вырашыла здымаць дзіцячы серыял, ты пагадзіўся б у ім удзельнічаць?**

— Я, як бацька, на карысць гэтай справы адмовіўся б ад многіх іншых серыялаў. З задавальненнем здымаўся б, і нават хачу, каб з'явіліся нашы беларускія дзіцячыя серыялы. Я б хацеў, каб у нас больш часу ў тэлеэфіры адводзілі дзецям, як было раней. Заходнія тэлекампаніі надаюць гэтаму вялікае значэнне. Але чаму нашы дзеці павінны гадавацца менавіта на тых прыкладах, што даюць сваім юным гледачам на заходніх тэлеканалах? Калі ў нас мяркуюць, што кінавытворчасць для дзяцей — не надта прыбытковы занятак з пункту гледжання камерцыі і рэкламы, дык нагадаю, што гэтыя праекты, фільмы збіраюць не меншыя рэйтынгі, галоўнае — рабіць іх па-сапраўднаму добрымі і высакаякаснымі. Дзеці не даруюць фальшу. Дзеля іх трэба выкладвацца напоўніцу, гэта вельмі адказная, але і цікавая праца.

**— А ў нашых тэле-кінавытворцаў ёсць магчымасці здымаць дзіцячую казку-серыял?**

— Усё залежыць ад сродкаў і ад часу, якія на гэта выдаткоўваць, — ад тэрмінаў, ад кантрактаў. Ва ўсялякай працы павінна быць аддача. І духоўная, і матэрыяльная. Я спадзяюся, што ў нас усё падрыхтавана для стварэння такіх фільмаў. Дзіцячыя стужкі, казкі могуць разгортвацца і ў сучасным гарадскім антуражы, хаця гэта звязана, як правіла, з казачным светам і незвычайнымі, фантастычнымі абставінамі і дэкарацыямі. Каб зрабіць цуд, трэба знайсці людзей-чараўнікоў, якія гэта ўвасобяць. Калі пайсці гэтым шляхам, нічога непераадольнага не будзе. Такія фільмы — вельмі важная частка нашага дзяцінства, а таму і жыцця. Я не сцвярджаю, што кіно павінна выхоўваць маленькага чалавека, але і на кіно кладзецца адказнасць за яго мары і памкненні ў дарослым жыцці.

**— У цябе склаўся тыпаж станоўчага героя. Калі б паводле сцэнарыя давялося быць злым ды нягодным, ты здолееў бы паказаць такога персанажа ў серыяле?**

— Калі толькі не пачнуць прымушаць спяваць пра тое, што зло — лепей за ўсё, а роля будзе трактавацца рэжысёрам у плане адмоўнага персанажа, а не абаяльнага бандыта. Для мяне гэта быў бы чалавек, які заблытаўся, і добра, калі б ён паспрабаваў выйсці з кола зла, у якое трапіў, справіцца з праблемай. Я прызвычаіўся канкрэтна падзяляць добра і зло, белае і чорнае, і для мяне вельмі дрэнна, калі чорнае называюць белым, а белае — чорным. Мне не хочацца іграць абаяльнага маньяка, не хочацца іграць адваката серыйнага забойцы.

***На здымку: акцёр Павел Харланчук.***

Рэпліка

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота аўтара

# А хто ж не памыляецца?

Летась у гістарычным кутку сталіцы, паблізу вядомай мінскай сядзібы XIX стагоддзя — філіялу Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь "Дом Ваньковічаў", з'явілася скульптурная кампазіцыя "Раніца мастака". Чытач "ЛіМа" ведае гісторыю стварэння гэтага адметнага ўзору манументальнага мастацтва, прысвечанага нашаму земляку, выдатнаму дзеячу культуры Беларусі першай паловы XIX стагоддзя Валенцію Ваньковічу. Многім ужо неадночы давялося і самім падзівіцца на новы помнік, і, магчыма, хтосьці ўгледзеў "памылку ў бронзе".

Зрэшты, памылка не з тых, што кідаецца ў вочы: мне давялося заўважыць яе, толькі ўгледзеўшыся ў фотаздымак надпісу на пастаменце. У тэксце, размешчаным ля падножжа скульптуры, пазначаны прозвішчы яе стваральнікаў і фундатары. Вельмі важна, калі твор манументальнага мастацтва суправаджае інфармацыя пра яго аўтарства: каб і нашы сучаснікі, і нашы нашчадкі маглі даведацца, што вобраз маладога Валенція Ваньковіча ўвасобілі ў гэтай рамантычнай кампазіцыі скульптар Уладзімір Слабодчыкаў і архітэктар Юрый Казакоў,




аднак... У ініцыялах знанага беларускага дойліда, якому, на жаль, не давялося дажыць да ўрачыстага адкрыцця помніка і пра талент якога шчыра гаварылі ўдзельнікі афіцыйнай прэзентацыі прыгожай мастацкай работы, дапушчана памылка. Наўрад ці яе прычынай сталася чыясьці некампетэнтнасць, хутчэй за ўсё "спрацаваў" даволі распаўсюджаны псіхалагічны феномен.

У сувязі з гэтым успамінаю свайго старэйшага калегу, літаратара і таленавітага мастацкага крытыка, які таварышаваў з паэтам Аркадзем Куляшовым і з вядучым акцёрам Коласаўскай сцэны Уладзімірам Куляшовым, але калі пісаў пра народнага артыста, ставіў перад яго прозвішчам ініцыял народнага паэта — міжволі і заўсёды! — хоць ведаў за сабою такі "грэх". Відаць, нешта падобнае здарылася і ў сітуацыі з кампазіцыяй "Раніца мастака". Мяркуйце самі. У гісторыі беларускага мастацтва назаўсёды застануцца імёны выбітнага жывапісца і графіка Барыса Іванавіча Казакова ды знанага спецыяліста ў галіне мемарыяльнай архітэктуры Юрыя Іванавіча Казакова — прадстаўнікі розных прафесійных сфер, яны належалі да аднаго, перадваеннага, пакалення, іх аб'ядноўвала членства ў адным творчым саюзе, асяроддзе агульных калег і сяброў...

Бронзавая фігура Валенція Ваньковіча паўстала побач з яго радзімным домам увосені 2010-га, але цырымонію адкрыцця помніка чамусьці перанеслі на канец года. Тады падумалася: заўважылі прыкрую недакладнасць, а каб замяніць у бронзавым надпісе адну літару — "Б" на "Ю", спатрэбіўся немалы час... Але, на жаль, памылка ўсё яшчэ не выпраўлена.

Мабыць, не заўважана?

# Тэксталагічныя клопаты: каментарый да жарганізмаў

**Пранікненне жаргоннай лексікі ў мову мастацкіх твораў — даволі распаўсюджаная літаратурная з'ява. Актывізацыя гэтага працэсу адбываецца звычайна ў "пераломныя" гістарычныя перыяды і звязана з пэўнымі зменамі ў стаўленні да некалі адасобленых сацыяльных пластоў насельніцтва. Аднак выкарыстанне жарганізмаў прафесійнымі пісьменнікамі — надзвычай сур'ёзная праблема для тэкстолага, ад якога ледзь не ў кожным канкрэтным выпадку патрабуецца не проста расшыфроўка сэнсу слоў, але і тлумачэнне, з якой мэтай яны ўжыты.**

**Валерый НАЗАРАЎ**

Жарганізмы вымагаюць каментарыя і ў навукова-масавых, і ў навуковых выданнях. Масаваму чытачу гэтая лексіка або невядома, або вядома ў агульных рысах, без пранікнення ў сэнсавыя адценні шматлікіх слоў-сінонімаў. З другога боку, яна вывучаецца вузкім колам спецыялістаў і збіраецца ў слоўнікі рэдкія і малатыражныя. Зразумела, што тлумачэнне яе ў каментарыях таксама не павінна насіць папулярызатарскі характар, мэта каментатара — дапамагчы чытачу зразумець сэнсавыя тонкасці твора, глыбей пранікнуць у аўтарскую задуму.

Адным з беларускіх пісьменнікаў, што бліскуча выкарыстоўваў у сваіх творах жаргонную лексіку з мэтай дакладнай характарыстыкі персанажаў, быў вядомы сатырык 1920-х гадоў А. Мрый. Веданне былым семінарыстам спецыфічнай лексікі "блатных" гэтага перыяду (у 1930-я яна ўжо істотна змянілася) з'яўляецца незвычайным фактам. Нельга з упэўненасцю сказаць, што яго абумовіла (і ці не быў гэта вымушана набыты асабісты вопыт часоў ваеннага камунізму), але сам факт застаецца бясспрэчным. Дарэчы, у турму воляй лёсу трапляюць і некаторыя героі Мрыя, напрыклад, Вілям Джэпкінг, персанаж апавядання "Прафесар акультных навук", і Самсон Самасуй.

У пачатку "Запісак..." герой цытуе свайго сябра Мамона: "Твае мемуары будуць перакладзены на нямецкую, ангельскую, французскую і нават гатэнтоцкую мову!" Як вядома, існуе некалькі груп гатэнтоцкіх моў, на якіх размаўляе народ гатэнтотаў у Паўднёвай Афрыцы, але як растлумачыць, што ў пералік еўрапейскіх моў трапіла афрыканская? У дадзеным выпадку выраз "будуць перакладзены на гатэнтоцкую мову" азначае "будуць ужыты для чыёй-небудзь уласнай карысці". Прынамсі, такое значэнне слова "гатэнтоцкі" прывёў у кнізе "Шокавая тэрапія" былы палітвязень В. Шаламаў, тлумачачы выраз "гатэнтоцкая мараль" як "мараль уласнай карысці".

Ёсць і яшчэ адно падобнага тыпу слова, вельмі добра вядомае сучаснаму чытачу дзякуючы фільму "Джэнтльмены ўдачы", — "навухананосар". У якасці жарганізма яно зусім не звязана з легендарным заваёўнікам Навуходаносарам II, хаця і з'явілася як славянская этымалогія старажытнаўсходняга імя. У "Запісках...", як і ў названым фільме, гэтае слова азначае "даносчык" ("на-вуха-данос").

А вось характарыстыка адной жанчыны па мянушцы Багародзіца: "гранд-дама, якую нехта назваў яшчэ гранд-атэль-дама". Вядома, што названая асоба была замужам за "вялікімі" людзьмі — арандатарамі, якія плацілі за арэнду шалёныя грошы, — таму і сама яна пачала лічыцца "вялікай пані". Але што абазначае "гранд-атэль-дама"? На жаргоне "гранд-атэль" — месца зняволення, турма або выпраўленча-працоўны лагер, таму ў другім варыянце мянушкі адчуваецца намёк Мрыя на зняволенне, прынамсі, аднаго з мужоў Багародзіцы: ён, хутчэй за ўсё, у лагеры.

Сучаснасць таксама падносіць тэкстолагам шмат праблем. Цяпер, калі вядзецца падрыхтоўка навукова каментаванага Збору твораў Івана Шамякіна ў 23-х тамах, пэўную цяжкасць для ўкладальнікаў уяўляе каментарый жарганізмаў у аповесці "Завіхрэнне".

Колькасць выкарыстаных аўтарам у гэтым творы спецыфічных лексічных адзінак — каля трох дзясяткаў, часам яны падаюцца "ланцужкамі". Аўтар каментарыяў да твора А. Шамякіна, спасылаючыся на "Вялікі слоўнік рускага жаргону", паспяхова растлумачыла паслядоўнасць лексем "кашатнік — макрушнік — раяліст — Пол-Пот" (адчуваецца аднагасовае з пагаршэннем характарыстык нарастанне эмацыянальнага напружання: са звычайнага злодзея герой "ператвараецца" ў забойцу-рэцыдывіста, якога не цікавіць і тэрмін зняволення). Удала расшыфравана супрацьпастаўленне "законнік — сялява (сяляўкі)", у якім злодзей "у законе" знаходзіцца на вяршыні, а звычайныя людзі — у самым нізе іерархічнай сістэмы лагерных вязняў. Лексемы, якія абазначаюць разнастайныя супрацоўнікаў МУС, месцы зняволення і інш., аб'яднаны ў адну пазіцыю рэальнага каментарыя і суправаджаюцца агульным тлумачэннем, бо не з'яўляюцца прынцыпова важнымі для тлумачэння тэксту. У гэтым таксама нельга не заўважыць поспех каментатара, якому, зразумела, не належыць папулярызаваць жаргон.

Але побач з такой адносна нейтральнай лексікай у творы прысутнічае цэлы набор жаргонных слоў для абазначэння рэалій інтымнай сферы жыцця. Можна спрачацца, наколькі патрэбным будзе іх вытлумачэнне на старонках рэальнага каментарыя, і справа не толькі ў "цнатлівасці" тэкстолагаў, якія выступаюць супраць падобнай расшыфроўкі.

Здаецца, многае чытач з лёгкасцю зразумее з кантэксту, напрыклад: "зажыгалка" як абазначэнне прыгожай жанчыны і да т.п. А некаторыя словы і ўвогуле не трэба тлумачыць у сувязі з іх цяперашняй папулярнасцю і шырокім бытаваннем. Да таго ж, тлумачэнні, пададзеныя да лексем у слоўніку, надзвычай аднастайныя, без паглыблення ў адценні сэнсу, і нельга лічыць апраўданай перадрукоўку інфармацыі са слоўніка ў каментарыі да таго ці іншага тома Збору твораў. У дадзеным выпадку дакладнае вызначэнне сэнсавых адценняў жарганізмаў і іх паходжання — асобнае даследаванне, якое можа быць праведзена на аснове матэрыялаў Збору твораў, але не ў сувязі з іх тэксталагічным тлумачэннем.

Выданне першага каментаванага Збору твораў Івана Шамякіна ўжо распачата і павінна мець высокі навуковы ўзровень.

## *Філолагу на паліцу*

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Класіка, інтэрпрэтаваная сучасна




**Жаўняровіч, П. Публіцыстычны дыскурс Уладзіміра Караткевіча / П. П. Жаўняровіч; навук. рэд. В. І. Гўчанкаў. – Мінск: РІВШ, 2011. – 244 с.**

Першае, што адзначаеш, гартаючы манаграфію Пятра Жаўняровіча, — гэта сучаснасць падыходу і высокі навуковы ўзровень даследчыка. Дыскурс, канцэпт, персуазіўнасць, кагерэнтнасць — усё гэта паняцці, якіх яшчэ няма ў падручніках па мове і літаратуры, паняцці, якія адносна нядаўна з'явіліся ў беларускім літаратуразнаўстве. П. Жаўняровіч тлумачыць новыя тэрміны, шырока цытуючы сучасных замежных даследчыкаў. Абавязковыя спасылкі на крыніцы цытат робяць спіс літаратуры выключна карысным для тых, хто хацеў бы на новым узроўні ўспрымаць мастацкія ці публіцыстычныя тэксты, размежаванне якіх — справа не заўсёды простая. Даследчык часцяком спыняецца на пытаннях, спрэчных у сучасным літаратуразнаўстве і, вузей, — караткевічазнаўстве, і, зноў жа, робіць уласныя высновы толькі пасля аналізу поглядаў розных навукоўцаў — ад В. Рагойшы да аўтараў "The World Book Encyclopedia (International)".

Надзвычай цікавым падаецца зварот П. Жаўняровіча да квантатыўнага метаду. Падлікі, табліцы, каэфіцыенты могуць падацца даволі нязвыклымі для літаратуразнаўчага даследавання, — але што ёсць лепшым гарантам дакладнасці, калі не лічбы? Працаёмкі і, як на першы погляд, даволі груваскі аналіз ацэначных і безацэначных лексем у тэкстах Караткевіча дае магчымасць з сапраўднай упэўненасцю сцвярджаць, што публіцыстыка і мастацкая проза — "розныя часткі літаратурнай спадчыны пісьменніка". Да таго ж, даследчык дэманструе сапраўдную эфектыўнасць квантатыўнага метаду, дзякуючы якому можна хутка і пераканаўча давесці абгрунтаванасць жанравага размежавання.

Манаграфія Жаўняровіча напісаная вельмі сур'ёзна, але чытаць яе лёгка, бо з першых старонак побач з голасам даследчыка гучыць голас самога Уладзіміра Караткевіча. П. Жаўняровіч не толькі дае цікавыя біяграфічныя звесткі, прыводзіць прыклады з вядомых тэкстаў Караткевіча ці згадвае выказванні пісьменніка, каб абгрунтаваць свой погляд. Пры аналізе асобных эсэ-нарысаў даследчык цытуе творы абзацамі і вылучае, падкрэслівае тыя сродкі, прыёмы і творчыя знаходкі, якія дазволілі пісьменніку чарговым разам дасягнуць арыгінальнасці, непаўторнага гучання тэкстаў. Даследчык дае магчымасць атрымаць задавальненне ад перачытвання твораў Караткевіча і, разам з тым, раскрыць іх таямніцы.

Кніга П. Жаўняровіча можа быць вельмі карыснай для сённяшніх публіцыстаў і эсэістаў: чытаючы даследаванне, прысвечанае адметнасцям стылю вядомага пісьменніка, заўсёды знойдзеш ці прыгадаеш мастацкія прыёмы, якія зробяць больш разнастайнымі ўласныя тэксты. А ў чацвёртай частцы манаграфіі — "Эсэ–нарыс як асноўны жанр публіцыстыкі У. Караткевіча" — змешчаны выдатныя тэкставыя аналізы, якія могуць узяць за ўзор пачынаючыя літаратуразнаўцы.

# «Нашаніўская» пара




**Вабішчэвіч, Т. Станаўленне нацыянальнай паэтычнай традыцыі (1900 — 1910-я гг.): фактары, механізмы, этапы / Т. І. Вабішчэвіч; навук. рэд. В. П. Жураўлёў. — Мінск: Беларуская навука, 2009. — 254 с.**

Кніга Таццяны Вабішчэвіч "Станаўленне нацыянальнай паэтычнай традыцыі" — выдатнае чытанне для студэнтаў, школьных настаўнікаў і аматараў беларускай літаратуры, якія хацелі б прыгадаць галоўныя персаналіі і асноўныя падзеі літаратурнага жыцця першых двух дзесяцігоддзяў XX ст. — і, разам з тым, пазнаёміцца з сучасным навуковым асэнсаваннем знакавага "нашаніўскага" перыяду. Даследаванне Вабішчэвіч — гэта не сухі, складаны, тэрміналагічна перагружаны тэкст: у манаграфіі шчодра цытуюцца нашаніўскія артыкулы, прыводзяцца ўрыўкі з вершаў. У шматлікіх зносках можна знайсці разнастайную інфармацыю, якая тычыцца як асобных творцаў, так і наогул эпохі (стаўленне М. Горкага да творчасці Я. Купалы і Я. Коласа, тыпы грамадстваў паводле Э. Гельнера, погляды даследчыкаў на творчасць М. Багдановіча і г. д.). У Т. Вабішчэвіч вельмі шырокі ахоп імёнаў і фактаў, — пры гэтым даследаванне дае магчымасць сапраўды шырока, у агульнакультурным кантэксце паглядзець на творчасць класікаў, на развіццё беларускай літаратуры.

Ва ўводзінах навуковец знаёміць чытача з азначэннямі мадэрнасці — паняцця, якое далёка не кожны можа правільна растлумачыць. Памкненне "мадэрнізаваць" беларускую літаратуру было вызначальным у творчасці і літаратурна-крытычнай дзейнасці М. Багдановіча, погляды якога мелі падтрымку ў С. Палуяна, В. Ластоўскага, М. Гарэцкага, Зм. Бядулі і абумовілі "вялікі перелом" у творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа, "упэўнена-стрыманае <...> авалоданне ўніверсальна-мадэрным "высокім" пісьмом" А. Гаруна. Як і варта чакаць, даследчыца засяроджваецца ў першую чаргу на асобе М. Багдановіча і ягонай выключнай ролі ў станаўленні нацыянальнай паэтычнай традыцыі.

Разам з тым, памкненне да мадэрнасці выявілася не толькі ў развіцці літаратуры, але і ў набліжэнні беларускай літаратуры да "цывілізаванага" чытача, папулярызацыі ідэі асветы сярод простых сялян, стварэнні літаратурнага асяродка — з выданнямі, выдавецтвамі, крытыкамі, суполкамі.

Асабліва цікавай падаецца першая частка манаграфіі, прысвечаная праблеме чытача, якая абумовіла спецыфіку беларускай літаратуры азначанага перыяду. Даследчыца аналізуе публікацыі "Нашай нівы", вельмі нечаканыя дадзеныя Усерасійскага перапісу 1897 г. і нават тэматыку "лубачных" выданняў, папулярных у Расіі ў XIX ст. Высновы Т. Вабішчэвіч добра абгрунтаваныя: творчасць беларускіх паэтаў была запатрабаванай, але яе рэцыпіентам з'яўляўся галоўным чынам малаадукаваны селянін — "пры амаль поўнай адсутнасці чытача "элітнага". У гэтым палягае значнае адрозненне этапаў станаўлення нацыянальнай паэтычнай традыцыі ў Еўропе і на Беларусі.

Адчуваючы запатрабаванні сваіх чытачоў, на першым этапе Янка Купала і Якуб Колас пераважна пісалі проста, празрыста, вытлумачвалі элементарныя ісціны, засяроджваліся выключна на праблемах вёскі і г. д. Т. Вабішчэвіч мае дастаткова даследчыцкай смеласці, каб класіфікаваць такую творчасць як "наіўнае" мастацтва і прасачыць, якім чынам вядомыя аўтары эвалюцыянавалі да пісьменнікаў прафесійных, мадэрных. Мастацтва-insitus стала "субстратам класічнай паэзіі" — канстатуе навукоўца.

Нават сучасны школьнік можа абвясціць раннюю паэзію беларускіх класікаў надта простай і, як для мадэрнага рэцыпіента, нецікавай. Манаграфія Т. Вабішчэвіч дае магчымасць лагічна растлумачыць асаблівасці беларускай літаратуры першых дзесяцігоддзяў XX ст., выявіць працэс яе эвалюцыі і, магчыма, пазбавіцца нейкіх уласных сумневаў-"чарвяточынаў".

# Нагода для выпрабаванняў

**На ўсё люстра сцэны — калідор з шэрагам жалезных дзвярэй. Акенцы-форткі старанна адчыняюць і зачыняюць чалавечыя рукі. Таксама прычыняюцца і адчыняюцца дзверы, але сцэнічная прастора не рассоўваецца. Не мяняецца. Пад каласнікамі высвечваецца мост у ліхтарах, але спускацца з яго можна толькі ў адно месца — у турму...**



Жана ЛАШКЕВІЧ

На існаванне ў горадзе-турме і ў свеце-зняволенні персанажаў хрэстаматыйнага “Злачынства і пакарання” асудзіў Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі: з удзелам сцэнографа Валянціны Праўдзінай пакараныя ўсе і ад пачатку спектакля. Розніца толькі ў спосабе турэмнага існавання кожнага і ў ступені заняпаду, прыкладам, адзін прыбраны ў гарнітур (Лужын), а другому дачка ахвяруе на гарэлку з апошняга (Мармеладаў).

Пра злачынства складае ўяўленне інтэрмедыйны паказ Раскольнікава з сякерай і рэплікі персанажаў. Спараджальнікам злачынных намераў выступае, няйначай, сусветнае зло, сродкамі сучаснай сцэнічнай пластыкі пераўвасобленае ў падабенства антычнага хору — жвавых чорных істотаў (бесаў-нячысцікаў), якія маўкліва і выразна падштурхоўваюць персанажаў да ўчынкаў. “Хор” відавочна рыхтаваны да ролі буйной, паўнавартаснай (рэжысёр па пластыцы — Ігар Сігаў), але ў рэжысёра-пастаноўшчыка спектакля Валерыя Анісенкі гэтая калектыўная роля не атрымлівае развіцця: “хор” коўзаецца па сцэнічным часе і дзейнічае аднастайна.

Між тым раман Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага ў звыклы прамежак сцэнічнага часу не ўціскаецца. Даводзіцца крэсліць, абцінаць, мяняць, вылучаючы гэтак званае “пра што” — сцэнічны расповед, гісторыя, размова з гледачамі. Драматург Алена Папова надае кавалкам з Дастаеўскага сваёй пераканаўчай паслядоўнасці, стварыўшы адначасова і інсцэніроўку, і п’есу пад назвай “Сонечка”. Магчыма, логіка драматурга не натхніла пастаноўшчыка, але ў адным-адзіным сцэнічны расповед не мог адступіцца ад драматурга: ён мусіў засяроджвацца на Сонечцы Мармеладавай і... яе ўсёпаглынальнай, выпакутаванай хрысціянскай любові. Менавіта ёю, хрысціянскаю любоўю, Сонечка выпрабоўвае альбо змяняе кожнага, з кім сутыкаецца, але ўсе сустрэчы ды сутыкненні мусяць — у адказ — выпрабоўваць яе. І хрысціянскую любоў, натуральна.

Здаецца, гэткаму сюжэту прыдаліся б экранныя сродкі ўвасаблення, бо на сцэне станоўчым персанажам без развіцця, якім з’яўляецца Сонечка, часцей за ўсё даводзіцца ахвяраваць акцёрскую асобу, гэта значыць, акцёру трэба браць ад сябе і аддаваць публіцы ўласнае, — з досведу, з жыцця, з пачуццяў. Актрыса Надзея Цвяткова ў ролі Сонечкі старанна аддае і ахвяруе, і ёй часам не стае хіба досведу прафесійнага.

У сцэнічных скрутах, пошуках сэнсу, здавальнення або самасцвярджэння Сонечку не абмінуць нікому. Адным — у пагардзе ды грэбаванні Сонечкай — порстка аддаляцца, мовім так, падымацца ад яе па сходах, якія імкнуць долу (падставы для такога красамоўства даюць лесвіцы і мост па-над пляцоўкай). Іншым — валіцца, але паспяваць зачапіцца за Сонечку — і сякі-такі бруд несумненна ад іх адвальваецца ці, прынамсі, неўзабаве адшкрабаецца...



На сцэне вар’яцее Кацярына Іванаўна — ад роспачы жабрацкага існавання да трагедыі безвыходнасці беззаганна праводзіць сваю гераіню Людміла Сідаркевіч. У ролі немкі Амаліі Іванаўны адметна выяўляецца Галіна Чарнабаева — перадусім густам, з якім кладзе межы экзатычнасці ды эмацыйных выбухаў персанажа. Глыбіню драмы накрэсліваюць нешматлікія сцэны з удзелам Мармеладава ў выкананні Андрэя Дабравольскага і Свідрыгайлава, якога іграе Ігар Сігаў. Вагаецца, але заступаецца за Сонечку Лебязятнікаў у асобе акцёра Кірылы Навіцкага — і ўжо не схібіць, не адыдзецца ў бок, паўстаўшы супраць махляра Лужына. Затое важны персанаж Раскольнікаў уяўляе з сябе... фігуру. У сэнсе — постаць: гаваркую, плоскую, унутрана бяздзейсную. Але вінаваціць у гэтым толькі акцёра Андрэя Бібікава было б няслушна і нядобра. Бо перадусім спектаклю “Сонечка” моцна бракуе... адзінае імклівае сілы, чароўнага кухталя, што перайначыць пасобныя высілкі выканаўцаў у пэўнасць сістэмы сцэнічнага твору, з мастацкай цэласнасцю і эстэтычнай каштоўнасцю.

Самаадданасць і добрасумленнасць выканальніцкага складу “Сонечкі” па-добраму дзівіць — вядома, гаворка ідзе не пра валоданне акцёрскай прафесіяй, а пра супольныя творчыя намаганні; уражвае выканальніцкая дыхтоўнасць лепшых работ і градус, да якога акцёры падымаюць пачуццёвую тэмпературу залы — часам да шчырага суперажывання, часам да захапленя сцэнічнымі дзеяннямі — распавесці, давесці, данесці... Зразумець бы яшчэ — што...

Пра што спектакль? Пра тое, як нейкія нешта зачмурылі-закруцілі... усіх у нешта ўкруцілі, з чаго не так проста выкруціцца? Альбо пра тое, што ва ўяўным сцэнічным жыцці таксама ёсць месца подзвігу... вызначэння сябе праз Сонечку-міласэрніцу, Сонечку-ратавальніцу, шкадавальніцу-даравальніцу, узброеную цытатнікам з біблейскіх наказаў? (Услед за Сонечкай Святое пісанне пачынае цытаваць Раскольнікаў — такім спехам і так па-руску, што знішчае рэшту ўласнай праўдзівасці). Усё гэта аднабакова, нацягнута, спрошчана. Псіхалагічныя павароткі Дастаеўскага не здужаць шчыльным згуртаваннем акцёрскай групоўкі, гранічнай эмацыйнасцю і вылузваннем са скуры: яны вымагаюць дужа трапных, моцных і вельмі прафесійных рэжысёрскіх дзеянняў. Інакш подзіў з нязменных блакітнасцяў гераіні і нязменнай сцэнічнай прасторы ператвараецца ў выпрабаванне хрысціянскай любові бальшыні глядзельнай залы, але ж у тэатр яна імкнецца з іншае нагоды.

***На здымках: сцэны са спектакля “Сонечка”.***

# «Лялечнае хуліганства»

**Інсцэніроўка дзіцячай класікі — удалы спосаб зацікавіць гледача ўсіх узростаў. Напрыклад, сюжэт культавай казкі “Чырвоны Каптурок” шматкроць выкарыстоўваўся і пераасэнсоўваўся самым неверагодным чынам і ў тэатры, і ў кіно. “Чырвоны Каптурок” сёння — гэта дыснееўскі мультфільм і дзіцячая опера, мюзікл і трылер пра ваўкалака, “чорная” камедыя і гатычная казка, і нават камп’ютарная гульня. У незлічонай колькасці экранізацый і пастановак “па матывах” і сіквелаў згубілася сапраўдная гісторыя дзяўчынкі ў пунсовым шапероне.**



Марына БЛАЖЫЕЎСКАЯ,
фота з архіва тэатра

У Гродзенскім абласным тэатры лялек вырашылі аднавіць справядлівасць. Новы спектакль — опера ў ляльках “Чырвоны Каптурок” — грунтуецца на апублікаванай Шарлем Перо першай літаратурнай версіі вядомай у Еўропе народнай казкі. Якое ж было здзіўленне публікі, калі яна даведалася, што ў “мілай драбязе” французскага паэта і крытыка (а менавіта так аўтар называў свой твор) не было знаёмага з дзяцінства хэпіэнда!

Згодна са звыклым сюжэтам Чырвоны Каптурок (актрысы Марына Лазарава, Галіна Закрэўская) па просьбе маці Кладзіны (Яўгенія Рамановіч, Ларыса Мікуліч) ідзе ў адведкі да хворай бабулі Жанеты (Наталля Дацэнка, Тамара Корнева). Сустрэўшы па дарозе Маркіза дэ Ваўка (Аляксандр Енджаеўскі, Васіль Прабадзяк), расказвае яму пра гэта. У пакаранне за такую легкадумнасць вераломны воўк ашуквае дзяўчынку і з’ядае спачатку бабулю, а потым і Чырвоны Каптурок. Трагічны фінал, паводле задумы Перо, павінен навучыць дзетак пазбягаць гутарак з незнаёмымі. Для тых жа юных гледачоў, якія ўсё ж чакалі шчаслівага канца і без дадатковых павучэнняў зразумелі мараль казкі, рэжысёр спектакля і аўтар лібрэта Алег Жугжда пасля палемікі сярод акцёраў, разыграны проста на сцэне, змяняе фінал. Бабулю і ўнучку ратуе дрывасек П’еро (Аляксандр Рацько, Юрый Мянько), які закаханым сэрцам адчуў небяспеку і паспеў дапамагчы. Удзячная Жанета выходзіць замуж за свайго збавіцеля.

Нечаканы “мыльны” фінальны акорд, несумненна, падтрымлівае агульную камічную танальнасць спектакля. Дасціпна стылізаванае лібрэта Алега Жугжды, напісаную Паўлам Кандрусевічам паводле калажнага, цытатнага прынцыпу музыку, якая адсылае слых нават неспрактыкаваных гледачоў да оперных шэдэўраў Моцарта, Вердзі, Пучыні, Чайкоўскага, і сцэнаграфію Ларысы Мікінай-Прабадзяк ў стылі квазібарока інакш як гульнёй у оперу не назавеш. Сам жа рэжысёр-пастаноўшчык лічыць за лепшае называць спектакль гламур-операй для дзяцей і дарослых. На яго погляд і вобраз гераіні, і тая сітуацыя, у якой яна апынулася, больш чым сучасныя і не пазбаўленыя гламурнасці.

Тэатральнае хуліганства лялечнікаў пад назвай “Чырвоны Каптурок” гледачы ўспрынялі неадназначна: хтосьці шчыра пасмяяўся, хтосьці усумніўся, ці ўсё з таго, што адбываецца на сцэне, будзе зразумела самым маленькім гледачам.

Мне ж думаецца, што вельмі нязвыклы для гродзенскай публікі спектакль — гэта пакуль пастаноўка “навырост”, і не толькі для юных гледачоў.

# Спалучэнне бацькоўскіх сцяжын

**Сённяшняя госця "Прасторы ўяўлення" ў падрабязным прадстаўленні чытачу не мае патрэбы, бо літаральна два тыдні таму яна распавядала пра ўдзел Беларусі ў Венецыянскай біенале. Гэта — член Беларускага саюза мастакоў, мастацтвазнаўца, дырэктар Музея сучаснага выяўленчага мастацтва Наталля ШАРАНГОВІЧ.**

**Віктар КАВАЛЁЎ, фота аўтара**

**— Наталля Васільеўна, на старонках "ЛіМа" вы невыпадковая госця. Ваш творчы шлях пачынаўся з працы ў рэдакцыі гэтага тыднёвіка. Атрымаўшы спецыяльнасць журналіста, вы зарыентаваліся на сферу выяўленчага мастацтва. Можна сказаць, што гэта само сабой зразумела, бо выраслі ў сям'і народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча. Але ж, так бы мовіць, гэта не гарантавала, што вы павінны свядома ісці ў сферу мастацтва. Чым гэта было абумоўлена?**

— Ёсць, відаць, такое разуменне, як сямейны сцэнарый. Абсалютна нармальна і натуральна, калі дзеці, гледзячы на бацькоў, як бы ўзіраючыся ў іх адносіны з іншымі людзьмі, прымерваюць на сябе іх прафесію. Калі была зусім маленькай, меркавала, што хутчэй за ўсё буду мастаком. Пазней я "разрывалася" паміж дзвюма прафесіямі, бо маці займалася рэдактарскай справай: шмат гадоў працавала загадчыкам адной рэдакцыі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Мне падабаліся як мастацтва, так і літаратурная справа. Відаць, усё ж такі пераважыла літаратурная справа, і я пайшла ў журналістыку. Але калі я пачала ёй займацца, то зразумела, што чыстая журналістыка — гэта не маё, мне нецікава. Прафесія бацькі адыграла вялікую ролю. У дзяцінстве мне падабалася маляваць. Добра ведала мастацкае асяроддзе, і мяне вельмі моцна цягнула ў гэтую прафесію. Потым усё неяк натуральна атрымалася: зразумела, што можна паяднаць гэтыя два кірункі — літаратурную ці журналісцкую справу і мастацтва, паспрабаваць сябе ў якасці журналіста, які займаецца мастацтвам. Пасля журналістыка неяк лагічна перарасла ўжо глыбей у мастацтвазнаўства: закончыла аспірантуру Беларускай дзяржаўнай акдэміі мастацтваў. Далей больш: пачала займацца мастацкімі праектамі, выстаўкамі, вернісажамі. Усё ішло сваім шляхам, нават не задумвалася над гэтым.

Спачатку працавала ў "ЛіМе", пасля — у часопісе "Мастацтва", а затым перайшла ў музей. Гэты шлях для мяне арганічны і лагічны, прычым кожнае звяно яго як бы дапамагала іншым звёнам творчага ланцужка. Калі ў "ЛіМе" я глыбей азнаёмілася з журналісцкай работай, менавіта ў мастацтвазнаўчай галіне, то ў часопісе "Мастацтва" давялося папрацаваць як мастацтвазнаўцу, крытыку: праводзіць абмеркаванні, "круглыя сталы", дыскусіі.

**— Зразумела, што мастакам важна, калі ім выказваюць нейкія крытычныя заўвагі, хоць яны вельмі балюча да іх адносяцца...**

— Увогуле, у творчым асяроддзі да гэтага ўсе балюча адносяцца. Тым не менш, калі няма крытычнай думкі, няма і развіцця ні мастацтва, ні літаратуры. Гэта абсалютна натуральна. Таму, стаўшы дырэктарам музея, імкнуся праводзіць у яго сценах не толькі выстаўкі і займацца проста выставачнай дзейнасцю, а і ладзіць "круглыя сталы", абмеркаванні экспазіцый, запрашаць людзей з розных сфер мастацтва.

Адзін з апошніх праектаў "Сам-насам з кліматам" ладзілі сумесна з Пасольствам Швецыі ў Беларусі і Шведскім інстытутам (Стакгольм), дзе, акрамя шведскіх мастакоў-карыкатурыстаў, прадставілі ажно чатырнаццаць беларускіх творцаў разнастайных мастацкіх кірункаў з розных рэгіёнаў краіны. Акрамя конкурсу перад выстаўкай ды самой выстаўкі, арганізавалі "круглы стол" на тэму "Клімат і мастацтва", у якім бралі ўдзел прадстаўнікі міністэрстваў, грамадскіх арганізацый, Беларускага саюза мастакоў, правялі майстар-класы для навучэнцаў мастацкіх каледжаў, студэнтаў БДАМ з удзелам шведскай творцы Карын Сунвісан. Праблемы змен у клімаце адбіваюцца ў выяўленчым мастацтве, бо яно, у пэўным сэнсе, паўстае сацыяльнай сферай. Калі паглядзець на работы мастакоў, можна зразумець, што далёка не ўсе цяпер пішуць пейзажы або нацюрморты. Так ці інакш яны датычацца сацыяльных праблем: развіцця грамадства, гарадоў. Так заўсёды было ў мастацтве. Нават творцы канцэптуальнага, сучаснага кірунку не абыходзяць сацыяльную тэматыку. Пытанне рэлігіі, хрысціянства, тое, што мы прадставілі на Венецыянскай біенале, — таксама сацыяльная праблематыка.



**— Праз журналістыку вы прыйшлі ў мастацтвазнаўства. Згодны з тым, што гэта вельмі каштоўная якасць, калі спалучаецца валоданне журналісцкімі жанрамі і глыбокае, дасканалае веданне выяўленчага мастацтва?**

— За прамінулыя гады дзейнасці магу сказаць, толькі не падводзячы вынікі, а аналізуючы свой шлях, што гэта сапраўды вельмі добрае спалучэнне. Таму што журналістыка дае ўменне слухаць чалавека, гаварыць з ім, у пэўным сэнсе надае раскаванасці, разняволенасці, а мастацтвазнаўства дазваляе паглыбіцца ў тэматыку. Журналістыка ў чыстым выглядзе — прафесія залішне шматгранная. Журналіста вучаць усяму, але ўсяму па-крыху. Згадваю сваё навучанне на факультэце журналістыкі: напрамкі ад эканомікі, сельскай гаспадаркі да тэатра, мастацтва. Вельмі паважаю, калі журналіст паглыбляецца, засяроджваецца на пэўнай сферы: сацыяльнай, эканамічнай, спартыўнай, культурнай…

Спалучэнне журналістыкі як умення гаварыць з людзьмі і мастацтвазнаўства як паглыблення ў пэўную тэматыку высвечвае зусім іншыя грані, магчымасці валодання пэўнай тэматыкай. Яно мне вельмі дапамагае.

**— Якія прыярытэты для сябе вызначаеце ў сферы мастацтва як крытык, мастацтвазнаўца?**

— Шчыра кажучы, у мяне і тэма дысертацыі датычыць такой тэматыкі, як пейзаж у сучасным беларускім выяўленчым мастацтве. Але гэта тэма даследавання. Свой унутраны прыярытэт вызначаю ў тым, як спасцігаць шляхі развіцця мастацтва апошняга дзесяцігоддзя. Гэта досыць не даследаваны на дадзены момант шлях, таму што жывём у той сферы мастацтва, якая змяняецца літаральна ў нас на вачах. Пра гэта вельмі мала напісана: у асноўным не аналітычныя, а крытычныя артыкулы.

Маладыя мастакі — будучыня нашай культуры. Цікава назіраць за тым, што яны ствараюць, як ствараюць. Як ад класічных узораў, ад акадэмічнага мастацтва, якое ім выкладаецца ў БДАМ, яны развіваюцца ў авангардных, еўрапейскіх напрамках.

**— Ці ёсць у вас патрэба дзяліцца сваім досведам, навыкамі? Прыкладам, выкладаць.**

— Ведаеце, мне падаецца, што яшчэ момант менавіта выкладання для мяне не прыйшоў. Калі выкладаць, то ў кірунках другой паловы XX або пачатку XXI стагоддзя. Але існуе неабходнасць скласці нейкую агульную аналітычную карціну. А каб яе скласці, трэба як мага больш знаёміцца з творчасцю мастакоў, як мага больш рабіць абмеркаванняў, збіраць мастацтвазнаўцаў, якія цяпер знаходзяцца крыху ў разрозненым стане. Трэба скласці гэтую карціну з нейкіх аспектаў, і тады з'явіцца магчымасць выкладаць. Для мяне працэй выказацца праз літаратурныя творы, творы журналісцкага характару, але менавіта ў аналітычным рэчышчы.

**— Вы ўзначальваеце адзін са знакавых музеяў сталіцы, пісалі ў "ЛіМ", як нялёгка адбывалася яго станаўленне. Васіль Пятровіч даводзіў у вышэйшых інстанцыях неабходнасць стварэння такога музея. Ці ёсць перадгісторыя такой цікавай пераемнасці кіраўніцтва, бо вы вялі раней прэзентацыі, выступалі на вернісажах, жылі праблемамі ўстановы?**

— Для мяне самой было нечаканасцю, што ўзначаліла Музей сучаснага выяўленчага мастацтва. Сапраўды, гэта цікавы выпадак пераемнасці, але зусім не таму, што бацька мне пакінуў яго ў спадчыну. Зусім не. Тым больш, кандыдатура на пасаду дырэктара разглядалася вельмі доўга, нараджалася, па-сутнасці, дзевяць з паловай месяцаў. Я шмат гадоў займалася выяўленчым мастацтвам, і дадзеная прапанова была натуральнай. Для мяне гэта новая сфера, але яна ляжыць у агульнай сферы маіх інтарэсаў.

Калі прапанавалі стаць дырэктарам музея, падалося, што я не толькі магу працягнуць справу бацькі. Справа бацькі была важная тым, каб стварыць гэты музей, сабраць калекцыю, каб быў падмурак для развіцця ўстановы. А я бачыла сваю ролю, і бачу яе цяпер, каб развіць гэты музей менавіта як актыўны творчы цэнтр, дзе б віравала жыццё, дзе б збіраліся мастакі і класічных, і авангардных напрамкаў. Хай будзе ў нас невялікае памяшканне, галоўнае — уплыў, каб са сферы горада і краіны выйсці на міжнародную арэну. Здаецца, сёе-тое атрымліваецца. У нас ёсць вельмі цікавыя задумы на будучыню. Спадзяюся, што яны здзейсняцца.

**— Спынімся на асаблівасці вашай творчасці як мастацтвазнаўцы. Гэта галіна вымагае няспыннай працы, існавання ў творчай сферы: валоданне інфармацыяй, што і дзе адбываецца, якія новыя імёны з'яўляюцца на артпрасторы не толькі Беларусі, а і далёкага замежжа, аналізаваць. Якія ў вас крыніцы падсілкоўвання ведаў па мастацтвазнаўстве, бо свет мастацтва вялікі, ахапіць усё немагчыма?**

— Крыніц заўсёды шмат. Зрэшты, мы жывём не ў закрытай дзяржаве. Я, як і іншыя мастацтвазнаўцы, мастакі, маю магчымасць ездзіць за мяжу, глядзець Інтэрнэт, запрашаць з-за мяжы людзей, якія чытаюць нам лекцыі ці прывозяць выстаўкі. На такія лекцыі да нас прыходзіць шмат людзей. Бо гэта магчымасць азнаёміцца з першых вуснаў, пачуць, паглядзець ілюстрацыі, запытацца, зрэшты, што адбываецца ў нашых суседніх краінах. Нават тое, што мы ў сваім музеі вельмі многа працуем з замежнымі мастакамі, пасольствамі, адкрываем выстаўкі — таксама крыніца для набыцця новых ведаў. Прадстаўляем работы з міжнародных пленэраў — зноў-такі адна з крыніц. У нас праходзіць шмат пленэраў, прыкладам, па кераміцы. У гэтым годзе ініцыіравалі міжнародны пленэр па шкле на знакамітым шклозаводзе "Нёман", пасля якога будзем прэзентаваць яго вынікі.

Свет вялікі, свет шырокі, магчымасцей вельмі шмат. Імкнуся ўсе іх скарыстоўваць.

**— Ведаем вас яшчэ як аўтара манаграфій, прысвечаных выдатным творчым асобам: вучню вашага бацькі Міколу Селешчуку, Гаўрылу Вашчанку. Колькі слоў пра гэты бок вашай дзейнасці, гісторыю з'яўлення гэтых кніг.**

— Гэта для мяне таксама вельмі важная частка творчай дзейнасці. Якраз яна вынікае з майго журналісцкага валодання словам. Хоць і адышла на сённяшні момант ад актыўнай журналістыкі, але тым не менш, літаратурная работа мне блізкая, цікавая. Проста я перайшла крыху на іншую форму работы. І калі ўпершыню колькі гадоў таму мне прапанавалі напісаць кнігу пра Міколу Селешчука, пагадзілася. Бо кніга — як бы новая прыступка ад звычайнага журналісцкага артыкула. Да таго ж названыя асобы — гэта людзі, якія стваралі беларускае мастацтва, пра якіх павінна застацца нейкае сведчанне. Для мяне, напрыклад, Мікола Селяшчук не проста вучань Васіля Пятровіча, гэта чалавек, якога асабіста вельмі добра ведала. Мне падаецца, ён з'яўляецца падмуркам для станаўлення сучаснага мастацтва. На аснове яго творчасці выхоўвалася ўсё наша сярэдняе пакаленне. Пасля смерці Селешчука пра яго не было напісана ніводнай манаграфіі, кнігі. Важна, каб былі людзі, якія б пра яго выказаліся, пакінулі сведчанні ў гісторыі.

За апошняе дзесяцігоддзе ўпэўнілася ў тым, што калі пра асобнага мастака або выстаўку не застаецца нейкага каталога, альбома, манаграфіі ці кнігі, то, па-сутнасці, як гэта ні дзіўна, з'ява знікае. Калі няма пісьмовага сведчання, хоць артыкула, праходзяць гады — і ўсё сыходзіць у нішто. Так атрымалася з Селешчуком, які ў мастацтве адкрыў такую выяўленчую візуальную мову, на аснове якой цяпер працуюць дзясяткі мастакоў сярэдняга пакалення. Пасля яго смерці не засталося ні альбома, ні манаграфіі. Пра яго, так бы мовіць, памяталі толькі ягоныя сябры. Праз дзесяць год мы зрабілі кнігу-альбом, зладкавалі выстаўку. І яго адкрылі наноў. Прыходзілі маладыя людзі і дзівіліся: няўжо ў нас быў такі мастак? Зразумела, як гэта важна, каб пра творцу (не толькі пра мастака, а творцу ўвогуле) заставаліся вось такія пісьмовыя рэчы. Гэтыя кнігі для мяне як дзеці. Пісала толькі пра тых, пра каго мне хацелася пісаць, каго лічу асобамі ў нашым выяўленчым мастацтве. Спадзяюся, што дадзеныя выданні не апошнія, бо выношваю шмат задум.

**Заслужаны дзеяч мастацтваў нашай краіны дацэнт Барыс Аракчэеў нарадзіўся 19 красавіка 1926 года ў вёсцы Турбанава Яраслаўскай вобласці, добраахвотна пайшоў на фронт, у 1944-м быў накіраваны ў Бабруйск, а затым у Мінск. Заўважыўшы мастацкі талент, камандаванне дазволіла маладому салдату дэмабілізавацца, і ў 1950 годзе ён быў прыняты ў Мінскае мастацкае вучылішча. За паспяховае навучанне яго спачатку пераводзяць на другі курс, а затым — на трэці. Такім чынам, Барыс Аракчэеў экстэрнам закончыў вучылішча і, абараніўшы дыпломную работу, паступіў у толькі-толькі адкрыты Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, дзе яго педагогамі былі Х. Ліўшыц, В. Цвірка, В. Волкаў, А. Мазалёў.**



# Мастацкі марафон юбіляра

**Віктар КАВАЛЁЎ, фота аўтара**

Гэты знакаміты першы выпуск 1959 года не толькі нашай краіне, а і ўсяму свету даў такіх майстроў, як народныя мастакі А. Анікейчык, Л. Шчамялёў, В. Грамыка, А. Кашкурэвіч. Барыс Уладзіміравіч напісаў дыпломную работу "Этапы вялікага шляху" на "выдатна". Гэта палатно было адабрана для экспазіцыі ў Маскве на Усесаюзнай выстаўцы, не раз друкавалася ў розных выданнях Масквы і было закуплена Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі.

Творца працуе ў жанрах тэматычнай карціны, пейзажа, нацюрморта. Сярод яго асноўных работ — "Бэз ля студні", "Партызанскі дазор", "Мінск будуецца", "Хлеб", "У родным краі", "Бярэзіна", "Зямля Заслаўская", "Вечар у Жыровічах", Яраслаўскі цыкл, прысвечаны Максіму Багдановічу. Барыс Аракчэеў — адзін з чатырох аўтараў грандыёзнай дыярамы "Мінскі кацёл" у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Выкладаў у Мінскім мастацкім вучылішчы і Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

Да 85-годдзя Барыса Уладзіміравіча яго дачка, мастачка і куратар творчых праектаў дынастыі Аракчэевых Аксана Аракчэева, вырашыла наладзіць шэраг выставак. Пачалося ўсё з экспазіцыі "Фарбы Белай Русі" Барыса Аракчэева і яго дачок Алены і Аксаны ў памяшканні Міністэрства замежных спраў Беларусі. Потым у Палацы мастацтваў з поспехам прайшлі рэтраспектыўная выстаўка Барыса Уладзіміравіча "Этапы вялікага шляху" і выстаўка партрэтаў Аксаны Аракчэевай "Зазірнуць у люстэрка душы", якая паўстала своеасаблівай справаздачай перад бацькам — першым яе настаўнікам. Наступнай была сумесная выстаўка бацькі і дачкі "Пад знакам Оўна" ў Баранавічах, затым — экспазіцыя работ "Каўказскі загар" у сталічнай галерэі "ЛаСандр-арт", якія ніколі не экспанаваліся і былі напісаны падчас адпачынку і лячэння ў Хосце.

І вось, у галерэі "Мастацтва" ладзілася чарговая персанальная выстаўка юбіляра — "Край блакітных азёр". Са слоў Аксаны Аракчэевай, асноўную частку экспазіцыі складаюць краявіды, зробленыя на працягу апошніх пяці гадоў на Віцебшчыне, якая славіцца вялікай колькасцю прыгожых азёр. Гэта выстаўка адрознівалася ад папярэдніх тым, што творы зроблены ў адзін сеанс, а ля прыма. А яшчэ тым, што экспануюцца ўпершыню.

Падчас прэзентацыі выстаўкі "Край блакітных азёр" слова таксама бралі галоўны спецыяліст упраўлення мастацтваў Міністэрства культуры Беларусі Аляксандр Зіменка, мастакі Георгій Паплаўскі і Леанід Дударэнка і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славацкай Рэспублікі ў нашай краіне Марыян Серватка, які пачаў знаёміцца з гісторыяй і культурай Беларусі праз мастацкія галерэі.

Выступоўцы адзначалі, што хоць сюжэты, так бы мовіць, не прэзентабельныя, але карціны зроблены не салонна, а музейна, бо адчуваецца прафесійная школа і майстэрства ад Бога. Прыкладам, адно і тое ж возера ў вёсцы Мар'іна, куды мастак выязджаў амаль штогод, адлюстравана па-рознаму і выклікае розныя ўражанні. Хоць гэта не завершаныя работы, а эцюды, перадаецца настрой і пачуццёвасць.

Экспазіцыя знаёміць нас з нашай жа краінай, адкрывае яе маляўнічыя куточкі і краявіды. Барыс Аракчэеў імкнуўся перадаць той ці іншы стан прыроды і надвор'я: "Да завяршэння лета", "Возера Нарач", "Дуб Міцкевіча. Свіцязь", "Жоўты дзянёк", "Вясковая Лодачка"… Эцюды поўныя імпрэсіянізму і каляровага багацця. У гэтай нядаказанасці і ёсць майстэрства выдатнага жывапісца. Гэта мастак, які адчувае фарбы і, прапускаючы праз сябе, раскладвае іх, як мазаіку, на палатне.



***На здымках: работы Барыса Аракчэева "Гарбуз" і "Дуб Міцкевіча. Свіцязь".***

## Рэха вернісажаў

**ВіктарЗАЯЦ**

Музей гісторыі горада Гомеля запрашае наведаць выстаўку Алены Старыкавай "Гульня ва ўяўленне". У экспазіцыі прадстаўлена 30 жывапісных і графічных работ розных гадоў. У творчасці А. Старыкава знаходзіць адхланне, вызваляючыся ад руціны паўсядзённасці, магчымасць мастацкага ўвасаблення тонкага свету ўласных сноў і летуценняў, адкуль і чэрпае вобразы для сваіх работ.

Галерэя "Мастацтва" ладзіла выстаўку Ігара Рымашэўскага "Два тыдні лета". Мастацтвазнаўцы параўноўваюць яго з Пірасмані, Генералічам, а адзін з паэтаў вызначыў незабыўную манеру Рымашэўскага як "казачны рэалізм". У яго работах ледзь улоўная грань між светам рэальнасці і выдумкі. Перанесеныя на палатно ўражанні, героі, дамы і вуліцы — гэта ўсё тое, што атуляе мастака штодзённа, што яму неабыякава і што ён па-сапраўднаму любіць.

Экспазіцыя Андрэя Ісакова "Герой нашагу часу" дэманстравалася ў Гарадской мастацкай галерэі твораў Л. Шчамялёва. Гэта дыпломны праект аўтара, выпускніка Мінскага дзяржаўнага мастацкага вучылішча імя А. Глебава. У серыі з пяці жывапісных работ кожны твор — адзін з ракурсаў партрэта "героя", яго складовая частка. Акрамя галоўнай серыі, прадстаўлена некалькі іншых варыянтаў вырашэння той жа тэмы. Усе этапы работы над дыпломам у дадзеным выпадку цікавыя як хроніка разважанняў А. Ісакова над вечным пытаннем "Кто аз есмь?". Варыянт, прапанаваны маладым мастаком, паўстае сімптаматычным для нашага часу і ўжо з-за гэтага вельмі прыцягальным.

# ...Адпавядае вучонай ступені

**Уладзімір РЫНКЕВІЧ**

**У шэрагу беларускіх мастацтвазнаўцаў прыбыло. У Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі абараніла кандыдацкую дысертацыю па мастацтвазнаўстве Алена Шычко (навуковы кіраўнік — А. Пікулік). Як афіцыйны апанент, з задавальненнем магу пацвердзіць, што саіскальнік, праявіўшы выдатнае веданне сучаснага выяўленчага мастацтва і ўменне навукова апрацоўваць матэрыял, заслугоўвае прысваення вучонай ступені, на якую прэтэндуе. Дарэчы, графіку яна ведае не толькі тэарэтычна, але і практычна, бо скончыла графічнае аддзяленне Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і ўжо мае немалы вопыт у творчай і выставачнай дзейнасці.**

Тэма дысертацыі прысвечана сучаснаму беларускаму эстампу, выяўленню асноўных тэндэнцый яго развіцця ў перыяд 1980—2000 гадоў. Прымаючы прапанову апаніраваць дысертанту, прызнаюся, крыху сумняваўся, ці можа атрымацца глыбокае, аб'ектыўнае даследаванне на матэрыяле такога невялічкага перыяду, які яшчэ не паспеў адысці ў часы мінулыя і практычна не мае гістарычнай адлегласці для цэласнага бачання. Да таго ж вядома, што ў азначаны перыяд не шмат мастакоў займалася станковай тыражнай графікай па аб'ектыўных сацыяльна-гістарычных абставінах: са знікненнем дзяржзаказу друкаваная графіка ледзь выжывала. Але мае сумненні былі марнымі. Алена Віктараўна вельмі прафесійна падышла да працы па збіранні эмпірычнага матэрыялу і яго мастацтвазнаўчага аналізу. Ведаючы практычна ўсіх графікаў асабіста, яна атрымлівала творы "з першых рук", ад саміх мастакоў. Заўважым, што музейныя фонды эстампа 1980—1990 гадоў, мякка кажучы, вельмі сціплыя. Зразумела, што гэтая акалічнасць патрабавала ад даследчыцы асаблівай тактоўнасці і разам з тым прынцыповасці ў выказваннях і вызначэнні ацэнкі творчасці сваіх нядаўніх выкладчыкаў.

Асабліва цікавая тая частка дысертацыі, дзе гаворка ідзе пра графіку 1990-х гадоў. У першае дзесяцігоддзе новай беларускай дзяржаўнасці графіка набывала якасна новае мастацкае напаўненне, аснову якога склала творчая перапрацоўка айчыннай і сусветнай мастацкай практыкі. Менавіта ў гэты перыяд беларускі эстамп узышоў на еўрапейскія выставачныя пляцоўкі і атрымаў міжнароднае прызнанне, пра што сведчаць шматлікія факты прыведзеныя ў даследаванні. Заслугоўвае ўвагі таксама меркаванне аўтара пра праяўленне ўнутранага патэнцыялу беларускай графікі, забяспечанага, з аднаго боку, дасягненнямі папярэдняга перыяду, а з другога, актывізацыяй творчых пошукаў мастакоў у новых сацыяльных умовах. Знешнія прыкметы перамен выявіліся ў адлюстраванні раней забароненых або невядомых пластоў нацыянальнай і сусветнай культуры, стварэнні прынцыпова новай у айчынным мастацтве вобразна-стылёвай сістэмы беспрадметнага мастацтва. Вырашальнымі фактарамі развіцця эстампа 1990-х аўтар лічыць захаванне лепшых традыцый акадэмічнай адукацыі, творчае пераасэнсаванне мастацкага вопыту замежных еўрапейскіх краін, істотнае ўзмацненне інтэлектуальнага і асабістага аўтарскага пачатку, што выразна праявілася ў работах Л. Алімава, С. Балянка, К. Камала, А. Назарава, В. Слаука, Р. Сітніцы, Р. Сустава, Ю. Якавенкі і іншых графікаў.

Асноўныя навуковыя вынікі дысертацыйнай работы ўжо апублікаваны ў 16 артыкулах айчынных часопісаў і навуковых зборніках. Разам з сабраным ілюстрацыйным матэрыялам тэарэтычныя высновы маюць навуковую і практычную каштоўнасць. Выданне гэтага фактычна ўжо падрыхтаванага да друку матэрыялу ў выглядзе манаграфіі-альбома можа стаць дзейсным сродкам папулярызацыі беларускага эстампа.

# Творчая лабараторыя драўлянай скульптуры

**Алесь СУХАДОЛАЎ, фота аўтара**

**Існуе шмат прыкладаў таго, як з майстэрства апрацоўкі дрэва можна зрабіць своеасаблівы брэнд. Прыгадаем відовішчныя спаборніцтвы па тымбер-спорце, дзе цесляры з усяго свету паказваюць умельства абыходжання з сякерай. Ці Гару ведзьмаў ля Клайпеды ў Літве — парк драўлянай скульптуры, ператвораны ў сапраўдны турыстычны аб'ект. Пленэр айчынных разьбяроў таксама можа стацца гучнай падзеяй, асабліва калі з боку ўдзельнікаў праяўлены незвычайны, наватарскі падыход.**

Так адбылося ў Маладзечне, дзе прайшло X абласное свята-конкурс майстроў драўлянай манументальнай скульптуры "Сонечная цеплыня дрэва". На працягу дзесяці дзён 12 удзельнікаў з усёй Беларусі працавалі над скульптурнымі выявамі, каб аздобіць культурныя ландшафты Маладзечна і ваколіц. Пленэр праходзіў на базе дзіцячага цэнтра культуры "Расток".

Магчыма, гэты від мастацтва не павінен губляць сваёй повязі з прыродай, каб натуральна ўпісвацца ў навакольнае асяроддзе. Але работы ўдзельнікаў конкурсу "Сонечная цеплыня дрэва" паказалі, што спрадвечныя звычаі спалучаюцца з фармальным эксперыментам і могуць быць напоўнены сучасным зместам.

Сярод удзельнікаў сёлетняга пленэру найбольш смелым падыходам вызначыліся мастакі Аляксандр Завадскі з Мінска і Алег Пракарына з вёскі Сноў Нясвіжскага раёна, што, аднак, ні ў якім разе не прыніжае вартасці работ астатніх майстроў, якія засталіся ў некалькі большай ступені вернымі традыцыі. У іх творах якраз уражвае ўзровень валодання майстэрствам. Напрыклад, Леанід Сінько з вёскі Дзераўная Стаўбцоўскага раёна з масіўнай галіны дрэва выразаў лёгкіх, паветраных сычоў, што імкліва ўзнімаюцца ў неба. Дарэчы, у гэтай рабоце выявілася не столькі скіраванасць аўтара на вынік, колькі спроба практыкавання.

Скульптура "Купалле" А. Завадскага дэманструе імкненне аўтара надаць такому матэрыялу, як суцэльны ствол дрэва, незвыклую для яго пластычнасць. У мудрагелістых формах работы Аляксандра пераважаюць круглявыя абрысы, што, наогул, не тыпова для драўлянай скульптуры. Здавалася б, больш адпаведным для вырашэння такой задачы быў бы камень ці які-небудзь іншы матэрыял. Але, нягледзячы на гэта, аўтар здолеў дасягнуць сваёй мэты — і прадставіў публіцы сюррэалістычную скульптуру, у аснове сюжэта якой — народна-язычніцкія матывы. У работы А. Завадскага — кругавое аб'ёмна-прасторавае вырашэнне, бо яна не губляе прывабнасці з розных вуглоў агляду, паварочваючыся да гледача двума выразамі на ёй тварамі.

А. Пракарына выбудаваў цэлую скульптурную кампазіцыю пад назвай "Човен жыцця". У гэтага мастака — адмысловы метад: ён імкнецца захаваць фактуру прыроднага матэрыялу, усяго толькі дапаўняючы яе разьбянымі рэльефнымі ўстаўкамі, літарамі, іншымі дэталямі. З творчай непасрэднасцю, як дзеці, што пакідаюць свае надпісы на дрэвах, майстар імпульсіўна апрацоўвае натуральную аснову. Можна сказаць, што Алег у сваёй творчасці ўжывае прыём аўтаматычнага пісьма, выснаваны сюррэалістамі. Разам з тым, яго работа застаецца глыбока філасофскай і захоўвае міфалагічны змест. У прамым значэнні човен наводзіць на думку пра падарожжа, а ў пераносным — успрымаецца як сувязное звяно паміж светам людзей і светам памерлых. Адначасова на чоўне А. Пракарыны выразаны жаночы і мужчынскі рэльефныя партрэты, а паміж імі — выява дзіцяці-зародыша. Усё вытрымана ў стылі славянскай ці то скандынаўскай міфалогіі — з характэрнымі элементамі арнаментаў. Човен, які плыве ў бясконцым моры, на якім змяняюцца адно аднаго пакаленні пасажыраў. Мастак прадставіў дасціпнае ўвасабленне думкі пра кругаварот жыцця.



Нетыповае ўяўленне пра анёлаў уклаў у сваю работу майстар Уладзімір Хіхіч з гарадскога пасёлка Крывічы Мядзельскага раёна. Яго скульптура "Пасланнік" выяўляе двух з паловай метровага анёла з жаночым ці то бясполым целам і загадкавым тварам іншапланецяніна. Такое бачанне зближае народнае рамяство са светам кінафантастыкі.

Спадчынны разьбяр Васіль Сілкоў з Гомеля стварыў работу "Жняя", найбольш адпаведную традыцыям продкаў. Плаўныя, нібы жывапісныя контуры, закругленыя вуглы, абагульненая выява чалавечага аблічча сведчаць пра гарманічнае, сапраўды народнае, старажытнае ў сваёй аснове светаўспрыманне. Рукамі жанчына нібыта падтрымлівае плод у сваім чэраве, прычым тая рука, што знаходзіцца ніжэй, нагадвае па сваіх абрысах серп. Зноў жа тут закладзена архетыповае ўяўленне пра характэрны для фальклору цыклічны характар жыцця і часу.

Іншы ўдзельнік з Гомеля прафесійны скульптар Валерый Казлоўскі ўвасобіў больш прыкладную гульнёва-навучальную кампазіцыю — "Горку-бум", што ўяўляе сабой шэраг пянькоў-прыступак, а паміж імі — лаз, аздоблены з двух бакоў рознымі выявамі вавёрак. В. Казлоўскі сумясціў у сваім рашэнні практычны і эстэтычны пачаткі.

Сутнасна народнае разуменне драўлянага дойлідства прадэманстраваў разьбяр Мікалай Задрэйка з Івянца. Узнёслая і рамантычная работа "Лебедзь" выяўляе велічнага птаха ў промнях шчырасці і цеплыні народнага мастацтва. Іншая работа Мікалая "Цмок" ухмыляецца трыма галовамі на доўгіх шыях, што растуць з цела, якое служыць адначасова лавай для сядзення.

Старэйшы з удзельнікаў пленэру, былы дэсантнік Іван Васілевіч з Капыля ўвасобіў традыцыйнага мядзведзя з куфлем у руцэ і бочкай мёду. Большага па памерах дабрадушнага мядзведзя, урослага ў ствол дрэва, выразаў майстар Фёдар Клунко з вёскі Знамёнка Брэсцкай вобласці. Сяргей Дубяга з Вілейкі, педагог і дырэктар мясцовага дома рамёстваў, стварыў скульптуры барадатага "Нептуна", падобнага да язычніцкага стода, і хітрага "Ката", што хавае за спінай рыбіну. Случчанін Алег Шапель прадставіў высокі слупавідны твор "Ясь і Яніна".

Плануецца, што створаныя падчас пленэру работы будуць упрыгожваць тэрыторыю маладзечанскага парку Перамогі, уздоўж згаданага дзіцячага цэнтра культуры "Расток", а таксама раённага цэнтра рамёстваў у вёсцы Красоўшчына і музейнага комплексу ў вёсцы Плябань. Такім чынам, пленэр "Сонечная цеплыня дрэва" арганічна дапоўніў шэраг мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да рэспубліканскага свята "Дажынак", што адбудзецца сёлета ў Маладзечне.

***На здымку: Уладзімір Хіхіч "Пасланнік".***

**Вядучы праекта — рэдактар аддзела мастацтва Віктар Кавалёў**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## Афарызм

*Нястойкая няўдача лепей за нястойкую ўдачу.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

## З глыбінкі

# Адчуваць сябе шчаслівай

Традыцыйнымі сталі ў Бярэзінскай раённай бібліятэцы Мінскай вобласці пасяджэнні клуба творчых сустрэч цыкла "На агеньчык да землякоў", які аб'ядноўвае аматараў літаратуры і роднай мовы, самабытнай мастацкай культуры і народнай спадчыны бярэзіншчыны. Кожнае пасяджэнне — гэта адкрыццё новых старонак роднага краю, жыцця і дзейнасці аматараў прыгожага пісьменства, таленавітых людзей.

На гэты раз у актавай зале бібліятэкі адбылася жывая, зацікаўленая размова з аматаркай прыгожага пісьменства, жыхаркай вёскі Любушаны Галінай Яблонскай, падчас якой прайшла прэзентацыя зборніка яе твораў "Неба зззяе промнямі душы".

Галіна Антонаўна добра вядома жыхарам вёскі Любушаны, бо там яна нарадзілася, там прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады. Пасля заканчэння мясцовай школы паступіла ў Мінскі тэхнікум савецкага гандлю, у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

У лютым 1995 года Галіна Антонаўна вярнулася ў родную вёску і стала выкладаць у мясцовай школе, дзе працуе і цяпер. Шмат цікавага спазнаюць пра родную мову яе вучні і ўдзельнікі гурткоў літаратурна-выхаваўчага кірунку "Буслікі" і "Зараначкі" пры Любушанскай СШ, кіраўніком якіх з'яўляецца Галіна Іванаўна. Дзеці не толькі слухаюць кіраўніка, які валодае паэтычным дарам, а і самі спрабуюць свае здольнасці ў напісанні вершаў, казак і легенд.

**Наталля МАЕЎСКАЯ, г. Беразіно**

# На канцэрт да «Канцэрціны»

Дзесяць юных скрыпачак, навучэнак Лунінецкай дзіцячай школы мастацтваў разам з трыма выкладчыкамі — мастацкім кіраўніком Эдуардам Белавусам і канцэртмайстрамі Вольгай Белавус (скрыпка) і Валянцінай Савінкінай (фартэпіяна) на працягу гадзіны ўражвалі землякоў выдатным выкананнем складаных музычных твораў.

Канцэрт пачаўся класічнымі "Concerto mini" Карша і "Жартам" Гайдна, працягнуўся народнымі песнямі "Буронка" (шатландскай) і "Як крыніца цячэ" (беларускай). Пры выкананні трох частак з "Concerto grosso" Карэлі саліравалі старшакласніцы Аляксандра Даніловіч і Юлія Каляновіч. "Мазурка" Бакланава прыгожа прагучала ў дуэце Ганны Белавус і Валерыі Бузынчык. Скрыпічны ансамбль расквецыўся аксамітнымі гукамі баяна (Ірына Буневіч) і гітары (Віктар Круглік) у "Libertango" П'яцолы. Вяршыняй вакальнага і музычнага мастацтва стала выкананне "Pieta Signore" Страдэлы з салісткай Наталляй Мурко.

Удзельнічалі ў праграме і маленькія Даша Сыцэвіч і Надзея Шпакоўская, якія вывучаюць скрыпку ў падрыхтоўчым класе. А гэта значыць, расце змена камернага ансамбля "Канцэрціна", які восьмы год з годнасцю носіць ганаровае званне "ўзорны"!

**Тацццяна КАНАПАЦКАЯ, г. Лунінец.**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ**





**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by





Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства** "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2801
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 14.07.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3347
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12